— А вашы бацькі не крычаць?

— Нашы прывыклі ўжо. А чаму вы,—Аксана яшчэ раз кінула поглядам на Кастусёў твар,—так рэдка пісалі нам у ячэйку. Як адыходзілі, казалі, будзем пісаць вунь сколькі, а пашлі, дык за паўтара гады лістоў дзесяць ці прыслалі.

— Не было як пісаць.

— А хіба вы па нас сумавалі?—умяшаўся у гаворку Ёська, які да гэтага маўчаў.

— А няўжо-ж не? — на яго Аксана кінула задзірысты погляд і зразу-ж зірнула мелькам на Кастуся. — Яшчэ як сумавалі, вунь Марыля па табе ўсе вочы праплакала.

— Ну, ты ўжо пагавары, пачала бараніцца Марыля.—Сама ты вочы праплакала.

— А яна-ж па кім-жа?

— Няхай сама скажа.

Аксана густа пачырванела, адыйшла ад пасцелі да Марылі і закрыла яе твар рукамі:

— Ты хаця не прыдумай чаго.

— На што мне прыдумваць, калі гэта праўда.

— А ну, цябе, маўчы... Скажы лепш, куды сёння на вячоркі збярэмся.

— Ай, якая хітрая, — Ёська разрагатаўся,—адразу-ж пра іншае загаварыла.

Аксана азірнулася на Ёську, змеціла Кастусёў белы твар і адвярнулася.—Нічога, я не хітрая. Ну, хадзем, Алена. Давайце сёння ў нас збярэмся, дзяўчаты, а? Давайце! Вось малайцы. Я пайду лучыны смольнай пасяку, каб на ўвесь вечар хапіла.

— А нам можна прыйсці?—запытаў яе Ёська.

— Калі хочаш, прыходзь, месца на лаўцы хопіць. Можа раскажаш нам што-небудзь.

— Ага, прыходзь сапраўды,—падтрымала яе Марыля.

— Калі так, прыду. Вось шкада толькі, што Кастусь не можа хадзіць. На фронце не здаваў, а тут здаў. Прышоў дадому, тут табе толькі ведай, гуляй, на вячоркі хадзі, а ён лёг і ляжыць.

— Я пасля сваё адхаджу,—сказаў Кастусь,—як ачуняю.—Гаворачы, зірнуў на дзяўчат і на момант спаткаўся поглядам з Аксанінымі вачыма.

— Ну, хадзем, Аленка. Мне-ж трэба яшчэ лучыны насеч.—І, нічога больш не сказаўшы, яна першай пашла з хаты.

Дзён праз сем у Шапятоўцы спынілася, размясціўшыся ў сялянскіх хатах, рота чырвонаармейцаў. Чырвонаармейцы пешшу, пераходамі ішлі да мяжы, куды прызначана была рота, і па дарозе спыніліся на пару дзён для адпачынку ў Шапятоўцы. У той-жа вечар Ёська, даведаўшыся, што ў роце ёсць фельчар, пашоў да камандзіра роты і папрасіў яго, каб ён дазволіў фельчару паглядзець хворага Кастуся. Камандзір ахвотна згадзіўся і адразу-ж паслаў чырвонаармейца з Ёськам, каб знайсці фельчара, а яшчэ хвілін цераз дзесяць-пятнаццаць фельчар сядзеў на лаўцы ў Тарэнтавай хаце і гутарыў з жанчынамі, якія сабраліся да Шкробацíхі пасядзець. Быў фельчар не стары яшчэ, нізкарослы, у чырвонаармейскай вопратцы. Шапку сваю ён, як прышоў у хату, зразу і павесіў на сцяне на круку, а сам сеў на лаўку, пачаў церці рукі адна аб другую, каб хутчэй нагрэць іх. Калі-ж рукі сагрэліся, ён падняўся з лаўкі, і, скінуўшы шынель, пашоў да пасцелі, на якой ляжаў Кастусь.—Паднясіце сюды бліжэй лямпу,— папрасіў ён, і ўзяўшы Кастуся рукой за спіну, пасабіў яму падняцца

і сесці. Да пасцелі падыйшла з лямпай маці, а за ёю і Ёська, і жанчыны, якія падняліся з лаўкі. Яны абступілі пасцель поўкругам.

— Што-ж ты, хлопча, здаў?—паспрабаваў жартаваць фельчар.

Кастусю дужа хацелася ўсміхнуцца ў адказ яму і нешта сказаць, але кружылася галава, муцілася нешта ў ваччу і ён нічога не сказаў, і не ўсміхнуўся, толькі зірнуў угару, у твар фельчару і, каб не ўпасці на ложак, упёрся ў яго рукамі ў сябе за спіной.

— Покаж, браце, язык. Во так... Ага... На самым сяродку белы, а па краёх і канец самы чырвоны... Так...—узяў у гаспадыні лямпу і павёў ёю ў Кастуся перад вачыма. На лямпу Кастусь спачатку палахліва заміргаў вачыма, а пасля схіліў уніз галаву, каб не бачыць святла. Так... Вочы чырвоныя, баяцца святла. А галава баліць? Шуміць галава?

— Баліць,—ціхім голасам адказаў Кастусь.—Шум увесь час як бы што сядзіць у вуху.

— А цяпер, браце, сядзь да мяне спіною. Вось так,—пасабіў Кастусю павярнуцца, падняў да самай галавы ягоную кашулю і ўважліва аглядзеў спіну.

— Сыпняк у яго,—сказаў ён, павяртаючыся да жанчын.—Сыпны тыфус. Ён даўно ўжо хворы?

— Дзён восем.

— Значыць, цераз чатыры дні крызіс будзе. Калі вытрымае, тады жыў будзе.—Зірнуў на пасцель.—А хто тут яшчэ спіць?

— Ды ўсе-ж мы,—адказала гаспадыня.—Хата-ж такая, што ў ёй дужа не разгонішся.

— Гэта небяспечна. Вы хоць троху пасцель ід яго ідсуньце. Каб цэ раніш, тодзі-б его ў больніцу варта было-б завезці, але цяпер ужо лепш не чапаць. Дні цераз чатыры ідаць будзе. Калі мы не пойдзем яшчэ ад вас, дык я наведаюся вечарамі.—Фельчар накрыў Кастуся коўдраю і зноў адышоў ад лаўкі.—А як ён спіць, спакойна?

Гаспадыня ўсё яшчэ стаяла пасярэдзіне хаты з лямпай, разгублена пазірала то на фельчара, то на сына. Слоў фельчаравых яна не зразумела і не адказала на іх. Тады суседка кранула яе за плячо:

— Ганна! пытаюць ці спіць ён? Ці спакойна спіць?

— Які ўжо там сон? Гаворыць усё нешта ў сне, варочаецца. Мой вы дарагі, таварыш фельчар. Можа-б вы, калі гэта не цяжка, яшчэ наведвалі-б яго. Дужа-ж баюся я...

— Я наведаю, вечарамі буду заходзіць. Цераз чатыры дні міне крызіс і хлапец ачуняе, вы толькі сцеражыцеся, каб яшчэ хто ў хаце не захварэў.

— Мы старыя, можа не захварэем, мы гэта тут-о спім,—яна паказала рукой на ложак,—а дачка на палацях спіць.

— Гэта добра, што яна на палацях. Але і самім трэба сцерагчыся.—Фельчар загаварыў пра тыфус, пачаў тлумачыць жанчынам, як ад яго можна ўберагчыся. Да гаворкі прыслухоўваўся, лежачы на ложку, і Кастусь. Ні жанчын, ні фельчара ён цяпер не бачыў, пазіраў на чырвоную сцяну, спакайней так было для воч. Ляжаў нерухома, выцягнуўшыся на ўсю даўжыню і думаў пра фельчаравы словы адносна крызіса. Пра тое, што можна ад тыфусу памерці, ён нават не ўмеў і падумаць, настолькі гэта было незразумелым. Думкі пра смерць асацыіраваліся з уяўленнем пра адчуванне, якое было, калі фельчар дакрануўся да яго спіны халоднымі пальцамі сваіх рук. Здавалася, смерць можа прысці толькі так, падкраўшыся ззаду, і Кастусь інстыктыўна, яшчэ шчыльней туліўся плячыма да падушкі, баючыся павярнуцца да яе тварам. На сцяне ўгары перад вачыма мітусіліся нейкія

цені, і, углядаючыся ў іх, Кастусь чуў аднекуль здалёк нібы ціхую фельчараву гаворку.—„Навука такога яшчэ дасягне,—гаварыў фельчар,—што чалавеку зусім не трэба будзе столькі багата харчоў. Вынайдуць вучоныя такія пілюлі, што пракаўтне іх адну або дзве чалавек і сыт будзе, зусім сыт будзе, як бы і багата чаго з'есць“...—І Кастусь уяўляе, што пілюлі будуць у маленькіх каробачках з картону і чамусьці ўяўляў, што абавязкова яны будуць белыя. Яму нават здалося, што такія пілюлі ён дзесьці раней ужо бачыў нават. Напружваючы памяць, ён прыпомніў, што бачыў іх некалі ў цягніку ў аднаго чалавека, які быў у даўгім штацкім паліце. Ён час-ад-часу вымаў такую картонную каробачку з кішэні, даставаў з каробкі кончыкамі пальцаў кругленькія, як зерні, белыя, як снег, пілюлі і каўтаў іх, а пасля запіваў вадою.

З гэтымі думкамі Кастусь задрамаў і не чуў, калі ўсе разышліся з хаты. Прачнуўся-ж ноччу і здзівіўся, што ў хаце цішыня і ўся хата запоўнена ружовым святлом, у якім лётаюць яркія сінія іскры. Іскры выляталі на сярэдзіну хаты з-за печы, ад парогу і пасля доўга насіліся па ёй, пакуль ападалі на стол, на падлогу, або на пасцель. Падалі яны і на яго коўдру. Зусім блізка. Упадзе іскра і свеціцца сінім агеньчыкам. Каб не згарэла коўдра, ён рукою змятае іскры на падлогу. А якія не можа дастаць рукою лежачы, скідае падняўшыся з падушкі. Але як іскраў у хаце ўсё больш і больш, цэлымі табунамі носяцца яны па хаце, вылятаючы з ружовага полымя, якое з'явілася каля парогу. Цэлымі табунамі садзяцца іскры на коўдру. Схінаецца над коўдрай. Кастусь, змятае іх абодвума рукамі, пасля проста страсае іх з коўдры, але яны ляцяць на пасцель, што ў ягоных нагах, на якой спяць бацькі, і тады голасна на ўсю хату, скідаючы з сябе коўдру, ён крычыць:

— Пажар! Тата! Пажар!—а сам спуджана падае на падушку, адчуўшы за плячыма холад, і пальцамі драпае сяннік, шукае коўдры і яшчэ крычыць аб пажары. Перапалоханыя бацькі злезлі з пасцелі. Бацька стаіць над ім, укрывае яго коўдрай і супакойвае, а побач стаіць і дрыжыць уся маці. У руцэ ў яе кварта з вадою, якую яна сама не ведае для чаго ўзяла, як закрычаў Кастусь. Ад страху дрыжыць яна ўся і дрыжыць рука, у якой кварта з вадой. Вада боўтаецца ў кварце і патроху выліваецца ёй на ногі. Ад ног па целу падымаецца холад. Калі холад дабіраецца да плеч, у яе самі пачынаюць стукацець зубы.

— Што-ж гэта, божа мой...—шэпча яна і не можа скрануцца з месца, каб паставіць на лаўку кварту, якая ёй зусім не патрэбна. Шэпт яе чуе Кастусь і паказваючы рукой у парог, кажа:

— Пажар! там гарыць, патушыце...

— Нічога, сынок, не гарыць. Табе здалося.—Бацька хавае Кастусёвы рукі пад коўдру,—засні хоць троху.

— Патушы, там гарыць,—настойвае Кастусь і падымае з падушкі галаву, каб паказаць дзе гарыць.

— Добра я патушу, зараз патушу, а ты засні. Заплюсні вочы і засні.

Кастусь заплюскае вочы і ляжыць нерухома і ціха. Асцярожненька на цыпачках ідзе з месца маці і ставіць на лаўцы каля вядра кварту, а сама становіцца плячыма да печы, каб сагрэцца і доўга стаіць так ледзь не да самага ранку. Адтуль з-за белай печы, непрыкметная, яна ў белай кашулі—маці пахвілінна пaглядае на Кастусёву пасцель і прыслухоўваецца, ці не варочаецца ён, ці не трэба яму чаго. На запечку нерухома сядзіць, прытуліўшыся плячыма да печы, бацька.

Ён доўга сядзіць моўчкі пасля паціху гаворыць жонцы, каб яна лягла спаць, а ён сам пасядзіць, бо выспаўся. Але жонка таксама не ідзе спаць, і абодвы яны не спяць, і абодвы разам на золку бачаць, як праснуўшыся доўгі час нерухомымі, як бы асцеклянелымі вачыма пазірае Кастусь на коўдру; яна прыўзнята і скамечана каля яго ног. Нейкі час пазірае так Кастусь, пасля правёў па вачах рукой, выцер іх зноў, зірнуў, на коўдру і, раптам ірвануўшыся целам да сцяны на падушку, нагамі шыбануў з сябе на падлогу коўдру.

— Бомба!—крыкнуў ён.—Яна дыміцца! Яна зараз-жа разарвецца. А-ай!..—закрываючы твар рукамі, мятнуўся з пасцелі, але бацькавы рукі ў час падхапілі яго і не далі ўпасці на падлогу. На гэны раз прыпадак паўтарыўся тры разы. І калі Кастусь супакоіўся зусім, бацькі не адыходзілі ад пасцелі, схіліўшыся над сынам, стаялі каля пасцелі. Бацька як накрыў Кастуся, так і стаяў, трымаючы ў руцэ коўдру, а маці рукою лёгенька гладзіла коўдру на выцягнутых на ўсю даўжыню сынавых нагах, а другой рукой пахвілінна выцірала вочы.

У прыпадках прайшло пяць дзён. У гэныя дні Тарэнтаву хату па некалькі разоў наведваў фельчар, правяраючы хворага. На шосты дзень раніцою, распытаўшы бацькоў пра хворага, фельчар супакоіў іх.

— Цяпер ён будзе жыць,—сказаў фельчар.—Крызіс мінуў. Гэта самае галоўнае, каб крызіс мінуў.

— Дай-жа вам бог,—гаспадыня прыпынілася была.—Хоць можа вы і не верыце ў бога, але няхай ён дасць вам здароўечка. Вялікае дзякую вам.

— Не веру, але хай дае здароўя, калі мае, калі вы ўжо так хочаце. Здароўе мне патрэбна.

І ў той жа дзень, пасля полудня, Кастусь пачуў, як спявае маці. Пела яна ціха, упоўголаса, думала, што Кастусь спіць, і баялася разбудзіць яго. Пела пра сваю маладосць, а можа і пра сынаву маладосць, за якую так перабаялася за ўсе гэныя дні:

За гарою каменнаю,—пела яна.—
Галубы лятаюць.
Не зазнала раскошы я,
Ужо леты мінаюць.
Запрагайце, хлопцы, коні,
Коні вараныя.
Ды давайце дагняці
Леты маладыя.
Даганялі і дагналі
На кляновым мосце.
Вярніцеся, леты мае,
Ды да мяне ў госці.
„Не вярнемся, не вярнемся,
Паляцім за мора.
Бо не ўмела шанаваць нас,
Як свайго здароўя...“

Кастусь падцягнуўся вышэй на падушку і рукой пацёгся да лаўкі, на якой ляжалі прынесеныя некалі Ёськам кнігі, і адну з іх узяў, хацелася паспрабаваць чытаць. Але калі паднёс да вачэй кніжку, перад вачыма ўсё засумяцілася, а літары і словы ў кніжцы замітусіліся па белай паперы, і разабраць слоў ад гэтага нельга было. Млела і рука, не хацела трымаць кніжкі і, паклаўшы руку з кніжкай на коўдру, на калены сабе, ён доўга ляжаў так, здзіўлены сваёй кволасцю, а пасля паклаў кніжку на месца.

Яшчэ цераз дзён шэсць, калі Кастусь мог ужо сядзець на ложку, абапёршыся спіной да сцяны, захварэла маці. Пра тое, што маці

хворая першым і даведаўся Кастусь. Маці хацела паставіць раніцою ў печ чыгун з бульбай. На руках данесла яго да прыпячка, а як узяла на вілкі і падняла, каб падаць яго далей у печ, рукі задрыжэлі, закружылася галава і чыгун перавярнуўся ў печы на самай чарэні. Падняць чыгуна маці ўжо не змагла. Галава так закружылася, што, каб не ўпасці, яна пасунулася, трымаючыся рукамі за печ, да пасцелі і як села, паклала на падушку галаву, ды так і ляжала, слухаючы, як сіпіць у печы на чэрані разлітая з чыгуна вада. З гэтага часу маці з пасцелі не ўставала і ў хаце гаспадарылі Марыля і бацька.

Дзён цераз сем пасля таго як злягла ў пасцель маці, падняўся ўпершыню з пасцелі Кастусь і паспрабаваў хадзіць па хаце. Ён быў настолькі кволым, што доўга не мог устаяць на нагах і амаль увесь дзень сядзеў на лаўцы каля вакна, любуючыся на сонечны, блізкі да вясновага дзень. На дварэ яшчэ ляжаў снег, толькі ў полі паказаліся чорныя лапікі голай зямлі, але так яскрава свяціла сонца, так дружна цэлымі цуркамі цяклі са страхі кроплі вады, так дружна чырыкалі на дварэ, на сметніку вераб'і, што вясна здавалася зусім блізкай. І каб адчуць яе яшчэ больш, Кастусь ускінуў на плечы світу і выйшаў на двор. На ганку яго адразу асляпіла сонца, і галава ажна закружылася ад чыстага паветра, якім дыхнула на яго разам з ветрам. Каб пастаяць на сонцы, накіраваўся пайсці за вугал хаты, але з-за вугла зразу падуў мацнейшы вецер, і ён ледзь не ўпаў. Утрымаўся на нагах толькі таму, што ўхапіўся рукамі за драбіну, якая стаяла каля хаты і, адпачыўшы, паціху пашоў назад у хату, нясучы з сабою на вуснах горкую ўсмешку. Смяяўся з сваёй такой вялікай кволасці. Затое яшчэ дзён цераз сем ён ужо зусім амаль не адчуваў кволасці і мог ужо спраўляцца з працай каля двара, ды затое захварэў бацька. Напярэдадні перад тым, як легчы ў пасцель, бацька цэлы дзень рабіў нешта каля новай хаты. Увечары, ні на што не скардзячыся, ён лег на печы, а на заўтра не падняўся, а папрасіў Кастуся пайсці даглядзець каня і карову. Пасля, калі Кастусь паснедаў, бацька зноў клікнуў яго да сябе.

— Нешта нядобра мне,—сказаў ён.—Ломіць. Можа ты схадзіў-бы у Лесавіцу да Саўкі, папрасіў-бы, няхай дасць бутэльку самагонкі. Я яму пасля заплачу. Як вып'ю, дык яно пройдзе ўсё гэта ў мяне.

— Не добра ж мне ісці,—хацеў было адмаўляцца Кастусь, але падумаў, што самагонка патрэбна бацьку, як зелле, і пашоў.

Саўка—царкоўны сторож. Сторажам пры царкве служыць ён даўно, як помняць людзі, п'яніца сам, заўжды мае самагонку, каб прадаваць яе сваім знакомым. Калі прышоў да яго ў хату Кастусь у чырвонаармейскай форме, ён спаткаў Кастуся каля самага парогу ў першай палавіне хаты і, пагладжваючы нервовымі рухамі рук рэдкую куцую бараду, над якой узвышаўся вялікі, перакушаны некалі паповым канём чырвоны нос, доўга падазрона аглядаў яго.

— Я з Шапятоўкі, Шкробата Тарэнты сын,—вытлумачыў Кастусь.

— А-а, ведаю. Чаго-ж ты да мяне?

— Захварэў бацька, мусіць тыфус, дык вось просіць, каб вы далі для яго бутэльку самагонкі. Сказаў, што палічыцца з вамі пасля.

Саўка недаверліва аглядзеў Кастуся, але не змеціўшы на ягоным твары нічога падазронага, буркнуў пад нос сабе: „добра" і хутка аднекуль з сенечак ці з двара, прынёс бутэльку з самагонкай, закручаную ў газету, і сам пасабіў Кастусю пакласці яе ў кішэнь штаноў, каб яе ніхто выпадкам не заўважыў.

На прашчанне ён ківае галавою Кастусю і папярэджвае:

— Ты-ж глядзі, нідзе не прагаварыся, што ў мяне браў яе.

— Я не маленькі...

У дарозе Кастусем авалодалі не новыя ўжо для яго думы. Хутка вясна. Не ўгадаеш, калі яна пройдзе, а там праміне і лета. З восені яны з Ёськам парашылі абавязкова паехаць куды-небудзь вучыцца. Калі сур'ёзна брацца за гэта, значыць трэба брацца з самай вясны, каб даведацца, дзе што ёсць, куды кінуцца. Сам Кастусь марыць пра такую школу, пасля якой мог бы ён стаць „тэхнікам па электрычнай справе", так ён найменаваў сваю спецыяльнасць, да якой і марыў дайсці. Захапленне электрычнасцю прайшло да Кастуся раптам, пасля таго, як будучы ў арміі ён у адным з прыфрантовых гарадоў схадзіў з групай чырвонаармейцаў на экскурсію ў фізічны габінет мясцовага вышэйшага пачатковага вучылішча, дзе настаўнік фізікі дэманстраваў і вопыты па электрычнасці. Пасля гэтага чорныя, што круцяцца ў розныя бакі, кругі з наклеенымі на іх бліскучымі паперкамі і ўспышкі электрычных іскрак, засталіся ў ягонай памяці на заўжды і імі як-бы азначыўся Кастусёў шлях у будучнасць. І хоць бачыў Кастусь гэны свой шлях яшчэ толькі ў марах, быў ён асляпляюча яркім і вабіў і клікаў за сабою, абуджаючы ў ім дрымотныя невядомыя яшчэ самому сабе сілы. Ад таго праменні сонцавы, якія паблісквалі на дрэвах на дарозе, і час-ад-часу краналіся ягонага твару, прабіваючыся згары праз гушчу хвой, здаваліся Кастусю бліскамі электрычных сіл, рассыпаных па-над зямлёю, і ўжо зусім зачараваны і асьлеплены імі, як выйшаў з лесу, Кастусь з заплюшчанымі вачыма сеў на капец, што стаяў пры дарозе, на якім ужо зусім не было снегу. Так сядзеў ён пад сонцам некалькі часу, схаваны лесам ад ветру расхінуўшы полы шыняля, аддаўшыся марам.

---

## ПАДЗЕЯ ДВАНАЦЦАТАЯ

Як і тры гады таму назад, калі шапятоўская ячэйка выпраўляла на фронт трох лепшых сваіх хлапцоў, цяпер зноў у тым-жа самым пакоі адбываўся сход, якім ячэйка выпраўляла хлапцоў у далёкі, нікому ў ячэйцы невядомы горад Маскву. Той-жа стол, моцны, шыраканогі, стаяў на старым сваім месцы каля глухой сцяны, непадалёк ад вакна ў другой сцяне. За сталом стаяў сакратар ячэйкі Міхаль Ганорык. Заглядаючы ў паперкі, разгорнутыя на стале, ён робіць даклад.

— Вялікі правадыр працоўных таварыш Ленін у сваім артыкуле пра новую эканамічную палітыку нашага ўрада піша так...—Міхаль доўга, не спяшаючыся, чытае надрукаванае ў газеце, якую ён дастае з-пад паперак, а пасля яшчэ пераказвае прачытанае сваімі словамі і, паклаўшы па звычцы, падбародкам галаву на свае кулакі, Кастусь дзівіцца, як складна і проста гаворыць Міхаль. Час-ад-часу ён паварачвае галаву да Аксаны, якая сядзіць побач з ім і шэпча:

— Маладзец Міхаль, сапраўды маладзец. Ён гэта на якіх курсах быў?

— На палітасветных. Але колькі-ж ён быў там, усяго-ж тры месяцы. Вось вы як паедзеце, дык невядома калі і вярнецеся.

— Вернемся, а то дзе мы дзенемся.

— Неяк мне страшна, калі я думаю, што паедзеце вы. Тады гэтак-жа ўтраіх і цяпер ізноў.

— Ну дык што?

— Мне здаецца, што зноў нехта з вас не вернецца, як тады Рыгор.—Аксана пазірае то ў твар яму, то на стол і мігае пачырванелымі вачыма.

— Ну, што ты, цяпер-жа мы не на фронт едзем.

— І я ведаю, што не на фронт, але неяк страшна мне, як успомню пра Рыгора. Вельмі шкода мне яго.

— Усім шкода, ды нічога-ж не зробіш. У той дзень нашых вельмі багата пабілі. А Рыгор-жа на маіх вачах памёр, мне дакуманты свае аддаў і скончыўся. Гаварыць не мог. Я пасля некалькі дзён як непрытомны хадзіў і каб не Ёська, можа звар'яцеў-бы. Дужа неяк пасля гэтага страшна зрабілася, смерці, як ніколі, баяўся... А цяпер чаго-ж баяцца? Рабфак, гэта табе не фронт...—Ён усміхаецца і за ім, патупіўшы вочы ў стол, усміхаецца Аксана.

Пытанне пра пасылку на вучобу ў рабфак пры Маскоўскім Ламаносаўскім электратэхнічным інстытуце стаяла апошнім у павестцы дня схода. Калі дайшла чарга да гэтага пытання, Міхаль растлумачыў, што з Масквы з рабфака атрымана паперка на імя Кастуся Шкробата і Ёські Гобермана, якім ячэйка і дае сваю рэкамендацыю.

— Даём мы ім ад бюро ячэйкі такія прыблізна рэкамандацыі, я прачытаю рэкамандацыю на Кастуся. Вось... „Шапятоўская ячэйка КСМБ рэкамандуе для паступлення на рабфак Ламаносаўскага Электратэхнічнага Інстытута члена комсамола з дваццаць трэцяга сакавіка тысяча дзевяцьсот дзевятнаццатага года або з першага дня арганізацыі КСМ таварыша Кастуся Шкробата, як прыкладнага і вытрыманага комсамольца і зусім палітычна надзейнага грамадзяніна Савецкай рэспублікі. Таварыш Шкробат К. у дзевятнаццатым годзе па мабілізацыі комсамола добраахвотна пайшоў у Чырвоную армію на фронт, дзе прабыў да сканчэння грамадзянскай вайны, што і сведчыцца. Сакратар бюро ячэйкі КСМ такі-та, члены бюро ячэйкі КСМ такія-та...“—Міхаль паклаў паперку, на якой была напісана рэкамендацыя, на стол.—Згодны з такой рэкамандацыяй?

— Згодны.

— Усё правільна.

— Тады хто за такую рэкамендацыю, прашу галасаваць. Так. Усё. А цяпер рэкамендацыя Гоберману Ёську.

Рэкамендацыя на імя Гобермана Ёські слова ў слова паўтарала рэкамендацыю Кастусёву.

На гэтым сход скончыўся, але перад тым, як зачыняць яго, Міхаль памеркаваў аб нечым, стоячы каля стала, і пасля нейкім па незвычайнаму ўрачыстым і чамусьці саромлівым голасам, прыпомніўшы свой выпускны вечар на павятовых палітасветных курсах, сказаў:

— У дзевятнаццатым годзе прыблізна ў гэткі-ж час мы выпраўлялі сваіх лепшых комсамольцаў на фронт, бараніць Савецкую рэспубліку. Абавязак гэны таварышы нашы выканалі з гонарам. Адзін з іх, вядомы ўсім вам таварыш Жук Рыгор з фронта не вярнуўся, аддаўшы сваё маладое жыццё за рэволюцыю. Я прашу ўшанаваць яго памяць уставаннем і спець пахавальны марш.—І сам моўчкі схіліў галаву над сталом так, каб ніхто не змеціў на воку слязы, якая нямаведама адкуль узялася. Паціху, усе разам падняліся з месц комсамольцы, і тады з пакоя паплыла на двор ціхая, поўная тугі пахавальная песня па таварышу.

Калі песня змоўкла і комсамольцы асцярожна селі на месцы, Міхаль хвіліну памаўчаў, стоячы з патупленымі ў стол вачыма, пасля перамог сябе, зірнуў на комсамольцаў і зноў загаварыў.

— А цяпер,—сказаў ён,—мы выпраўляем нашых лепшых комсамольцаў у Маскву вучыцца. Хто з нас, або з нашых братоў мог дзе вучыцца пры старым рэжыме? Тады вучыліся толькі сынкі ды дочкі буржуяў да панкоў, а рэволюцыя нам у навуку дзверы адчыніла, як

і ўва ўсё жыццё адчыніла дзверы рабочым і сялянам. Значыць, не дарэмна нашы таварышы за рэволюцыю на фронт ішлі і не дарэмна за яе таварыш наш аддаў сваё жыццё. На гэтым дазвольце мне скончыць і абвясціць сход зачыненым.

А хвіліны цераз дзве комсамольцы ўсе гуртом, як ішлі, стаялі на самай сярэдзіне тапалёвай прысады і дзівіліся ў поле. Полем да рэчкі рушыў вялікі натоўп мужчын і жанчын. Спачатку комсамольцы падумалі, што зноў, як і пяць дзён таму назад, сяляне праўляюць у полі малебства, каб пашоў дождж, але, прыгледзеўшыся да натоўпа, яны не змецілі ў ім ні прошчы, ні крыжа. Гэта здзвіла і, каб даведацца ў чым там справа, комсамольцы ўсе разам пашлі ў напрамку да натоўпа сялян.

Каля рэчкі натоўп, на чале якога ішлі Мікіта Шкробат, Восіп Зяньковіч і Арцём Піскун, ды яшчэ дзевяностагадовы бацька Давыдзюка Ахрэма і такога-ж узроста Піскуноў бацька, спыніўся ў такім месцы, дзе акурат да самай рэчкі амаль даходзіла поле, засеянае ярынай. Каля пяці тыдняў мінула з таго часу, як прайшоў над Шапятоўскім полем невялічкі дождж. З таго часу ўсе дні над Шапятоўкай стаіць спакойнае ў сваёй сіняве чыстае неба. Дзесьці бокам, з глухімі грымотамі або без іх, паказаўшыся з-за небасхілу толькі краем сваім, праплываюць хмары. Кожны вечар хмары з усіх бакоў з-за небасхіла паказваюцца, неба пад небасхілам мутнее, усё паказвае як-бы на тое, што ноччу ці да ранку збярэцца дождж, а раніцою зноў неба чыстае і ў ім гарачае сонца. Ад сонца перасохла зямля на полі, патрэскалася і ляжыць голымі камякамі, ашчаціні́ўшыся рэдкімі вузкімі і гострымі калівамі нізкарослай ярыны. Побач з полем паплавамі, як ніколі за гэныя гады сухімі, цячэ Хвошчаўка. Перасохла яна, апала, агаліла крутыя свае берагі і прысмірнела.

Ад натоўпа аддзяліліся Восіп Зяньковіч з Мікітам Шкробатам і знеслі берагам да рэчкі, дзе не так крута, саху, якую прынеслі з сабою. Следам за імі Арцём Піскун знёс туды-ж ярмо і пастромкі. Тады адыйшлі ад натоўпа яшчэ самыя старыя з усіх Давыдзюкоў і Піскуноў бацькі, апранутыя ў чыстую бялізну, пазакасвалі за калены ажна ісподнікі на тонкіх, худых нагах і асцярожна палезлі з берага да ракі. Там ім надзелі на галовы ярмо, прывязалі іх да сахі пастронкамі, і нясмелымі дрыглівымі нагамі яны пайшлі ў ваду, а каля сахі стаў, гэтак сама закасаўшы штаны за калены, Восіп Зяньковіч.

Над берагам, расцягнуўшыся паскай, стаялі сяляне і сялянкі, дарослыя, і моладзь, і малыя дзеці, пазіралі на раку, упоперак якой перацягвалі саху запрэжаныя ў яе пастронкамі сівабародыя дзяды. За сахой, павольна і ўрачыста ступаючы ў ваду босымі нагамі, ішоў Восіп Зяньковіч, а над берагам, наперадзе ад натоўпу без шапкі стаяў сам Давыдзюк Ахрэм. Калі дацягвалі дзяды саху да другога берага і павярталіся, Давыдзюк голасна крычаў, звяртаючыся да Восіпа:

— Памагай бог, чалавеча! Што ты робіш?

— Дзякую, добры чалавек!—Гэтак-жа голасна крычаў з ракі Восіп.—Раку вось ару, ды засяваць дабром буду.

Тры разы перацягвалі ад берага да берага цераз раку саху дзяды, замуцілі ў рацэ мелкую ваду і тры разы гэтак пераклікаліся Давыдзюк Ахрэм з Восіпам. Пяць дзён таму назад шапятоўцы былі прывезлі да сябе з Лесавіцкай царквы папа і хадзілі з ім па полю, служылі малебен, спадзяючыся на дождж. Але прайшло колькі дзён, а дажджа не было і тады, змарыўшыся чакаць яго, прыпомнілі старыя шапятоўцы даўні звычай дзядоў сваіх і павалаклі да рэчкі саху, каб тры разы перааараць раку сахой па дну, упоперак ад аднаго

берага да другога, каб гэтым папракнуць свайго бога за тое, што не дае ён дажджу.

Над берагам стаялі моўчкі старыя мужчыны і сялянкі, напружана ўважліва сачылі, як пераворвае раку Восіп, а за іхнымі плячыма, перакідваючыся ціхімі шэптамі, цясніліся маладзейшыя жанчыны, стрымліваючы дзяцей, якія лезлі да ракі. У баку троху парамі стаялі хлапцы і дзяўчаты, якія наглядалі за тым, што рабілася на рацэ і кідаліся жартамі па адрасу Восіпа, які ходзячы па рацэ, высока ўздымаў ногі і плюхаў, апушчаючы іх у ваду. Да моладзі далучыліся і комсамольцы. Кастусь рассунуў наперадзе дзяўчат, абняў іх двох адразу і, прасоўваючы паміж іхных сваю галаву, здзівіўся:

— Вой, хлопцы, дзіва! Восіп на дзядах раку арэ: зусім ужо здзяціннеў. А быў, кажуць, чалавек нічога сабе.—Моладзь зарагатала. На рогат азірнуліся старэйшыя, але нічога не сказалі, затое высунуўся аднекуль, паказваючы свой абвіслагубы твар, Алёша.

— Эй, вы там, скальце зубы!—кінуў ён злосным поглядам у бок да Кастуся.

— Алёшка! Здароў!—Кіўнуў яму Кастусь рукою.—Што-ж гэта ты нават у бога не верыш ужо?

— Каб хаця ты так верыў!—зусім сур'ёзна адказаў Алёша.

— Як-жа-ж так!—здзівіўся Кастусь.—Дык-жа-ж то звычай паганскі, яны-ж бога дакараюць, а ты маўчыш!..—Здзяціннеў і Алёшка Сапун. А я то,—Кастусь успляснуў рукамі,—думаў, што хоць з яго нешта годнае хоць для царквы выйдзе.

Моладзь зноў зарагатала, а сам Алёша буркнуў нешта злоснае і адвярнуўся.

— Не чапай ты яго,—параіла Кастусю дзяўчына.—Ён-жа такі злосны.

— А ці я-ж яго баюся?

— Мала што не баішся. Ён дужа паганы.

— Ну добра, не буду чапаць. А вы, дзяўчаты,—Кастусь зірнуў у твар ім,—не злуеце на мяне, што я гэтак жартую?

— Чаго-ж нам злаваць? Нам і самім гэта смешна, толькі цікава паглядзець, як яны гэта робяць, дык і прышлі.

— У газету,—хлопцы,—Кастусь звярнуўся цяпер да комсамольцаў,—вось куды пра гэта варта было-б напісаць, а?

— А сапраўды!—Вось бы недзе людзі папасмяяліся-б?

— І нашым бы самім смешна было-б, калі-б напісаць пра гэта. Трэба будзе паспрабаваць.

— Напішыце толькі,—дзяўчына скасіла вочы на Кастуся,—дык яны вас тады папрыбіваюць. Яны і так цярпець не могуць, што вы на спяктаклях ужо высмейваеце.

— Ну-у!—палахліва азірнуўся Кастусь.

— Вось табе і ну. Праўду кажу.

— Тады давядзецца абавязкова напісаць,—калі так, нічога не зробіш,—Кастусь жаласліва ўсміхнуўся і рогатам, следам за ім, пырснулі дзяўчаты.

Тым часам з рэчкі вылезлі дзяды, мужчыны вынеслі з рэчкі саху і ярмо, і, пагаманіўшы над берагам, натоўп пачаў разыходзіцца. І тады змецілі ў натоўпе Міхалку Хвойчыка. Убачыўшы комсамольцаў, ён правёў рукою па сваіх даўгіх вусах, як-бы выклікаючы гэтым рухам усмешку і шырока, на ўвесь свой вуглаваты твар, усміхаючыся, пашоў да іх, прытрымліваючы аднэй рукой гармонік, які вісеў на плячы ў яго.

— Ну і дзіва-ж!—сказаў падыходзячы.—Як нарадзіўся, такога яшчэ не бачыў я. Што гэта яны рабілі?

— Бога дакаралі, чаму дажджу не дае, маўляў, глядзі да чаго давёў, рэчку аром.

— Фу ты, чорт іх!—Хвойчык зарагатаў.—А я стаяў вылупіўшы вочы і не разумеў, чаго яны ў тую рэчку лезуць, на што дзядоў тых няшчасных мучаць. Ніколі-ж я пра гэта не чуў. Паскакаць, дзеўкі, хочаце?—звярнўся ён да моладзі.

— Паіграй, дык паскачам.

— Тады хадземце да клуба.—Міхалка зняў з пляча гармонік, узяў яго ў рукі і пашоў з месца, шырока расцягнуўшы яго. Спрытныя тонкія пальцы ягоныя прабеглі па жаўтаватых гузіках галасоў, і гармонік, задзіраста ўскрыкнуўшы, заіграў „барыню“. Нехта за гармонікам пачаў падпяваць, і прыпеўка як і гармонікавы галасы багатыя, была вясёлай, задзірастай.

На што барыні чапец,
Любіць барыню купец...

І за гэтым і голас спевака і гармонікаў голас ласкава так, што аж уяўлялася, як песціць купец барыню, вымаўлялі:

Ба-а-рыня ты мая,
Суда-а-рыня ты мая...

Натоўп, які ішоў па дарозе наперадзе, пачаў рассыпацца. Толькі старэйшыя пайшлі дадому ў вёску, а хто маладзей, спыніліся, пачакалі моладзь і следам за ёю пашлі прысадай на былы панскі двор, да комсамольскага клуба. Па дарозе Кастусь непрыкметна прытрымаў трошку Аксану і пашоў поруч з ёю.—Я папрашу Міхалку карагод іграць, а ты паскачы. Добра? Ты такая прыгожая, як на кругу ў карагодзе ідзеш...

— А так не прыгожая?—Аксана бліснула на яго вугалькамі воч.

— Вось табе і на, ледзь не папаўся я. Прыгожая і так, ого, але тады яшчэ прыгажэй.

— Так і кажы,—пагразіла яму Аксана пальцам.

— Так і буду казаць. А ты паскачаш? Для нас... Бо калі-ж мы яшчэ цябе ўбачым... паскачаш?

— Добра.

— Малайчына ты, Аксана, харошая.

На двары, як размясціліся ўсе на лаўках, вынесеных з клубнай залі і Міхалка сыйграў першую польку, Кастусь пашаптаўся з ім, а тады выйшаў на сярэдзіну круга.—А цяпер я прапаную, каб Міхалка сыйграў нам „За рошчаю зеляной“ карагод. Згодны?

— Згодны!

— Давай!

— Давай на круг Аксану!..

— Выходзь, Аксана!

— Не саромейся!

— Выходзь, Аксана,—папрасіў і Кастусь.—Міхалка, давай!—А сам узяў за руку Веру, жонку Восіпа Зяньковіча і павёў у круг карагод састаўляць. За ім сталі ў круг парамі хлопцы і дзяўчаты. Выйшла на круг і Аксана і з-пад саромліва апушчаных востракрылых брывей зірнула на Кастуся. Міхалка ўзняў галаву, ледзь-ледзь назад яе закінуў, пазіраючы ўгару і заіграў, і адразу, паклаўшы левую руку, адстаўленую локцем у бок, на бядро сабе, пашла па кругу ў сярэдзіне карагода Аксана. Яна ішла з паднятай угару правай рукой, у пальцах якой трымала белую насоўку, калыхала яе па ветру над галавой і, то набліжаючыся да карагоднага кругу, які ішоў парамі

насустрач ёй, то аддаляючыся ад яго, як-бы клікала за сабою лепшага ў кругу хлопца. Клікала, завабляючы яго песняй:

За рошчаю зяляной,
Пасеялі дзеўкі лён...

Голас у яе чысты лёгкі, і песня гэткая-ж лёгкая і гуллівая, як бліскучыя чорныя яе вочы. Аксаназа пявала і не паспявала яна змоўкнуць, яшчэ цягнула свае даўгое звінючае „лё-о-он“, як скранаўся з месца карагодны круг, які быў прыпыніўся на момант і ўсімі галасамі падхапляў песню і спяшаючыся паўтараў апошнія яе словы: „дзеўкі лён, дзеўкі лён“. За гэтым усе, як і Аксана, доўга цягнулі на ўсе галасы тое-ж звінючае „лё-о-он“, а Аксана хутчэй ішла па кругу, кідаючы на хлапцоў задзірастыя погляды і, пераняўшы на ляту песню, гаварыла песняй, нясучы яе па кругу:

Пасеяўшы палолі,
Белыя ручкі калолі...

І карагод зноў падхапляў песню:

Калолі, калолі,
Белы ручкі калолі...

Аксана ішла па кругу лёганька махала над галавой насоўкай, алё ўжо не кідалася поглядамі на хлапцоў, несла погляд патуплены ў зямлю. Хлопцы-ж ад гэтага яшчэ мацней стукалі нагамі аб звонкую зямлю, ласкава ўсміхаліся ёй, спадзяючыся, што яна выбярэ і як заспявае зноўку, падыйдзе махне перад тварам хустачкай клікне за сабою ў круг:

Панадзіўся белы конь,
Памяў-пацёр дзеўкам лён...

Аксана прыпынілася перад Кастусём, сарамліва зірнула ў вочы яму і, нібы гэтым хацела адагнаць сваю сарамлівасць, хустачкай насоўкай дакранулася да Кастусёвага твару. Кастусь звёў за спіною ў сябе рукі Верыны і дзяўчыны, якая была злева ў яго, каб замкнуць гэтым карагодны круг, а сам, гэтак-жа, як і Аксана, паклаўшы толькі на бядро правую руку, пашоў следам за ёю. Два разы абыйшоў ён круг, наганяючы яе, пасля ўзяў узнятую ўгару яе руку і так павёў за сабою па кругу пад гуллівую звонкую песню.

А позна ўвечары таго-ж самага дня, цалуючы на развітанне Аксану ў вусны, Кастусь прасіў:

— Ты-ж пішы толькі, часцей пішы... Добра?

— Добра,—згаджалася Аксана, не здымаючы рук з ягоных плеч.— І ты-ж пішы. А як прыедзеш узімку на вакацыі, зноў карагод наладзім...

— І ты выбярэш мяне?..

— Цябе... Толькі цябе!—Сашчарэпіла рукі на ягонай шыі, ірванула да сябе ягоную галаву, звонка пацалавала ў губы і, вырваўшыся ад яго, пайшла на свой двор. Ад самага парогу смяючыся вярнулася, рукой паманіла пайсці за сабою да парога, а там зноўку абхапіла рукамі Кастусёву шыю, шчыльна прыхінулася да яго целам і, прыплюшчыўшы вочы, пакорліва паднесла вусны для пацалункаў.

Самым ранкам назаўтра роснай сцежкай Кастусь, а з ім Еська Гоберман пешшу ішлі з Шапятоўкі на станцыю, каб адтуль паехаць у далёкі вялікі горад Маскву.

*(Працяг будзе)*

ПЯТРО ГЛЕБКА

## МУЖНАСЦЬ

Падымі мяне,
мужнасць класа,
над галовамі паўшых ніц,
правядзі над імклівым часам,
над палётам планет і зарніц.

Дай звычайнаму слову дужасць,
каб шумела яно,
як пажар!
Ты-ж спыніла калісьці,
мужнасць,
загаіла нялюдскі жаль.

Роўным крокам тады з узгоркаў
зледзянелая ноч ішла.
Чалавек пад Масквой у Горках
скончыў свой непаўторны шлях.

І калі над зімовым усходам
праразаецца воблік дня,—
па крутых і суровых усходах
адплывае наніз труна.

На прастор вырываецца скруха,
асірочаны кінуўшы дом,
і ад болю знямелыя рукі
апускаюць труну на дол.

Ападаюць сняжынкі на вусны,
на высокі адкрыты лоб...
Баявыя таварышы й вучні
закрываюць астанкі шклом.

І празрыстае тонкае века
з ледзянога халоднага шкла
адлучае ад нас чалавека,
што прайшоў непаўторны шлях.

* * *

Белая дарога,
векавая глуш,
сосны снегавыя
сцежку сцерагуць.

Селянін пануры
на крывых санях
ельнікам зялёным
высцілае шлях.

На глухі паўстанак
(пяць далёкіх вёрст)
будзе слацца ельнік
лапкамі напрост.

Гэтаю дарогай,
дзе галосіць сум,
ленінцы палямі
Леніна нясуць.

Над шырокай Волгай
хлапчуком ён рос,
паднявольным людзям
сваю праўду нёс.

Ён паўстаў над светам
навальнічных хмар,
як жывы і грозны,
агнявы штандар.

Выгадаваў класу
партыю ў баях,
на прастор шырокі
паказаў нам шлях.

І рабоў калоній,
фабрык і палёў
на цара,
на пана
ваяваць павёў.

З-пад ярма краіну
вызваліў маю
і семі рэспублік
утварыў саюз.

Ён душу,
як камень,
палажыў у грунт,
каб над светам здзеку
вырас свет комун,

каб прастор Расіі—
гэта глуш і шыр—
гаманіла,
пела,
голасам машын.

А цяпер палямі,
цераз гэту-ж глуш,
дзе сухія дрэвы
сцежку сцерагуць,

дзе рыдае скруха,
дзе галосіць сум—
ленінцы маўкліва
Леніна нясуць.

Ані слоў,
ні песень,
толькі стогне крок...
Ад вялікай крыўды
ледзянее кроў:

той,
каторы вечна
працаваў і жыў,
каб змяніць краіну
рускае глушы—

па глухой пустыні,
цераз стэп і лес
пракладае ў горад
свой апошні след.

Ашукала смерць нас,
насмяяўся лёс...
На абмёрзлых вейках
стынуць зоры слёз.

На глухім паўстанку
журацца агні,
у жалобных сцягах
рушыцца цягнік.

Ленінскія вусны
холад закаваў,—
нежывое цела
сустракай, Масква!

* * *

Белым снегам усыпаны плошчы,
белым снегам укрыты сады.
Золкі вецер штандары палошча,
замятае на бруку сляды.

Мы ідзем—
і падзёншчык,
і токар,
і шахцёр.

і марак,
і гарбар,
і студэнт,
малады і высокі,
і пануры сівы качагар.

Мы ідзем—
у палапленых світках,
у шынелях,
падраных з вайны,
у падшытых вятрамі намітках—
мы ідзем да ягонай труны.

Дом Саюзаў.
Калонная зала.
Чорным крэпам спавіта труна.
Мы прыйшлі...
І наўсцяж зарыдала
настарожаная цішыня.

І ніколі не знойдзеш ні ў якіх
летапісных аналах пяра,
каб народ гэтак горка плакаў
над магілаю правадыра.

Нашы сэрцы наўзрыд галасілі,
нашы вочы заслала імгла...
Чалавечага плачу сіла
горы змыць векавыя магла.

Але вырасла мужнасць класа,
падняла нас ізноў на бой:
над палётам планет,
над часам,
над праклятай суровай зімой,
над снягамі,
над горам,
над жалем,
над законамі смерці й жыцця
падымаецца ленінец Сталін,
узнімаючы ленінскі сцяг:

— Мы людзі адменнага складу:
сыны векавой барацьбы.
Нам дадзена права і радасць
у ленінскіх шэрагах быць.
Заўсёды-ж,
у маршах паходных,
у жорсткіх баях,
у агні,
высока партыйную годнасць
павінен трымаць комуніст.

Так гаварыў нам Ленін,
навек пакідаючы нас.
Клянёмся,
таварыш Ленін,
што мы ажыццёвім наказ.

— Нялёгкую нашу дарогу
адзначылі сотні баёў;
у кожным дала перамогу
згуртаванасць нашых радоў.
Ї трэба,
трымаючы варту,
на працу,
у бой ідучы,
адзінства вялікай партыі,
як вока сваё, берагчы.

Так гаварыў нам Ленін,
навек пакідаючы нас.
Клянёмся,
таварыш Ленін,
што мы ажыццёвім наказ.

— Цямнейшаю цёмнае ночы
працоўнага доля была,—
адна толькі ўлада рабочых
сапраўдную волю дала.
Ї покуль не скончыцца бура,
да самых бяскласавых дзён,
гартуйце цвярдзей дыктатуру—
рабочага класа закон.

Так гаварыў нам Ленін,
навек пакідаючы нас.
Клянёмся,
таварыш Ленін,
што мы ажыццёвім наказ.

— Нам рочылі гібель,
магілу...
Супроць азвярэлых банд
мы рушылі страшную сілу—
сяброўства рабочых,
сялян.
Ї зараз,
на ўзораных нівах,
на фабрыках,
стаўшых у строй,
саюз гэты трэба рупліва
расціць пралетарскай рукой.

Так гаварыў нам Ленін,
навек пакідаючы нас.
Клянёмся,
таварыш Ленін,
што мы ажыццёвім наказ.

— У час незабыўных паходаў,
гуртуючы нашы палкі,
жалезная дружба народаў
высока ўзнімала штыхі.

Ад Новай Зямлі да Паміра,
да самых далёкіх юрт,
упарта-ж разгортвайце шырай
Совецкіх Рэспублік Саюз.

Так гаварыў нам Ленін,
навек пакідаючы нас.
Клянёмся,
таварыш Ленін,
што мы ажыццёвім наказ.

Вось так у змаганні напружным
мы свой здабывалі спакой—
саюзам,
братэрствам
і дружбай,
чырвонаармейскай рукой.
Але неадступна,
штодзённа
рыхтуецца новы налёт.
Мацуйце-ж сваю абарону—
Чырвоную армію й флот.

Так гаварыў нам Ленін,
навек пакідаючы нас.
Клянёмся,
таварыш Ленін,
што мы ажыццёвім наказ.

— На бой за вялікія мэты
ўзнімаецца захад і ўсход,
усе пролетарыі свету
ідуць у рашучы паход.
І вось,
каб дарогаю вернай
мільёны працоўных пайшлі,
змыкайце рады Комінтэрна
на ўсіх паралелях зямлі.

Так гаварыў нам Ленін,
навек пакідаючы нас.
Клянёмся,
таварыш Ленін,
што мы ажыццёвім наказ.

На кожнае слова прысягі
мы цвёрды давалі зарок:
— Пад слаўным,
пад ленінскім сцягам
ад мэт не адступім на крок!

І мы сваё страшнае гора
панеслі маўкліва, без слёз.
На снежных шырокіх прасторах
хадзіла зіма і мароз.

Але нашых плеч не сагнулі
ні замець,
ні снег,

ні скавыш,—
гайдаліся рэчышчы вуліц,
высокія вежы Масквы.

Пад маршы,
пад гром барабанаў
на роўных высокіх плячах
на самы апошні прыстанак
мы неслі труну Ільіча.

І вось наступіла хвіліна,
адна з найцяжэйшых хвілін,
І сэрца бязмежнай краіны
замерла на пяць хвілін.

У роспачы сціснуўшы зубы,
мы чулі,
як стогнуць гудкі,
як горна рыдаюць трубы,
як ціха стаяць палкі,
як страшна равуць сірэны,
як віхрам імчыцца зямля,
як стынуць нямыя сцены,
высокія сцены Крамля,
як гулка цяжкія гарматы
апошні салют аддаюць,
як плача над страшнай утратай
Совецкіх Рэспублік Саюз.

Чырвона-жалобныя сцягі
схіліліся ў горы наніз.
І словы нядаўняй прысягі
ізноў прагулі ў цішыні.

Мы цвёрда ў калоны пасталі,
нас мужнасць ізноў узняла,
бо з намі быў ленінец Сталін
і партыя наша была.

Тугу разагналі клапоты,
і дружна рабочы клас
пайшоў да штодзённай работы,
каб здзейсніць ягоны наказ.

* * *

Мінаюць гады за гадамі,
суровыя нашы гады,
наперад крутымі шляхамі
краіну вядзе правадыр.

І гэтай нязменнай дарогай
праверыць здабыткі свае,
адзначыць свае перамогі
прыходзіць Семнаццаты з'езд.

Ізноў наступае хвіліна,
схіляемся ўсе,
як адзін,
і сэрца бязмежнай краіны
на пяць заміра хвілін.

Нарэшце куранты прабілі,
настаў адзінаццаты год,
як мы ў ледзяную магілу
труну апусцілі яго.

Нібы па сігналу трывогі,
становімся зноў у рады,
і голасам,
мужным і строгім,
загад аддае правадыр:

— Устань,
Саюз семі рэспублік,
шарэнгамі,
раўней струны,
міні рады маскоўскіх вуліц,
прайдзі каля яго труны.

Ударная брыгада класа,
рабочым свету дай адказ:
ці здзейсніла,
як ты клялася,
вялікі ленінскі наказ?

Ці стала слова
словам справы,
узлётам дум,
геройствам дзей?
Ці ляжа гонар,
наша слава
вянком на строгі маўзалей?

На ўсіх шырынях земнай кулі
маўчаць станкі,
гудуць гудкі:
з трыбуны ўсіх семі рэспублік
даюць адказ бальшэвікі:

— Мы кляліся:
трымаць высока
сцяг,
асвечаны яснай зарой.
Кожным рухам сваім і крокам,
кожнай думкай сцвярджалі зарок.
І ніхто не пакажа справы,
ад якой адступіў бальшавік:
як геройства,
як гонар,
як славу,
мы праносім штандар баявы.
Апалосканы дымам і кроўю

на франтах грамадзянскай вайны,
ён узвіўся над нашай будоўляй,
самай стромкай дасяг вышыні.
Ён лунае ў міжзорнай сіні,
дзе шумяць стратасферы вятры,
ён, як сэрца жывое краіны,
на паўночых ільдзінах гарыць.

— Мы кляліся:
адзінства партыі,
быццам вока сваё, берагчы.
Процьма хіжых галоў упарта
падымалася з брудных лагчын.
Мы гамілі іх—
„левых“ і правых,
адсякалі няшчадна з пляча,
каб аматары чорнае славы
не скрывілі дарог Ільіча,
каб ніколі,
ні ў якіх варунках
не крануў нашых сіл разлад.
Так у жорсткіх баях за комуну
непарушная еднасць расла.
Як кавалак адменнай сталі
загартованы сёння рады.
Гартаваў іх таварыш Сталін—
першы ленінец,
наш правадыр.

— Мы кляліся:
на смерць змагацца,
пасці трупамі,
стаць на касцёр,
каб жыццё дыктатуры працы
бараніла рэспублік жыццё.
Ад нацдэмаўскіх збродных шаек,
ад прадажных служак Рамзіна
выпаўзала,
ішла глухая,
наступала на нас вайна.
Кожны хутар,
абнесены садам,
па дарозе да нашых мэт—
гэта дваццаць чатыры засады
на адзін усяго кілометр.
Безліч іх,
што хацелі краіну
і ўладарства над намі займець!
Берагла нас няўтомная пільнасць,
дыктатуры навострапы меч.

— Мы кляліся:
расціць рупліва
пролетарска-сялянскі саюз.
І сягоння на ўзораных нівах
аглядаем работу сваю.

Па калгасных палях
(аж рэха
векавыя калыша бары)
ходзяць нашы найлепшыя шэфы
сталінградскія трактары.
За іх следам шуміць пшаніца,
канюшына шалее,
аўсы,
аж на дол прыпадаюць нішма
пад цяжарам зярна каласы.
Лапушацца сады...
У вечар
яркнуць вуліцы ў песнях дзяўчат.
Так мяняецца лёс чалавечы
ля сялянскіх абноўленых хат.

— Мы кляліся:
ад гор Паміра
і да самых далёкіх юрт
мацаваць і разгортваць шырэй
пролетарскіх рэспублік саюз.
Мы выконвалі нашу прысягу
дзень і ноч над работай сваёй:
кожны край надзялілі пасагам—
гарадамі,
садамі,
зямлёй.
Ад усходніх граніц да заходніх,
праз увесь велічэзны абшар,
б'юцца роўна,
упэўнена,
згодна
сэрцы нашых заводаў і шахт.
Больш няма занядбаных ускраін,
дзе зацішак і лямант стаяў,
дзе няшчадна каралі і кралі,—
скрозь квітнее радзіма мая.

— Мы кляліся:
і мора,
і сушу,
і вышыні аблок бараніць,
і ніколі ніхто не парушыць
умацаваных нашых граніц.
Хай паслухаюць летам уранку,
як спяваюць прасторы зямлі—
гэта ходзяць жалезныя танкі,
баявыя плывуць караблі,
самалёты ідуць,
аж вецер
прыгінае галовы лясоў...
Наймацнейшая армія ў свеце
беражэ нашу працу і сон!
І калі, азвярэўшы, падымуць
ліхадзеі на нас нажы—

будзем мы за сваю радзіму
ваяваць на прасторах чужых.

— Мы кляліся:
сумленна і мужна
нашу працу і сілы аддаць,
каб расла пролетарская дружнасць
па ўсіх сёлах,
па ўсіх гарадах.
І мы прагна ішлі да мэты:
дзень і ноч,
у любую пару
будавалі краіну Советаў,
не шкадуючы стомленых рук.
Яна сонцам сягоння свеціць,
як маяк, над сусветам гарыць...
З цёмных турам нявольнага свету
прыязджаюць да нас змагары.
Мы прыймаем іх ветла і проста,
згуртаваныя ўсе, як адзін.
І расце баявое сяброўства
між працоўнымі розных краін.

— Мы кляліся...
І кожнае слова—
на вадзе,
на агні,
на зямлі,
на вышынях,
на стромкіх будовах—
ператворана ў соцыялізм.

Грыміць адказ з мільёнаў вуснаў,
шарэнгамі,
раўней струны,
парадным маршам,
крокам мужным
праходзім мы каля труны.

Мінаем час няшчаднай смерці,
смуткуем зноў аб ім усе,
і кожны з нас глыбока ў сэрцы
часцінку Леніна нясе.

Ягоны смех,
яго вясёласць
гарыць на тварах окцябрат,
жыве ў рабоце комсамола,
у песнях маладых дзяўчат.

Ягоных спраў размах вялізны,
яго нянавісць і любоў
нясуць будаўнікі соцыялізма—
героі фабрык і палёў.

Яго упартасць,
волю,
мудрасць,

што абняла прастор і час,
яго вялікасную мужнасць
нясе увесь рабочы клас.

Яна згаіла нашы раны,
пякучы патушыла боль,
яна ішла заўсёды з намі,
вяла і павядзе у бой.

І мы ніколі не прыстанем
ні ў цяжкай працы,
ні ў хадзе,
бо з намі наш любімы Сталін,
бо з намі партыя ідзе,

бо чуем кожнае імгненне
і кожнай кропляю крыві—
вялікі,
неспакойны Ленін
сярод жывых
ідзе жывы.

1934 г.

МАРК КОЛАСАЎ

# ВЫХАВАННЕ БРОЎМАНА

## І

Калі ў чытальні згасілі святло, студэнты ўсталі і нехаця пайшлі да дзвярэй. У чырвонай паласе святла ад дагараўшых у каміне дроў відны былі толькі іх стаптаныя чаравікі і вузкія канцы штанін—памятыя ў каленах. У цемры ўспыхнулі дзве-тры цыгаркі. Аглядаючыся на камін, які ў гэты час меў падабенства са старажытным падпаленым горадам, некаторыя затрымаліся.

Заўважыўшы гэта дзяжурная студэнтка крыкнула:

— Рэбяты! Хто хоча застаньцеся, пакуль дагарадь дровы, бо мне адной сумна.

Студэнтка была прывабная з выгляду. Адзін студэнт падышоў да яе, сеў на пакладзеную бокам лаўку і, падставіўшы агню вузкі твар, зняў акуляры. Ад гэтага бліскаўшыя за імі маленькія шэрыя, неглыбока пасаджаныя, бязбровыя вочы, як ўва ўсіх блізарукіх, адразу згаслі, і ўвесь твар выцягнуўся яшчэ больш.

Таго, хто прысеў, не зважаючы на ўсю яго непрывабнасць, вельмі любілі студэнты. Прозвішча яго было—Броўман. Ён паходзіў з дробнай рамесніцкай сям'і, рыхтаваўся быць аптэкарам, хоць бацька настойваў на тым, каб хлапчук вучыўся на адваката. У сям'і яго лічылі за вундэркінда. Таму ён быў вызвалены ад пілавання дроў і нашэння двух вёдзер вады на кухню, якія прыпадалі на яго долю. Яго браты і сёстры, да рэчы сказаць, вельмі шматлікія, не зусім пагаджаліся з гэткім становішчам; яго бацька і сам ён улічвалі гэта за невуцтва і недаацэнку тых дабротаў, якія магла атрымаць сям'я ў будучым.

Хлопчык быў сапраўды не дурань. Яго непрывабны знадворны выгляд гнаў яшчэ неўмацаваныя мазгі па бясконцых старонках кніг. Яму неабходна было ўсё ведаць. Прынамсі ён адчуваў сябе абавязаным умець адказаць на любое пытанне і па любому пытанню выказаць сваю думку. Гэта было спярша вельмі пакутна, але ён ведаў, што варта, каб пахіснулася ўпэўненасць ў яго розуме—і ўсе пачнуць зневажаць яго.

Яму было за вялікую радасць у дзяцінстве чуць у часе гульні ў „думкі" кароценькія рэплікі сваіх паплечнікаў і асабліва паплечніц: „разумны", задуменны", „таямнічая незразумеласць", „будучая славутасць", „наш слаўны філосаф", але, па сутнасці, яго вельмі абцяжала ўсё гэтае бессістэмнае і супярэчлівае чытанне, ад якога яго мозаг нагадваў ломберны стол, дзе палкая лютая гульня нязменна канчалася ўнічыю. І вельмі часта ён гатоў быў аддаць усе гэтыя добрыя аб сабе думкі за моцны склад цела або за блакітныя вочы. Яму хацелася ўвечары, падобна да ўсіх іншых, вольна падыйсці да дзяўчынкі

суседа і пахлапецкаму спрытна, загнуць назад яе прыгожанькую галоўку, але ў момант перад ім мільгаў яго страшэнна непрыгожы твар, ён успамінаў аб прынятай на сябе ролі і, стоячы на цьмянеючым пяску алеі гарадскога сада, прыглушаў напружанае жаданне. Адводзячы позірк у бок, ён бачыў—у шалясценні адзення цякла густая чалавечая мешаніна,— мільгалі дзявочыя постаці, злёгка схіляючыся, прыціскаючыся да пляча мужчын. У расплёснутым млосным паветры грымела музыка духавога аркестра, падкатваючы пад сэрца Броўмана і яго таварышоў востры струмень смутку і невыразнага жадання. Яму было ўжо трынаццаць год. Кампанія складалася з трох дзяўчынак і чатырох хлопчыкаў. На дзяўчынках былі белыя сукенкі, крышку наплоены былі валасы, і на тварах нясмела бялела першая пудра. На трох з чатырох хлопчыкаў былі сінія з белым кантам шапкі, у аднаго з іх яна была змята, на ёй відаць была толькі адна палова вучнёўскага герба, пастаўленага вертыкальна, як вясло. Гэта быў супернік Броўмана, гімназіст Ушас. У Броўмана не было нічога таго, што прымушала любавацца Ушасам. Нават новае цёмна-жоўтае кепі не давала яму перавагі перад абшарпанай шапкай гімназіста. І тым часам, як шасцёра перакідаліся хцівымі поўнымі любові позіркамі, сёмы—Броўман—мусіў гаварыць чарговы афарызм з Шапенгауэра, або цытату з Ніцшэ.

У рэволюцыю Броўман стаў комсамольцам. Вядома, ён мог і не стаць ім і ад гэтага, вядома, не парушыўся-б закон Маркса, што ў адпаведныя эпохі людзі з прамежных пластоў дробнай буржуазіі і рамеснікаў пераходзяць у рады аднаго з асноўных класаў, якія змагаюцца; парушылася-б хіба толькі мая аповесць, магчыма, што яна-б не была напісана зусім, або, калі-б усё-ж я адважыўся напісаць яе, дык галоўным героем быў-бы пэўна другі юнак. На шчасце, у 1918 годзе, пятнаццаці год ад нараджэння Броўман стаў комсамольцам, перамогшы ўласную баязлівасць, бацькаў гнеў, крах сямейных спадзяванняў. Яго падштурхвала нянавісць да гімназістаў, Ніцшэ, Шопенгауэра і любоў да старшыні рэўкома—студэнта Стальскага, які захапіў яго ў першы-ж дзень прыхода большэвікоў прамовай у гарадскім тэатры. З гэтага моманту пачалося для яго новае, поўнае падзей і перажыванняў, жыццё. Аб ім не мае патрэбы расказваць аўтар, бо тут пачынае дзейнічаць сам герой. У 1922 годзе, калі адбывалася апісаная мной у самым пачатку размова ў студэнцкай чытальні, ён вучыўся ў першым дзяржаўным універсітэце на факультэце савецкага права. Мірнае студэнцкае жыццё дало яму спакой і як нельга лепш паспрыяла ўспамінам. Але, змяніўшы наган на студэнцкую кніжку і габінет—на студэнцкі інтэрнат, ён доўга яшчэ не хацеў перакоўваць талент прамоўцы, што дагэтуль бушаваў на пленумах і з'ездах,—для доўгіх разважанняў у прадметных камісіях і акадэмічных секцыях, з ахвотай ужываючы далейшыя звычкі ўгаварвання ўпартых паплечнікаў для заваявання сэрцаў непадатных студэнтак.

## II

— Справа была ў 1918 годзе,—пачаў Броўман, сплюнуўшы на чыгунны абадок каміна, і ўтаропіўшыся на яго з мэтай прасачыць, як сіпяць і булькаюць выпарэнні.—Мне было пятнаццаць год, я не быў яшчэ членам партыі і бушаваў на мітынгах, пераймаючы ўсе прамоўніцкія прыёмы Стальскага—старшыні рэўкома, які вельмі мне спрыяў і якога я не забуду датуль, пакуль у мяне астанецца хоць колькі-небудзь памяці. Мая зорка толькі-толькі ўзыходзіла, а слава пра

мяне ўжо неслася па ўсёй губерні—слава лепшага прамоўцы і маладзёжнага канавода. У губернскім камітэце комсамола я цэліў у старшыні і часта бачыў апушчаныя вочы майго супрацоўніка Андрэя Гарабца, пастаўленага на гэты пост губкомам партыі. Ён быў не дурань—Андрэй, але ў той час замкненая нялюднасць не акуплівалася нават чыстакроўнейшым рабочым паходжаннем. Моладзь жыла агітацыяй і вельмі туманна ўяўляла сабе справу. Між тым справа насьпявала. У непагодны дзень восені была выкрыта змова эсэраў, а праз два тыдні старшыня ЧК паведаміў аб новай змове афіцэрства. Трыццаць членаў партыі тут-жа, на сходзе, былі вылучаны ў ЧК. З губкома комсамола трэба было пасладь аднаго з нас. Памятаючы пра сваю слабую вузкую грудную клетку, я быў спакойны за сябе і рыхтаваўся да запаветнай пасады старшыні. На досвіцці пасля сходу, ідучы па глухой набярэжнай, падбадзёраны халадком баязлівасці перад блукаючай навокал небяспекай, я ўбачыў Андрэя, які вышаў следам за мной. Ён дагнаў мяне не абзываючыся і неяк трывожна сунуў мне ў кішэню круглую пячатку саюза. Ён, відаць, хацеў сказаць нешта, але звычайная цяжкамоўнасць ды яшчэ і хваляванне стрымлівалі яго.

— Вось што,—вымавіў ён нарэшце.—Ты вазьмі пячатку: табе цяпер быць за старшыню.

— Пачакай,—сказаў я яму, моцна заціскаючы ў кулаку пячатку, у той час, як сэрца ў мяне застыла.—Пытанне высветліцца заўтра або паслязаўтра... Магчыма, што губком партыі пашле мяне...

Мне нават зрабілася няёмка ад мае ўедлівасці і я ледзь захаваў чырвань, што прыліла да майго твару. Якое-ж было маё здзіўленне, калі ў губкоме Стальскі, пахлопаўшы мяне па плячу, сказаў:

— Вось, Яўхім, вазьмі запіску і ідзі ў ЧК да Навумава, ён дасць табе работу, якая будзе табе карыснай... Думаю, што лепш за ўсё ты справішся з работай следчага.

Я паступова бялеў, па меры таго, як слух мой намагаўся ўчуць у голасе Стальскага іронію, але Стальскі нават не ўсміхнуўся і па чорных вачах яго нічога нельга было пазнаць.

Усе пачуцці адразу загаманілі ва мне, але больш за ўсіх я адчуваў два—крах маёй кар'еры і боязнь новай работы. Гэта быў прысуд майму таленту. І я не мог не ўбачыць тут хітрыкаў такога прастадушнага, прасталінейнага з выгляду Андрэя. У наступную хвіліну я гатоў быў заплакаць ад злосці, якая душыла мяне, але, ледзь стрымліваючы сябе, я пачаў гаварыць палка і горача аб сваім прызначэнні ў жыцці, аб задачах моладзі, аб нячулых адносінах да маёй маладосці. Я прасіў змяніць рашэнне і не заўважаючы, што раблю брыдкі ўчынак, пачаў ганіць Андрэя, прыпісваючы яму неіснуючыя грахі і надмерна павялічваючы яго недахопы. Стальскі слухаў і па меры таго, як я нерваваўся, ён рабіўся ўсё больш суровым і замкнёным. Той прыветнай усмешкі, з якой ён заўсёды сустракаў і праводзіў мяне, не было цяпер на яго худым, укрытым чорнай барадой твары.

— Даволі!—крыкнуў ён раптам, працягваючы мне ліст.—Прачытай гэта, перш чым пойдзеш да Навумава і покуль я не атрымаю ад яго водгука аб тваёй рабоце—не адважвайся з'яўляцца да мяне...

„Ах, во яно як!"—хацеў быў закрычаць я,—„ну тады паспрабуйце без мяне, пабачым, як вы без мяне справіцеся!" Але я не крыкнуў гэтага—мне здалося, што Стальскі ўжо стаміўся ад мяне, як стамляюцца дужыя ад енкаў і скаргаў слабых. Можа гэтае пачуццё паглыбіла мой брыдкі твар, бо апрача стрыманасці ніводная маска не падыходзіла да яго.

Я апынуўся з другога боку дзвярэй з надпісам: „Старшыня рэўкома і камітэта партыі тав. А. І. Стальскі“. Нехта ўваходзіў і выходзіў па мяккіх палавіках. Чуліся ўрыўкі сказаў, ціхія і галосныя пакашліванні, нечы грымотны голас гуў у клубе, прабягалі знаёмыя і незнаёмыя машыністкі, арганізатары, сакратары райкомаў.

Проста насустрач мяне стаяў чорны чалавек у пенснэ, у асеннім паліто, што даставала яму да кален, са скураным жоўтым партфелем, які ён трымаў за ручку. Гэта быў Цёмкін—выкладчык матэматыкі ў рамесніцкай школе. Старым законам яму забаранялася выкладаць у сярэдніх навучальных установах і ён заўсёды зайздросціў Пятру Іванавічу Сказаруку, які выкладаў гэтую дысцыпліну у мужчынскай гімназіі. Асабліва садзейнічала гэтай зайздрасці яго жонка, якая ва ўсім намагалася быць падобнай на жонку гімназіяльнага матэматыка. Яна патрабавала, каб і муж нагадваў сваім абліччам гэтага, як ёй здавалася, шчаслівага чалавека. Яна пакутвала нават ад таго, што Цёмкін не ўмеў піць і не біў яе па нядзелях, як гэта меў звычай рабіць Пятро Іванавіч. Напіўшыся, Цёмкін, наадварот, рабіўся слязлівым і мяккім. Яго апаноўвала паэтычная схільнасць, чуллівая сузіральнасць. Ён спяваў арыі з „Жыдоўкі“, перамешваў іх з сінагагальнымі матывамі альбо падоўгу пазяхаў, пакуль на вачах не выступалі маленькія слязінкі. Пазяхаў ён таксама неяк асабліва, у два прыёмы, спачатку закідаючы галаву, як быццам яму падавалі каманду—„рот, зважай!“, а тады ўжо пазяхаў. У рэволюцыю Цёмкін разышоўся з жонкай і з Бундам, уступіў у партыю большэвікоў, заняўшы пасаду загадчыка Губана. Але, не маючы адпаведнага партыйнага стажа і не даяраючы сабе ў большэвіцкай вытрыманасці, ён штохвілінна бегаў да старшыні рэўкома па кожнай дробязнай справе, некалькі залішне мітусячыся. Той выпраўляў яго да загадчыка агітпропам—старога падпольшчыка з рабочых, добра ведаўшага агітацыю і прапаганду і вельмі мала—педагогіку. Нахмурыўшы бровы, ён слухаў таропкую гаворку Цёмкіна і, ківаючы галавой, згаджаўся з усім, што яму гаварыў Цёмкін або каротка адказваў:—дзейнічай! Ад гэтага Цёмкін, як усе слабахарактарныя людзі, грунтоўна ўмацоўваўся ў выказаных ім-жа самім меркаваннях і, запхнуўшы ў партфель паперы, з лёгкасцю чалавека, які выгаварыўся, бег трушком да сябе. Тым не менш спакойным ён заставаўся нядоўга. Варта было яму апыніцца за дзвярыма, як уся яго спакойнасць знікала, і яму здавалася, што нешта самае важнае ён не дагаварыў, а таму, не спяшаючыся, пацíраючы лоб, ён на працягу пяці хвілін намагаўся ўспомніць недаказанае.

У гэткім стане ён пэўна і знаходзіўся, калі я, няўважліва блукаючы вачыма па баках, убачыў яго незайздросную постаць. Але мне здавалася, што таксама, як і я, Цёмкін перажыў нейкае маральнае ўзрушэнне—можа яго толькі што знялі з пасады загадчыка Губана, можа ён праслухаў суровы прысуд або яму прачыталі дваццаць дзве заявы лепшых школьных работнікаў, а ў заявах асцярожна праводзілася тая думка, што кіраўніцтва Губана і Цёмкін—разуменні, якія адно другое выключаюць. Амаль адначасова з пачуццём шкадавання і спачування Цёмкіну я адчуў, што на маёй уласнай душы значна палягчэла.

У наступную хвіліну я ўжо прагавіта ўбіраў у вузкія запалыя грудзі шырокі двор з клумбамі і, зняўшы акуляры, прыплюшчваў вочы на сонца, якое не паспела яшчэ дагарэць.

Белыя валокны бабскага халаднаватага лета, дрыжучы ад лёгкага ветрыка, насіліся ў спакойным і прасторным паветры. Я зачапіў адно і асцярожна расцёр яго на сваім фрэнчы. Потым я адчуў вострае жаданне есці. У адной з бакавых кішэняў павінен ляжаць акраец

чорнага хлеба з павідлам. Я дастаў яго і, сеўшы на складзенае ў двары бярвенне, спяшаючыся еў, душачыся кавалкамі, пасля ўстаў і, ні пра што не думаючы, пайшоў па ціхіх падазроных з выгляду вуліцах.

Каля самага пад'езда белага, на казённы ўзор, будынка я спыніўся. Убачыўшы вартавога, асцярожна дастаў дадзеную мне запіску і толькі тут успомніў, што не чытаў яе. Хутка разгарнуўшы паперку, я прачытаў накіданыя цвёрдай рукой радкі:

„Дружа Алесь!
Пасылаю табе Броўмана Яўхіма—члена губкома комсамола. Не зважаючы, што малады—хлопец ён з галавой і галоўнае, маўклівы, сціплы, аддany справе і ў рабоце—тыгра. Што табе яшчэ трэба?
З компрыветам *Саша*".

Першае, што я адчуў, прачытаўшы запіску—гэта страшнае неразуменне нічога.

Няўжо Стальскі гэтак мала разбіраўся ў людзях, што мог у сур'ёзнай справе надаваць мне рысы, зусім мне неўласцівыя? Думка, што можа тут мае месца памылка, прыемна ўразіла мяне. Следам за ёй пачалі вяртацца ўсё адкінутыя думкі пра губком, пра старшыняванне і іншае.

Мне дастаткова цяпер прыйсці да Стальскага, растлумачыць яму яго памылку, і ён без лішніх словаў пашле Андрэя, бо, бяспрэчна, па няўважлівасці зблытаў мяне з ім—вырашыў я. Але ўжо на палове дарогі мяне пачалі апаноўваць сумненні. Па-першае. Стальскі напісаў у запісцы яўна маё прозвішча, ён папярэдзіў мяне, прапанаваўшы прачытаць яе перш чым ісці да Навумава. Ды і не мог ён так зблытаць. Ці не хаваецца тут тонкая і разумная механіка, ці не напісаў Стальскі гэта знарок, каб я вастрэй усвядоміў свае недахопы і набыў патрэбныя для рэволюцыянера якасці?..

Я не заўважыў, як завярнуўся назад і зноў апынуўся каля варот белага, на ўзор казармы, будынка з шыльдай—„Губчэка".

З рускае пераклаў *М. Б.*

МАРК КОЛАСАЎ

# ЯШЧЭ ПРА ПАПУГАЯ

Майму прыяцелю надакучыў папугай, той самы, якога ён купіў за пяцьсот рублёў і які доўга атручваў жыццё ў доме. Гэта была даволі няхітрая істота дваццаці сямі год—у яго гады Лермантаў памёр быў ужо. Але, як вядома, папугаі жывуць па трыста год—і ён быў яшчэ дзіцём. Характар яго быў просты, як персанажы клубнага рэпертуара. Слоўнік яго складаўся з трох словаў: „здароў, попачка", „попка дурань" і „Анюта". Але ён хутка стамляўся ад іх—работа над сабою давалася яму цяжка. Выразна вымаўляў ён гэтыя словы толькі ўранні, апоўдні ён ужо гугнявіў, а ўвесь астатні час—халтурыў. Ён быў злосны, любіў выхваляцца і гарачыўся, як старасвецкі памешчык. Аднаго разу ён пракусіў вуха пачынаючаму паэту. Паэт быў юнаком і, калі чытаў вершы, забываўся на ўсё, не лічыўся з навакольнай рэчаіснасцю. Толькі адзін слухач паставіўся да гэтае падзеі абыякава, вызначыўшы яе як натуральную сутычку двух светаў у сабе. Астатнія слухачы адкрыта схіліліся на бок паэта—папугая вырашылі прадаць. Была складзена заметка ў „Вячэрнюю газету", але па ёй ніхто не з'явіўся. Папугая вырашылі аддаць дарма. Пашчасціла старэнькаму чалавечку, вельмі сухенькаму, з асфальтавым тварам, запалымі грудзьмі і пакутніцкімі вачыма. Ён сядзеў крышку засмучоны і ашарашаны. Папугай дзейнічаў яму на нервы. Ён люта ўздымаў крыллі, кусаў клетку, падымаў гвалт, і крык яго пераходзіў у енк, прарэзлівы і нясцерпны. Усё глыбей асядаючы ў крэсла, старэнькі чалавек збянтэжана, з пашанаю і нясмела паглядзеў на гаспадароў.

— Ён заўсёды гэткі?—хваравіта крывячыся, спытаў старэнькі шэптам, па-дзіцячаму раззявіўшы рот.

— Наадварот,—таропка сказаў сусед.—Зусім!

— А гэта-ж што значыць „зусім"—дапытваўся старэнькі.—Ён хворы?

— Чаму хворы? Здаровы!—упэўнена басам гуў сусед.—Здаравейшы за нас з вамі! Ці бачыце...

— Ён наравісты?—разумеючы сказаў стары.

— Іменна!—адказаў сусед,—іменна, што...

Стары неяк асабліва сціснуўся, скрывіў рот і выцяг шыю, быццам ён рыхтаваўся скочыць на каго. На справе-ж ён рыхтаваўся да рашучага пытання.—Колькі вы за яго хочаце?—спачувальна спытаў стары, паблісквуючы разумнымі вачыма.

— Колькі?—замяшаўшыся, перапытаў сусед, але, аўладаўшы сабою, прамармытаў нядбайна:—я аддаю яго задарма!

— Задарма?!—задуменна сказаў стары і заклапочана прайшоўся каля клеткі, быццам баючыся, каб яму чаго не падстроілі.

„Фарсун" як відаць, вырашыў ён. Запалыя вочы яго раптам загарэліся хцівасцю. Цяпер заспяшаўся, замітусіўся стары, спрабуючы сваёй сухой ручкай падняць клетку.

— Шалахвост, от шалахвост! — крэкчучы пад ношкай, гаварыў стары ў калідоры.—Знаходка!

Стары, як выявілася, жыў блізка, і я дапамог усталяваць знаходку ў яго вялікім прасторным пакоі.—Шчасце!—сказаў стары.—Да чалавека рана або позна павінна прыйсці шчасце. Заўважце, яно заўсёды прыходзіць ад чужое дурноты. Вы разумееце, за-д-а-рма!?

— Аднак, як яно сквярэцца ваша шчасце.

— Няхай сабе сквярэцца,—спакойна сказаў стары.—Яно сквярэцца па сабекошту. Хочаце гарбаты?

Я адмовіўся.

— Можа, вы хочаце перакусіць?

Я зноў адмовіўся.

— Адразу відаць добрае выхаванне, а то вы паставілі-б мяне ў няёмкае становішча. Я-ж абедаю ў сталовай. У мяне сын вучоны і я не скарджуся на голад. Але жыццё ўсё-ж не смачнае. Скажыце, што рабіць старому сівагаловаму чалавеку ўвечары?

— Магу вам прапісаць кіно.

— За грошы?

— Дарма.

Стары ўзяў запіску. Скептычна пакруціў у руках.

— Ох, ужо мне гэткія запіскі!—насмешліва сказаў стары,—у кіно яны ідуць салідна, а назад б-я-г-у-ц-ь!

Слова „бягуць" ён расцягнуў. Аднак на другі дзень дзверы майго пакою прыадчыніліся, і ў шчыліне з'явілася разумная мордачка старога.

— Не перашкодзіў? — спытаў стары, скрывіўшы рот па-заячаму, бегаючы вачыма. Ён дзякаваў за дастаўленую яму ўвечары прыемнасць. Запіска падзейнічала, але фільм! Цяпер ужо ўвесь скепсіс стары выліваў на фільм.

— Вы што-небудзь разумееце ў домнах? Нейкі інжынерны фільм! Вы ўжо як-небудзь пашліце мяне ў кіно для служачых,—папрасіў ён.

І, яшчэ не паспеўшы ўсміхнуцца, раптам затрывожыўся.

— Слухайце, у мяне ёсць да вас больш сур'ёзная просьба,—дайце мне службу. Вось усе крычаць, што ў нас няма беспрацоўя, і ніхто не заўважае, што я жыву без работы. Я не скажу, што я галодны, або голы, у мяне сын вучоны. Дайце мне якую-небудзь пасаду ў канторы, у магазіне, у больніцы, дзе-небудзь бліжэй да могілак.

— Чаму да могілак?

— Таму, што скажу вам па сакрэту, нічога добрага не бачу ў жыцці.

— Не вярзіце глупства! Хочаце быць канторшчыкам на кніжнай базе.

Стары ўзрадаваўся, але не надоўга. Раптам ён збляк.

— Ну, а як будзе зімой?

— Што зімой?

— Як я буду пісаць зімой? Вы-ж бачыце мае рукі, гляньце на пальцы, во на гэты! Ён ужо чатыры гады не згінаецца. Калі-б вы ведалі, як ён не ладзіць з дрэнным надвор'ем!

Мы перабралі дзесяць прафесій і кожны раз стары адмаўляўся, знаходзячы тую або іншую прычыну. Ён спыніўся на адзінаццатай. Гэта была чыстая, добрая прафесія, спецыяльна створаная для старасці.

— Ачаг! Прытулак!—бурчэў стары, нацягваючы паліто.

Ён накіраваўся ў магазін навочных дапаможнікаў.

Праходзячы міма, я наведаў яго. Ён усміхаўся мне сваёй бяззубай усмешкай, тонучы ў блішчастых картах, у атачэнні нямой фауны

і флоры, у свеце птушак, звяроў і рыб, сярод людзей усіх рас і іх вантробаў. Ён уладарна выпісваў чэкі, надараў школьнікаў скарбамі свайго света. І школьнікі ажыўлялі гэты свет рознагалосым гоманам жывога жыцця. Але вось, размахваючы накладнымі, увайшоў чалавек з сэрцабіццем.

— Прымайце шкілеты!—звярнуўся ён да прадаўца і зняможана апусціўся каля прылаўка.

Стары ўзяў накладныя, недаўменна ўзняўшы бровы.

— Вы хочаце сказаць, чучалы?—далікатна сказаў стары.

— Шкілеты,—падкрэсліў агент, адной рукой абціраючы лоб, а другой трымаючыся за сэрца.

— Навошта гэта? Ну, навошта-ж гэта?—сказаў стары, баязліва паглядаючы на грузчыкаў, якія неслі тры чалавечых шкілеты.—Ну, куды-ж я іх пастаўлю? Слухайце,—сказаў стары, мужна гледзячы ў вочы агенту,—няма чаго арганізоўваць тут брацкія могілкі! Я астаўся працаваць у навочны магазін, а не ў пахавальную вобшчыну. Мне яшчэ толькі шэсцьдзесят год. Калі ўжо вам так падабаюцца шкілеты, дык нясіце іх сабе дадому, няхай яны напамінаюць вам пра дзень, калі вы збавіцеся ад вашае грудное жабы. Забірайце, забірайце, гэтыя косткі, няма чаго палохаць дзяцей!

Раптам ён загаварыў тонам змоўніка. — Слухайце, накіруйце іх у іншы навочны магазін і, я вас аддзякую, я вам падарую рэдкасць, яна каштуе вельмі многа!..

— Малады чалавек,—звярнуўся стары да мяне.—Я вам ніколі не буду скардзіцца на жыццё, не гаварыце суседу пра папугая, як бачыце, я аддаю яго задарма!

Пераклаў з рускае *М. Б.*

---

**Р. МУРАШКА**

# НА КАТАРЗЕ АКОПНАЙ

## I

Густы, раскошны нядаўна, лес пасечаны, скрышаны і перамешаны з зямлёю знарадамі. Толькі адзінокія хвоі, бялеючы свежымі ранамі, горда імкнуцца яшчэ ў далёкую вышыню. А можа і гордасці ў іх няма, можа скаргу сваю ўздымаюць яны на тонкіх параненых руках.

Адступіўшыся трохі, паўз бераг лесу, у бяскрайнюю далячынь паўзуць доўгія змеі акопаў. Чвырам і дзёрнам прыхаваны былі яны ад вока непрыяцеля, а цяпер паўскопваны, парыты знарадамі і не паказваюць ні знаку жыцця.

Зраненае, акрываўленае сонца тужліва злягло за ўзгорак, і здавалася: назаўсёды сягоння пакідае яно гэты тленны, няўтульны свет. Галасны звонкі хор птушак не праспяваў яму свайго вечаровага гімна, як заўсёды. Напалоханыя жудаснай смерцю, яны далёка за сабою пакінулі свой разбураны зялёны палац. Зацвыркаў адзінокі цвыркун і, нібы спалохаўшыся свае смеласці ці мо' адзіноты, адразу ўціх. Быццам дух жыцця назаўсёды пакінуў гэтыя неабсяжныя, квяцістыя некалі, прасторы.

Але вось закурэлася паволі далёкая балоцістая лагчына наперадзе. І, быццам паказваючы, што ёсць яшчэ кволыя адзнакі жыцця на гэтых знежывелых прасторах, белы лёгкі туман пачаў уздымацца над невялікай гнілою рачушкай. Туман гусцеў, распаўзаўся і ўкрываў усю лагчыну. І мёртвы вечаровы ландшафт ажываеў: вырываючыся з мяккіх вільготных абдымкаў тумана, вышла ў напрамку да акопаў пяцёра чалавек. Адзін быў у целагрэйцы, тры ў гімнасцёрках, а пяты ў шынелі без паяса.

Змрок цёмным дыванам засцілаў нячутна дол, і неба з квола блакітнага рабілася глыбока сінім, над гарызонтам пераходзячы ў фіалетавы колер. Дзве адзінокія зоркі, як ясныя вочы вялізнае птушкі цемрыва, што аксамітавымі крыламі ад зямлі засланіла святло дня, заблішчэлі ў далячэзнай вышыні.

З купы рэдкіх кустоў, якімі зарасла балоцістая лагчына, пецярых салдатаў сустрэў незлаблівы хрыплы вокліч:

— Хто ідзе?

— Ыш ты,—азваўся адзін з пецярых, той што ў шынялю.—А хто сядзіць? Ці не сакрэт?

— Ну сакрэт,—дабрадушна прасквярэла з куста.

— Ну дык пайшоў ты к ягнячай мацеры! Хочаш тутуню нямецкага — вазьмі на папяросу, не хочаш — яшчэ лепш. А ён — хто ідзе. Людзі... з гасцей ад немцаў ідзем.

З кустоў паказалася штыком наперад вінтоўка, а следам за ёю і сам аброслы, ускамлычаны сакрэт.

— Шалаюць цэлымі днямі і ночы ім няма, ліха іх галаве, а тут гібей во ў гэтым кусце распраклятым! Дзе твой тутунь, давай сюды... Ды змывайцеся, глядзець не перашкаджайце.

— А ты перагніся дый паглядзі,—тонам лёгкага жарту, але ў якім чулася пахмурная непралазная туга, сказаў другі з пяцёх—нізкі салдацік у гімнасцёрцы.

— Ну, ну, цвыркун,—дабрадушна азваўся сакрэт.—Я згадзіўся-б і перагнуцца і паглядзець, толькі ты вось каб пасядзеў у гэтым кусце за мяне. Чмыхаеш? Вось жа-ж.

Ён скруціў цыгарку ды зноў палез у свой куст.

— Праходзь, не застанаўляй глядзення,—пачуўся адтуль яго голас.

— І за нас паглядзі.

— Пагаворы там больш, дык вазьму ды назад вярну.

— Вось, падумаеш, спужаў. Ну завернемся ды да немца пойдзем. Немец прыме,—з лёгкім жартам азваўся ў шынялю, і ўсе крануліся зноў.—А ведаеце, сябры, вы вось насміхаліся з мяне, што я гарачынёю ў шынялі пайшоў, а ён мне і спатрэбіўся.

Ён расплікнуўся і выняў з-пад палы нямецкі карабін.

— Вунь—кале, глядзі ты,—азваўся трэці.

— Балакаў гэтта я, балакаў са сваім сябрам нямецкім дый думаю: „Дадзеў-жа ты мне, камарад, а вось карабін у цябе дык хвацкі".

— І хвацянуў.

— Не хвацянуў, а проста так. Адвярнуўся ён гэтта, а я пад палу дый кажу: „Бывай, брат — камарад". А вы тым часам, бачу, гатовы падацца ўжо... Хвацкая штука.

— Не абрыдлі табе яшчэ гэтыя штукі,—сурова загаманіў маўклівы, з георгіем на гімнасцёрцы.—Не абрыдлі—у Петраград адпраўляйся, да кампаніі з паліцыяй ды казакамі. Буржуазныя жывадзёры часовага ўрада страляюць рабочых на дэманстрацыі... А табе — штучкі. На рускага буржуя будзе ладнай і руская штучка.

— Падумаеш, пра жах сказаў—страляюць,—азваўся з карабінам.— А ты, Лагуцін, скажы, ты мала страляў? Георгія за што заслужыў.

— Вунь ты пра што,—павольна праказаў Лагуцін.—Я не ішоў на вайну георгія заслужваць. Мяне ўзялі з аднае катаргі, з фабрычнае, ды перагналі на другую, акопную. З адных ланцугоў закулі ў другія. А георгій... Георгій... Ён мне толькі ўспамінак, што я павінен быў выратаваць ад смерці жыццё дзесяткам сваіх таварышоў па гэтым ненавісным мне шынялю, — сцішыў ён голас і раптам загарэўся. — А там зусім не тое, галава ты, Коржыч! Там безаружных... безаружных,—з сілаю ўхапіўшы таго за рукаў, упускаючы кіпці ў мяса грубога шынельнага сукна, прахрыпеў ён,—рабочых пастралялі—старых, жанчын, дзяцей.

— Ну і вось здзівіў. Прывычка, дзівак ты, чалавеча, прывычка многа значыць. Я дык ніякіх жахаў не ведаю, каго хоч буду страляць. Вось толькі старых ды дзяцей... так, гэтых не страляў яшчэ. Але-ж і к таму нядоўга прызвычаіцца. Важна пачаць толькі.

— Звер ты ў чалавечай скуры,—захіпаючыся ў словах пракрычаў раптам маўклівы малады ў целагрэйцы і, пракрычаўшы, стомлена сціх.

— Ды пакінце вы,—нібы прачынаючыся ад жудаснага сну, папрасіў з карабінам.—Зжартаваў я.

— У дурную галаву заўсёды такія жарты лезуць,—азваўся зноў малады ў цэлагрэйцы... і быццам вялікіх намаганняў патрабавалі ранейшыя словы, загаманіў цяпер ціха-ціха:—А я стаміўся, ах як стаміўся, браткі мае, каб ведалі. Спачатку, як мабілізавалі мяне, дык было маркотна без жонкі, без малога—гадок яму быў ужо,—а потым за-

цягнула праклятая...Нянавісць нейкая зайшла ў сэрца. І страляў, і калоў, і прыкладам біў. Але вось і прапала ўжо яна, знікла, і цяпер на сэрцы пуста і адзінока. І нікога не жадаю ўбачыць, і нічога не чакаю больш, нішто не люба, і нічога не магу ненавідзець. Каб смерць прышла, здаецца, каб заснуць і нічога не ведаць гэтага, каб ціха, спакойна заснуць. Дык і смерць не бярэ. Ах, якая маркота, ах якая чарната! Змарыўся, браткі, я...

Ледзь чутна скончыў ён, і не скончыў, а далейшыя словы расталі ўпаўдарогі, расплыліся ў неправіднай маркоце, у дрыгвянай чарнаце, як лёгкія аблачынкі на блакітным фоне неба.

Пяць чалавечых фігур патанулі ў згусцелым змроку.

А сакрэт тымчасам зацягваўся з рукава папяросай нямецкага тутуню і думаў. Вось ён сядзіць у гэтым мокрым балоце, а чаго і што. Яму рабілася смешна і крыўдна. Быў ён хлебаробам: араў, сеяў, касіў, малаціў, мераў босымі нагамі гразь вясковай вуліцы. І раптам дзіка вырвалі яго з прывычнага жыцця, выдалі лубкую бялізну, адзелі ў зялёную гімнасцёрку і шаравары, брудныя патрэсканыя ногі абулі ў цяжкія боты, а зверху ўсё гэта накрылі шынялём—і вось ён ляжыць у праклятым гэтым кусце і бяссэнсава глядзіць, не змежваючы веяк, у цёмную апрыкрую ноч. Вось ён глядзіць, і на сэрцы гэтак лагодна—ці не ад тутуню нямецкага,—а зараз прыдзе ефрэйтар і скажа: „Уставай! Заснуў ці што! Марш па дакуманты, канцы вайне—замірыліся“. І ён скалануўся ад раптоўнае смеласці думкі і адчуў, што правае калена прамокла, а ў расслабленай руцэ ляжыць вінтоўка. Ён падлажыў пад калена шынельную палу і прыпамянуў, што атрымаў учора з дому пісьмо. Пісьмо выклікала ўзрушаныя думкі. Яму гэтак захацелася ўбачыць дом, пахадзіць да зморы за плугам ці бараною і адчуць свежы халадок разварушанай зямлі пад босымі нагамі. Але як ветрам павеяўшы прагнала лятуценні, і рука сціснула моцна вінтоўку.

Зусім недалёка захлюпацела і зачмякала звонка ў балоце, быццам хлябтала ваду нябачная па сваёй велічыні пачварына. Проста на сакрэт з боку нямецкіх акопаў моцна бег чалавек.

У сакрэта балюча заныла сэрца і ён не сваім голасам крыкнуў:

— Стой! Ні з месца!

Чмяканне абарвалася і адказам на вокліч у начную цемру пырснуў струмень нямецкіх слоў, жаласлівых, упрашальных.

— Ну, падыйдзі сюды, чаго балбочаш,—добрадушна праказаў сакрэт. І на сэрцы адразу павесялела.—Гэй, камарад, хадзі сюды!

Начная цемра задрыжэла, загайдалася, і перад сакрэтам спыніўся безаружны нямецкі салдат.

— Камарад! Руссішэн зольдат... Братанне... Карабін, нэйн карабін,—горача загаманіў немец, выбіраючы словы, якія былі-б зразумелымі яго рускаму калегу, і дапамагаючы пры гэтым гэстамі.

— Ага,—пачынаў дагадвацца сакрэт,—пакінуў карабін і ідзеш братацца з рускімі салдатамі. Гут, камарад! А табак у цябе ёсць? Табак!—пацёр ён пальцамі левай рукі перад немцам і запыхкацеў, паказваючы, што хоча курыць.

— О-о-о,—дагадліва працягнуў немец і радасна закаташыўся ў кішэнях.—Табак, я-я табак!

І выцяг паспешна з кішэні і падаў сакрэту партабак.

— Вось за гэта маладзец ты, камарад немец, што з тутунём ходзіш,—праказаў сакрэт, награбаючы ў шырокую далонь з партабака добрую палову лёгкага нямецкага тутуню і аддаючы назад партабак.—А цяпер можаш сабе ісці братацца. Ідзі, ідзі камарад,—махнуў ён рукою ў тыл,—ідзі смела.

— Шонданк,—цёпла праказаў немец, прыкладваючы руку да бесказыркі.—Шонданк, камарад. Гут рускі зольдат.
Густая, цемра падалася за немцам і рускі сакрэт гукнуў яму ўслед:
— Гэй там! Прапусціць аднаго немца!

II

Але ўночы акопы жывуць. Уночы трэба быць на варце. Парытыя, параздіраныя знарадамі, без жыцця, без гуку ўдзень, уночы яны варушацца чалавечымі фігурамі, шалпочуць і насяляюцца бязгучнымі глыбокімі думкамі. І ў тых акопах, якія завідна здаваліся пакінутымі назаўсёды, цямрэў слабы агеньчык.
Група салдатаў пры цмяным святле, якое давала аплыўшая свечка, сядзела ў крайнім выгіне акопа. Сярод іх былі і дэпутаты, якія хадзілі сёння да немцаў, члены палкавога салдацкага камітэта.
— Ды ніхто ад цябе, Лагуцін, не адбірае твае свабоды, што ты дурманіш,—кажа Каржыч. Ён стаіць на адным калене, узапёршыся рукамі на пастаўлены перад сабою нямецкі карабін.
— Гэта табе задурманілі галаву афіцэрскія сабакі часовага ўрада,— гаворыць суровы, з ласкавымі вачыма, Лагуцін.—Дзе тая хваленая свабода, калі мы хочам міру, а нас гоняць: наступай, страляй сваіх братоў па няшчасцю—нямецкіх, аўстрыйскіх, турэцкіх. Ты-ж сам бачыў і чуў—ці ненавідзяць немцы рускіх? А вось і пішуць яны нам: „Таварышы, рускія салдаты! Мы вам працягваем брацкую руку. І прапануем вам з двох адно: скончыць гэтую братазабойчую бойню, або ваяваць без канца. Вы сваім наступленнем нанеслі нам вялікія страты людзьмі". Дык дзе ворагі? Хто ворагі? Нямецкім салдатам ёсць за што ваяваць таксама, як і нам. Нашы ворагі гэта падпалкоўнікі, Дзесятавы, капітаны Шаляпіны, якія гоняць салдатаў у наступленне за інтарэсы памешчыкаў і капіталістаў. Нашы ворагі—часовы ўрад! Нашы ворагі—капіталісты і памешчыкі! Вось з кім трэба ваяваць нам, каб аддаць абрабаванаму імі працоўнаму народу яго зямлю, яго фабрыкі і заводы, яго дамы, каб адабраць заваяваную рабочымі, салдатамі і сялянамі, але ўкрадзеную капіталам свабоду. Вось дзе наш фронт!
— Нічога не скажаш,—азваўся Коржыч, ты гэтак праўдзіва гаворыш...
— Не слухай, таварыш Лагуцін, не слухай, братка, а пішы гэтым жывадзёрам, як ты сказаў,—уставіў ціхутка зморany салдацік у цалагрэйцы. І, абхапіўшы танклявымі рукамі калены, маркотным голасам ледзь чутна завёў:

— Во-да мы стая-а-али на герман-а-а-нском бе-режку
Ды во-о-о-да мы глядзе-э-элі, как волну-у-у-ется река...

Матыў, як і песня, быў цягуткім і бясконцым, як далёкі шлях на катаргу, як безнадзейная туга раба ў глухой нявол.
Заміргала часта свечка, і цені ўзбегаліся па тварах прысутных. А потым загарэлася ясна і асвятліла ад сіверу пацмянелы спакойны і ўпарты твар Лагуціна. І на гэтым нябрытым твары бліснулі жорстка ласкавыя вочы.
— Добра, напішам, таварышы, у Выканаўчы камітэт Совета рабочых і салдацкіх дэпутатаў, але я кажу, што гэта нічога не дасць. Меншавіцкія верхаводы прадалі сваё сумленне, яны баяцца цяпер міру, як агню. Напішам, а потым будзем высвятляць справу па-рабочаму, па-салдацкаму. Гэтак і скажам... „Некалькі пытанняў вам,

пастаўленым ад народа для абароны яго свабоды. Калі, мяркуеце, ваша войска ўступіць у Берлін? Ці не гінем мы за рынкі Англіі, за пралівы Мілюкова, за калоніі Францыі? Ці стае ў Петраградзе казакаў, артылерыі, юнкераў? Колькі трэба крывавым багам, міністрам-соцыялістам на абед штодня нашых галодных братоў рабочых і нашых жонак і дзяцей? Калі Керанскаму адрэжуць язык? Хаця свабода слова, але гэта конча патрэбна, таму што няма больш сыноў у матак для палкоў, якія Керанскі расфармоўвае і расстрэльвае. Памятайце, паны міністры і ўсе галоўныя кіраўнікі: мы ў партыях не надта разбіраемся, толькі недалёка тое будучае і мінулае—цар вас ссылаў у Сібір і садзіў у турмы, а мы вас пасадзім на штыкі. Дачакаюцца буржуі—прыдуць салдаты з фронта і пакалюць. Пратэстуем супроць Дзяржаўнай думы, каб не была! Уся ўлада Советам рабочых і салдацкіх дэпутатаў! Няхай жыве свабода, няхай жыве рэволюцыя! Мір хіжынам, вайна палацам! Дзействуючая армія. Група ўпаўнаважаных салдатаў з акопаў".

У цёмна-аксамітавай вышыні мігцяць гэтак задушэўна малюткія рэдкія зоркі, што малады салдацік у целагрэйцы не ў змозе звесці з іх воч. Ён сядзіць усё таксама, абхапіўшы калены танклявымі рукамі, у аднэй позе, не зварухне, і адзнака тугі і зморы на яго бясконцай жаласлівай песні.

— Пакінь ты выць! А гэтак жаласліва, каб цябе немач ліхая ўзяла,—раптам азываецца адзін з блізшых камітэтчыкаў, прыслухоўваючыся да аддаленага шуму ў акопе. Таварышы, я даведаюся, што там за гоман. Ды пакінь ты выць,—нутро дастае дый годзі.

З гэтымі словамі чулліві салдат знік за выгінам кулямётнага гнязда. Але не прамінула можа хвіліна, як ён бурна ўбег.

— Таварышы: падпалкоўнік Дзесятаў з капітанам Шаляпіным ідуць акопам. Ды, кажуць, немца ўлавілі—разведчыка ці што.

Лагуцін толькі паспеў схаваць спісаную паперу, як следам за шумам уварвалася каманда „Смірна", і скупа асветленыя паходным ліхтаром, які нёс стары падпрапаршчык, увайшлі падпалкоўнік Дзесятаў, капітан Шаляпін і пад канвоем двох салдатаў з вінтоўкамі безаружны нямецкі салдат.

— Палкавы камітэт, так ці што?—фарсіста зняважлівым тонам працадзіў праз зубы падпалкоўнік.

— Падпрапаршчык! Як вы пасмелі дапусціць гэта, дапусціць у маёй роце!—змяёю прашыпеў капітан Шаляпін.

Але перш чым хто паспеў азвацца немец кінуўся з крыкам да Коржыча:

— О, камарад Корзіч, камарад рускі зольдат. Мэйн карабін, о мэйн карабін!

Але немца паспеў ухапіць за рукаў стары падпрапаршчык і з дапамогай канвойных адцягнуць на сваё месца.

— Полк рыхтуецца наступаць, а вы, палкавы камітэт—так ці што, замест таго, каб падрыхтаваць сваіх таварышоў,—грэбліва скрывіўся падпалкоўнік,—заводзіце зносіны з ворагам айчыны! Георгіеўскі кавалер Лагуцін, як вы тут апынуліся? Вы, георгіеўскі кавалер!... Ах так, вы-ж член гэтага камітэта... Што вы скажаце на гэта?

— Гаспадзін падпалкоўнік,—спакойна, без хвалявання пачаў Лагуцін,—братанне з немцамі адкрыла салдатам вочы, яны не бачаць у немцах сваіх ворагаў.

— Вось як?—вырысоўна спакойным голасам праказаў падпалкоўнік.—Каннечна, каннечна...

— І таму, гаспадзін падпалкоўнік, я ўпаўнаважаны салдатамі заявіць вам, што наступаць мы не будзем і страляць у нямецкіх рабочых і сялян, апранутых у шынелі, толькі таму, што гэта патрэбна ворагам народа, адмаўляемся!

— Ш-ш-што!—выціснуў падпалкоўнік. І, закіпаючы гневам, і булькочучы ў горле словамі, пракрычаў:

— Пад канвой яго! У штаб палка!

— Вам гэта не ўдасца,—сказаў раптам Коржыч, павольна выступаючы наперад і закрываючы масіўнай сваёй фігурай Лагуціна.

— Мярзавец!...—задыхаючыся, праскрыпеў зубамі Дзесятаў.

— Ты сам мярзавец,—жахліва спакойным, да таго спакойным голасам, што мароз пабег па целе ў прысутных, адказаў Коржыч.

Рука ў падпалкоўніка вырвала з кішэні браўнінг.

І ў той-жа момант смешна падскочыў у сваіх цяжкіх ботах грузны немец і моцным ударам падкінуў угару руку падпалкоўніка. Стрэл правізаў начную цішыню і куля, не зачапіўшы нікога, паляцела ў цемру.

— У-у-у, гніда!—здзічэлым голасам выкрыкнуў Коржыч.

Карабін немца ўзляцеў у яго прывычных дужых руках, і галава падпалкоўніка Дзесятава з храбусценнем сустрэла прыклад вінтоўкі. Нібы карсэтам, абцягнутая мундзірам, як вылізаная, фігура рэзка паменшала ростам. Падпалкоўнік Дзесятаў няжыва рухнуў далоў.

Капітан Шаляпін хліпнуў і кінуўся ўглыб акопа.

Збянтэжана заенчыў стары падпрапаршчык:

— Братцы... таварышы... братцы...

Але яго ніхто не слухаў.

Кінуўшы карабін, Коржыч ірвануўся ўслед капітану. Немец са словамі „о, мэйн карабін“ падхапіў апошні і, гулка пераменьваючы цяжкімі падкутымі ботамі, пабег за Коржычам. Канвойныя прапусцілі яго і далучыліся да групы палкавога камітэта:

— Таварышы! Гэта пачатак таго, што павінна было адбыцца,— парыўчата загаманіў Лагуцін.—Зараз-жа ўсе ў роты! Падняць усіх салдатаў! Арыштаваць афіцэраў! Прыняць у свае рукі каманду!

І група салдатаў на чале з Лагуціным пабегла акопам.

У глыбіні акопа прагучэў стрэл. На адказ яму сонна заляскалі стрэлы з боку немцаў і, не чуючы адказу, той-жа час перасціхлі. Па акопах паляцеў крык:

— Падпалкоўнік Дзесятаў забіты!

— Ура-а-а!

— Далоў вайну!

Стары падпрапаршчык з ліхтаром, стоячы на тым самым месцы, бяссэнсава варушыў губамі:

— Таварышы... братцы...

Недалёка ад яго, прысланіўшыся плячыма да сценкі акопа і абхапіўшы рукамі калены, малады салдацік у целагрэйцы ледзь чутным зморaным голасам цягнуў:

Во-да мы стоя-а-а-ли на герма-а-а-нском бе-реж-ку
Ды во-о-да мы гляде-э-эли, как волну-у-ется ре-ка...

А з штаба палка паляцелі ў цёмны тыл коннікі. Гугнява заспяваў фанічны вызаў палявога тэлефона. Затрыпяталі тэлефонныя правады.

---

Першыя барвовыя праменні разаслала па апырсканай кроўю людскіх пакут зямлі вялікае стомленае сонца.

Ї пачынаўся зноў дзень, падобны на сотні тых, якія прайшлі, напамінаючы пра няшчасце няшчасным, пра злачынцаў роду людскога справядлівым, пра справядлівы гнеў прыгнечаным.

Ї крыўду сваю на тонкіх параненых руках прасціралі, бялеючы свежымі ранамі, стромкія хвоі.

Шчыльныя калоны штурмавых батальёнаў насоўваліся з тылу на мяцежныя акопы.

А ўгары, над акопамі, быццам апырсканы кроўю, трапятаў на ветры чырвоны спяг.

23-VII—34 г.

ПЯТРУСЬ БРОЎКА

## УЖО ВЕРАСЕНЬ

Ужо верасень.
Ветры-вандроўнікі
аж праз вокны нясуць халады.
Як шары,
наліліся антонаўкі
і да-долу прыгнулі сады.

Горда сталі
плячыстыя гумны—
усё лета забралі яны.
І па хатах калгасных удумна
падлічаюцца працадні.

І калі
растрасае вечар
жмені жоўтых асенніх лістоў,
ўсе збіраюцца
на сустрэчу
ад усіх чатырох бакоў.

Значыць,
скончылі добра уборку,
плённай працы сабралі дары...
Пад руку
з адмысловай танцоркай
уваходзіць у клуб трактарыст.

Шчокі—
быццам расквечаны макам,
да дзяўчыны прыліпла рука.
На грудзях яго
зоркай адзнака—
Варашылаўскага стралка.

Дружным хорам
сябры там сустрэлі іх.
Сам сабою азначыўся круг.
І тады
свой гармонік-прэмію
расчыняе ударнік-канюх.

І тады—
загуло, паняслося,
закружыла да самай зары.
Да вакон
прытулілася восень
і, як хлопцы, рагочуць вятры.

Менск, 1934 г.

ПЯТРУСЬ БРОЎКА

## НА ЧЫРВОНАЙ ПЛОШЧЫ

*(1 верасня 1934 г.)*

Многа нас стаяла
        на Чырвонай плошчы
і кожны адчуваў
        братнюю руку.
Уся сталіца пела,
        і агнёў прыгоршчы
падалі з паходняў
        у Масква-раку.

Так яно спявала
        наша маладое,
білася крыніцай
        па усёй зямлі...
Зоры ўсяго свету
        гарэлі над Масквою
і паміж іх плавалі
        нашы караблі—

над самым маўзалеем,
        дзе Ленін неўміручы,
дзе маладосць вітала
        высока, у гары,

дзе моцнаю сцяною
        стаялі яго вучні—
нашыя настаўнікі
        і правадыры.

І там перад трыбунай
        ад соцень гулкіх вуліц—
калоны дэманстрантаў
        плылі,
            плылі,
                плылі...

І комсамольцы неба
        З паветраных рэспублік—
крылатыя дзяўчаты
        і хлопцы там ішлі.

Праходзілі танкісты
        кальцом жалезным, цесным,

парашутысты—
госці завоблачных вятроў—
Там маладосць праходзіла,
праверыўшая песні
за кайлам
у тонелях глыбокага метро.

Яна ішла
І сцягаў чырвоная паводка
займала загарэлыя
юнацкія страі.
Праходзіла рэспубліка
другой пяцігодкі—
Іосіфа Сталіна—
думы і дні.

І мы былі ўсе разам,
там, на Чырвонай плошчы,
І кожны адчуваў з нас
братнюю руку.
Уся сталіца пела,
і агнёў прыгоршчы
падалі з паходняў
у Масква-раку.

1934 г.

АЛ. МІРОНАЎ
(ЧЭЛЮСКІНЕЦ)

# У МЕСЯЧНУЮ НОЧ

Мядзведзь ідзе сярод рапакоў, урачысты, як бяздонная палярная ноч. Ноч разліваецца над ім невыказнай сімфоніяй зор, кволага жоўтага месяца і бурных усплескаў паўночнага ззяння.

Ноч дыхае бяскрайным спакоем. Водбліскі нябеснага святла вострa пераламляюцца ў аснежаных рапаках і торасах, рассыпаючыся алмазамі ў бясконцых снягах.

Цішыня.

Блакітная ноч.

Самотна ідзе мядзведзь.

Мароз роўны, як штыль. Снег пругка хрумсціць пад лапамі звера. За медзведзём, чапляючыся за лапы, кладзецца ланцужок слядоў. А ён ідзе самотна, узвышаючыся, як жывы рапак, і ў белай поўсці яго пераліваецца месячнае святло.

Міля за міляй, за гадзінай—гадзіна: блакітная ноч, хрумсценне мядзведжых крокаў, жаўтлявае аблічча месяца. Месяц адпаўзае на поўдзень, усміхаючыся з недасяжнае вышыні. Звер упарта крадзецца да яго, ідучы, як п'яны, у развалку, ныраючы ў сінявасць рапаковых ценяў.

Месяц прышоў на бераг. Ён крыва ўсміхнуўся, скалануўшы ніці празрыстых праменняў, лёгка падскочыў угару і сеў на аблізаным ветрамі версе берагавое сопкі. Звер нездаволена раўнуў, злосна ашчэрыў зубы і вышаў на бераг.

Грузна спыніўся. Уздыхнуў. Зірнуў на месяц і, быццам дакараючы яго за гарэзнасць і няпэўнасць, павольна з боку ў бок заківаў трохкутнай галавой. Пасля адвярнуўся пакрыўджана і безнадзейна і настарожана наставіў калматыя вушы. Ён слухаў, асцярожна прынюхваўся да паветра. І раптам пайшоў уздоўж берага, ловячы невядомыя пахі. Месяц зняважліва скрывіўся, беражком вока прасачыў за зверам і, пераканаўшыся ў тым, што яго пакінулі, горка ахнуў на тым баку сопкі, лятучы ў снежную пустэчу.

* * *

Мэвэцьхургын спрытны, шырокі ў плячах і дужы. Не гледзячы на сваю маладосць, ён лёгка асаджваў уздыбленага воляй аленя, гасцюючы ў аленных чукчаў. Касаваты і шырокаскулы, ён быў чыстакроўным чукчам і прымесь чужой крыві не псавала закончанай выразнасці яго твару.

Маладосць моцна сябравала са славай добрага паляўнічага. Маржовыя промыслы бачылі яго цвёрдыя ўдары, пясцы часта грэлі вялікія рукі хлапца. Але слава не была поўнай: глыбокай прабоінай з'яўлялася ў ёй адсутнасць умкі—палярнага мядзведзя. І малады паляўнічы

гадзінамі кідаўся ў гарачых марах, жадаючы здабыць белапоўстага. Мядзведзя не было. Звер—асцярожны, ён рэдка падыходзіць да жылля чалавека і дарэмна Мэвэцьхургын крокамі вымяраў блакітныя прасторы, прагнучы сустрэчы і барацьбы. Калі і падыходзіў мядзведзь—яго сустракалі другія, змагаліся з ім і забівалі, а маладому паляўнічаму замест умкі даставалася гаркота крыўды, зайздрасць і нездавальненне лёсам. У гэткія дні ён моўчкі прыходзіў у ярангу таго, каму пашчасціла, доўга самотна стаяў у баку, глядзеў, слухаў гаворку другіх, зайздросцячы схаванаму пад маскаю абыякавасці гонару паляўнічага, а пасля павольна падыходзіў да магутнага звера, ласкава перабіраў яго срабрыстую поўсць, глядзеў у атуманеныя вечным сном чорныя зрэнкі.

Зрэнкі звера і чалавека чарнелі аднолькава таямніча, але ў першых была ўтома смерці, а другія па-воўчаму іскрыліся зялёнымі аганькамі.

...Заснуць ён не мог з вечара. У полагу загусцела цемра, нават тлушчавік пудліва абвяў у цішыні. Людзі дыхалі роўна, спакойна, агорнутыя моцным сном. А ад яго сон уцякаў, як непакорны ўпарты сабака.

Чалавек пругка ўскочыў, скінуўшы цёплую мехавую коўдру. Халадок лізнуў голае цела, і яно пакрылася шорсткімі на вобмацак пупышкамі гусінай скуры. Каля ног, там, дзе раней ляжаў сам, заварушылася жанчына, хаваючы ў цяплыню чуллівасць аголенага цела. Мэвэцьхургын нырнуў у кухлянку, спяшаючыся, абуўся, палохаючы цішыню шасценнем вопраткі.

— Хто?—сонна здзівіўся нябачны стары.

— Я,—адказаў апрануты.

— Туры тэгенэркі чайгутку?*).

— Але, бацька...

— Ідзі—стары зноў запытаў.—Ку-ды?

— Умка!—чалавек падняў уваходную скуру полага і вышаў з яранґі.

Ноч клубілася сінявасцю. Мароз прыветна захрумсцеў пад нагамі і рассыпаўся дробнымі скрыпамі пад частымі ўдарамі крокаў.

— Ф'ю-ю-іць!–свіснуў адмыслова мужчына і на свіст апынуўся пад яго нагамі сабака. Сабака скіголіў аддана і замілавана. Чорная поўсць яго паблісквала снежынкамі перапыненага сну.

— Тагам! **)—чалавек рукой пахлопаў сабаку па галаве, і той, злавіўшы руку зубамі, далікатна кусануў яе.—Хадзем шукаць умку, псіна!

Быццам разумеючы словы чалавека, сабака, узбрахнуўшы ў ноч, пабег ад яранґі. Ззаду захрумсцелі снегаступы і ў такт бегу за спіной Мэвэцьхургына загушкалася шызая руля вінчэсцера.

Бег сабака. Бег чалавек.

Чалавек думаў, прыслухоўваючыся да ночы.

„Будзе ўмка ці не будзе? Чаму другім ёсць, а мне няма? Чаму?"—ён напружваў бровы ў немым пытанні, вырашаючы невырашальнае, і думкі ўпарта шукалі прычыну, не знаходзячы яе.

Успомніў няомелую бацькаву параду—схадзіць да шамана, прываражыць удачу—і ўсміхнуўся, калі думкі вынеслі з памяці рэзкі яго адказ:

— Мэвэцьхургын—комсамол, ён не верыць шаману!

---

*) Ты хочаш ісці?

**) Пойдзем.

Добры адказ! Бацька стары, ён верыць, а сын ганарыцца маладым няверʼем. Няхай бацька тлумачыць яго няўдачу тым, што ён не верыць у духаў... Няхай! Да шамана ён не пойдзе, здолее давесці бацьку і старым сваю маладую рацыю.

— „Здабуду ўмку!“—вырашае Мэвэцьхургын, падваяючы быстры бег.

Ноч перакацілася ў новыя суткі. Месяц зацярушыўся шкуматкамі воблакаў. Снег і сопкі ў яго няпэўным святле сталі расплывістымі, невыразнымі.

* * *

Ноч разлягаецца бяскрайна і пахі яе нічым не пахнуць. Мядзведзь ідзе ўрачысты, як блакітная ноч, унюхваючыся ў цішыню.

З правага боку адхонам уздымаецца бераг, з левага—хаосам разлягаецца ільдзяное мора. Мядзведзь інстыктыўна прытрымліваецца рапакоў і сам здаецца вялізным, белаватым у блакітнай імгле рапаком.

Паўночнае ззянне згарнулася, пакінуўшы плямістыя сляды святла на сінім небе.

* * *

Мэвэцьхургын наважыў завярнуць назад: снег упарта не хацеў падаваць яму ўмку. Лыжы перасеклі многія сцежкі пясцовых слядоў, сабака дарэмна раіў чалавеку пайсці па іх, чуючы недалёка звера. Чалавек ішоў наперад і наперад. Пустэча была аднолькавай і чалавек вырашыў вярнуцца.

У момант, калі на вуснах яго празвінеў прызыўны свіст, сабака спыніўся, натапырыўшы поўсць, гледзячы ў бок ільдзянога мора. Там узвышаліся ў хаотычным беспарадку рапакі і там быў ён: паляўнічы ведаў гэта па незнаёмаму дасюль хрыпу сабакі—сабака гэтак не гырчэў ні на якога звера.

Абодва застылі ў чаканні—сабака і чалавек.

Чакалі...

І тады адзін з рапакоў адлучыўся ад астатніх і, павольна хістаючыся, падаўся ў бок прышоўшых. Падаўся наперад сабака, за ім—паляўнічы і ў руках яго бліснуў чорны вінчэсцер.

Застылі моўчкі ўтраіх.

Чакалі...

Месяц, прачуваючы смерць, настарожана затаіўся, спяшаючыся захінуў галаву абрыўкамі воблакаў. Жывы і мёртвыя рапакі зліліся ў маналіт, секунды цягнуліся ў тузе чакання, і чалавек, ломячы накавалкі напружання, цвёрда закрочыў да рапакоў.

Сабака шалёна ірвануўся. Да сабакі кінуўся рапак. Спляліся абодва моцна, на смерць, і тады паляўнічы, не цэлячыся ва-ўпор ударыў мядзведзя кароткай смерцю з вінчэсцера.

Сабака зваліўся пад ногі чалавека, енчучы і рыючы лапамі снег, быццам нешта дарагое шукаючы ў ім. Вантробы яго цмяна сінелі, як руля вінчэсцера. Мядзведзь быў велізарны. Ён ляжаў непрыступным невыразным грудам і ўпэўнены ў смерці звера, чалавек схіліўся над ім. Тады здарылася тое страшнае, чаго чакаў месяц: звер у агоніі таргануў лапамі, ахнуўшы нязлосна і тужліва. Паляўнічы пакаціўся ў сіні снег, здзіўлена ўзмахнуўшы рукамі.

Месяц таямніча выглянуў з-за воблакаў, пільна прыгледзеўся да трох і абыякава пайшоў па ўтаптанаму спрадвечнаму шляху...

* * *

Ранне прышло шэрае, як цяжкі боль у зраненым целе. Месяц, змучаны трывожнай ноччу, зжаўцелы ад бяссоння, непатрэбна і забыта блытаўся ў небе. Снег хрумсцеў, віхрачыся пад ударамі ветра. Па снезе імчалася запражка. Скуголячы сабакам праслізнула нарта. Побач з ёй у маладым бегу імчаў стары. Ён нервова пакрыкваў на сабак, гонячы іх шпарчэй за вецер.

— Бацька,— з нарты даляцеў слабы голас. Стары прысеў на перадок.

— Бацька, дзе тваё духі?—Мэвэцьхургын крыва ўсміхнуўся сухімі вуснамі.—Вось умка, глядзі...—ён ласкава акунуў руку ў мядзведжую поўсць.

Стары, унікаючы сынавага погляду, паправіў крывавую павязку на ягонай галаве і, саскочыўшы з нарты, весела, дзіка, па-новаму гукнуў на сабак...

Студзень 1934 г.

З рускае пераклаў *М. Б.*

---

ЭДУАРД САМУЙЛЁНАК

# ГЕРОЙ НАЦЫІ

Каб герр Отто Шульц не курыў сігарэты, можна было-б палічыць яго за манекен, што дэманструе вячэрні гарнітур. Ён быў выпрастаны ў такой ступені, як гэта толькі магчыма для чалавека наогул. Пагардлівыя лініі губ і рэзкія складкі на шчоках, упэўненымі і раз назаўсёды застылымі штрыхамі нязломнай волі сцягнулі сухаваты твар. Сінія акуляры хавалі яго вочы ад дзённага святла і ад поглядаў людзей. Так выглядае чалавек, што з дзяцінства прывык загадваць; такі выгляд меў чыстакроўны арыец, дырэктар канцэрна, кавалер і айцец нацыі герр Отто Шульц.

Як сказана вышэй, герр Шульц курыў. Сіняе воблака дыма было фіміямам богу чорнай індустрыі над аўтаром яго—тоўсталапым, прысадзістым рабочым сталом. Як сказана вышэй, галоўны жрэц гэтага бога, герр Отто Шульц, стаяў нерухома.

Перад ім знаходзіўся чалавек, якога звалі проста: Штанге. Ён стаяў на аднэй назе і глядзеў у сіняе шкло. Было зусім ціха ў габінеце. Косыя праменні сонца ўсцілалі паркет.

Штанге балела галава. Востры боль узняўся да такой ступені, што здавалася: папісквае, віскоча ціханька тоненькая дрыготлівая жылка ў левым віску. Але Штанге цярпліва стаяў і пакорна глядзеў у сіняе шкло.

Герру Шульц нічога не балела. Яму проста, мабыць, падабалася гіпнатызаваць гэтага калеку, што асмеліўся ўступіць у святая-святых храма грознага і магутнага бога. А магчыма герр Шульц у гэты час думаў, і сінія акуляры яго, як непранікнёныя застылыя вочы ўдава, чыста выпадкова накіраваны былі на няшчаснага труса.

Адным словам, прайшло досыць часу, пакуль сеў у крэсла манументальны герр Шульц. І яшчэ хвіліва прайшла, пакуль расклеіліся вусны патрона і кавалера, і голас яго разлёгся ў глухой габінетнай цішы:

— Я вас памятаю, Штанге. Вы тады былі юнаком і гэтак-жа, як цяпер, стаялі супроць майго стала. Вы некалькі змяніліся... Але не змяніліся, відаць, абставіны. Вы зноў стаіце супроць майго стала. Чым стары Шульц можа быць вам карысны?

І перш чым Штанге здолеў адказаць—гэст:

— Да рэчы, сядайце!

Штанге ступіў крок назад, спаткнуўся на крэсла і ўпаў у яго вельмі нязграбна. Звычным рухам ён адшукаў вышэй калена металічны гузік. Пружына суха шчоўкнула. Нага сагнулася. Маршчыны на лбе дырэктара ўзняліся і апалі, як узнімаюцца і ападаюць складкі шторы.

— Пратэз?

— Пратэз,—прашаптаў Штанге.

— Дзе?.

— Пад горадам Мерыкур. Я служыў у пятнаццатым Браўншвейнгскім палку.

— Пятнаццаты Браўншвейнгскі полк?!

— Так. Я салдат гэтага палка, герр Шульц.

Сонечны зайчык успыхнуў на сінім шкле.

— Мой сын, афіцэр вашага палка, Гастон Шульц, у пачатку вайны атрымаў цяжкое параненне. Адзін з салдат вынес яго на плячах з зоны боя. Што вы кажаце, Штанге?

— Выбачайце... Я кашляю...

— Гэта геройскі ўчынак: вынесці на плячах свайго афіцэра. Вы памятаеце гэты выпадак, Штанге?..

— Памятаю, герр доктар.

Дырэктар адкінуўся на спінку крэсла і крыху падумаў.

— Вы, бясспрэчна, прыйшлі прасіць работу?

І рукой папярэдзіў Штанге, калі той паспрабаваў устаць.

— Немагчыма. Металургіі патрэбны здаровыя людзі,

Штанге дакрануўся рукой да потнага віска. Вісок быў ліпкі, як-бы акрываўлены.

— Я... мог-бы выконваць чарцёжныя работы.. герр доктар. У мяне пры смерці жонка... Я два гады без работы...

— Вы атрымоўваеце дзяржаўную субсідыю, Штанге.

— Але.. герр доктар...

— Я разумею. Вы павінны таксама разумець. Дзяржава—не гадавальнік для людзей, што па тых ці іншых прычынах страцілі працаздольнасць. Дзяржава вылучае частку сродкаў. Трэба мужна пераносіць іспыты лёсу!... Што-ж датычыцца чарцёжнай работы, то заўважце: яны ў нас надзвычай скарочаны, і пры тым яшчэ,—мы маем поўны камплект абсалютна працаздольных людзей. Усё. Я скончыў, Штанге...

На ілбе дырэктара апалі складкі. Заслона апушчана.

— Публіка пакідае тэатр задаволенай,—успомніў Штанге. Так гаварыў Эрнст Вільке, той самы, што вісеў два з паловай месяцы на дроце французскіх акопаў... Калі нямецкія часткі дарваліся нарэшце да першай лініі ворага, ашчэраны страшнай усмешкай вітаў іх Эрнстаў чэрап. Гэта было ўсё, што засталося ад вясёлага сына панурых Саарскіх шахт.

— Спектакль скончыўся. Публіка пакідае тэатр задаволенай.

Так гаварыў Эрнст, калі праязджалі грузавікі, напоўненыя трупамі германскіх і французскіх салдат. Мусіць і сам Эрнст быў задаволены тым, што прыйшла яго чарга... Інакш чаго смяяўся лысы чэрап, калі прабіваліся да яго таварышы, перамагаючы ўраганныя смерчы агня французскай артылерыі, і пераможаныя самі падалі дзесяткамі і сотнямі!!.

Зазвінеў тэлефон. Дырэктар узяў трубку. Складкі ўзняліся і застылі, падабраныя адна да адной: гэта была гафрыраваная сталь.

Штанге сядзеў у крэсле згорблены. Ён прыціскаў пальцамі дрыготлівую жылку віска. У грудзях, нібы волавам налітыя, пахрыпвалі прабітыя лёгкія. Падцягнуты пусты жывот скручваў усю істоту ў суцэльны ком болю і цярпення.

...цяпер зразумела, чаму смяяўся Эрнст... Весела было гойдацца на дроце яго лёгкаму шкілету пад гвалтоўнымі вятрамі мёртвых палёў вайны... Для яго спектакль быў скончаны. Для другіх-жа ён

Дамы былі шакіраваны: гэты смуродны жабрак не ўзяў нават рэшты! Ён хоча набыць свецкі тон! Гаспадар быў абражаны. У яго нарэшце павільён кветак, а не склад для кастылёў.

* * *

...Ну, от і ўсё, Эльза... Я прынёс табе кветкі, як ты і хацела таго, хоць гэта яўнае глупства... Я добра ведаю, што мёртваму нічога не патрэбна. Па сутнасці ты зараз не Эльза. Ты была Эльзай, а цяпер ты не Эльза. І я мог табе не прынесці кветак, бо за іх я зноў-такі заплаціў дорага. Але паколькі абрабавалі ўсё маё жыццё ад пачатку да канца, то цяпер ужо і гэта не важна.

...На небе цябе няма, Эльза... На небе эскадрылья многаматорных бомбавозаў, якія пабудавалі зусім нядаўна. І з імі цэлыя стаі знішчальнікаў. Я ўсё гэта бачыў зараз, як хадзіў за кветкамі. Гэта манеўры, забава. Але як толькі хлопчыкі ў скураным адзенні пачнуць гуляць усур'ёз, то тагды, я думаю, не хопіць кветак на кожнага мёртвага. Гэтак ужо не адзін раз было. Кветкі растуць толькі пасля вайны і перад вайной. Перад вайной асабліва. Гэта неабходна, каб напусціць фасону каля першага мерцвяка і першага героя нацыі. Потым ужо справа абыходзіцца без кветак.

...Так што, Эльза, я маліцца не буду. Бог носіць генеральскія эпалеты, яму не да таго. Зараз ён прысутнічае на манеўрах, а потым будзе заняты на нарадзе генштаба. Тое, што ты лічыш за грэх супроць мяне — дробязь. Мяне, Эльза, не так яшчэ абрабавалі. Ты-ж для мяне была заўсёды дарагім і мілым другам, і каб на тваім шляху не папаўся герой на адной назе, то, магчыма, і цяпер твае ясныя вочы радаваліся-б на гэтай праклятай зямлі. Мяне абрабавалі і ў першую чаргу паплацілася ты... Але... што-ж гэта я з табою размаўляю?! Ты-ж мёртвая!..

Цябе-ж няма...

Штанге сціснуў галаву рукамі і абапёрся локцямі на падваконнік.

...Ціха, Штанге! Супакойся! Гэтак можна звар'яцець!

— А можа я ўжо зараз вар'ят? А? Эльза?

Было ціха.

Штанге сціскаў галаву рукамі.

Прайшоў час. Можа дзесяць хвілін, можа пяць гадзін.

І раптам Штанге азірнуўся.

— Хто там? Што? Уваходзьце!

У дзверы не пераставалі стукаць.

Штанге ўзяў кастыль. Але перш чым ён дайшоў да дзвярэй, яны адчыніліся. На парозе стаяў высокі, шырачэзны чалавек у капялюшы. З-за яго плячэй выглядвалі яшчэ двое.

Штанге адразу пазнаў: гэта быў Гастон Шульц. Зусім не такі, зусім не той—у спрытным мундзіры лейтэнанта. Стаяў грузны, таўсты чалавек у акулярах і глядзеў, блізарука прыжмурыўшы вочы, у кут, міма Штанге. Пакоік быў цёмны і нельга было разабраць, што такое белае ляжыць у куце.

Штанге адступіў з дарогі.

— Прашу заходзіць!

Зашалясцелі плашчы. Людзі адзін за другім прабраліся ў вузкія дзверы. І Шульц, а за ім другія, адразу знялі капялюшы. Цяпер Шульц убачыў, у чым справа.

— Я вас пазнаў, герр Шульц, — сказаў Штанге. — А гэта от мая жонка. Эльза Штанге... Эльза Розе...

Шульц стаяў выпрастаны, нерухома. Штанге здалося, што твар Шульца пабялеў.

Тады агледзеў двух астатніх. Яны былі незнаёмыя. Пры іх былі фото-апараты.

Шульц зрабіў нейкі незразумелы гэст рукою. Ці то хацеў прыгладзіць валасы, ці то паправіць акуляры. Потым адступіў на крок і павярнуўся да Штанге.

— Сумна... Вельмі сумна, дарагі Штанге. Бедная жанчына. О, гэтыя хваробы! Яны без часу...

— Эльза скончыла самагубствам,—адрэзаў Штанге.

Шульц змоўк на поўслове. Тыя два пераступілі з нагі на нагу і пераглянуліся. Цяпер не было аб чым гаварыць.

Стаялі доўга.

Потым Шульц уздыхнуў і перахрысціўся.

— Вечная памяць...

І павярнуўся да Штанге зноў.

— Мы хацелі... Мы просім увагі на некалькі хвілін.

І пакуль Штанге збіраўся адказаць, Шульц аўладаў сабою зусім.

— Мы не павінны парушаць спакой нябожчыцы. Мы маглі-б выйсці хоць на пляцоўку: некалькі слоў.

Штанге згадзіўся. Яму ўсёроўна, куды ісці і што слухаць. Яны дапамаглі яму выйсці з каморкі і на пляцоўцы шчыльна абступілі яго. Штанге зразумеў толькі адно: ён зноў становіцца героем нацыі.

— Пяцьсот марак за выступленне...

— Інтэрв'ю ў газеты...

— Фото...

— Уваскрошванне славы нацыі...

Гаварылі доўга.

І нарэшцэ Штанге працягнуў руку.

— Потым! Усё потым... Не цяпер... Не зараз...

— Мы разумеем, герр Штанге. Але ўсё неабходна зрабіць як мага хутчэй. Праз тыдзень нацыянальнае свята. Асаблівых намаганняў ад вас не патрабуецца. Вы прачытаеце напісаны тэкст. І ўсё. Мы прыедзем да вас зноў. Потым у вашым распараджэнні будзе аўто. От, герр рэдактар, ласкава прадастаўляе вам машыну. А цяпер...

Паперкі зашалясцелі ў руках Шульца.

— У вас выдаткі... Помнік вашаму цудоўнаму другу жыцця... Вянок ад прыязных вам братоў па зброі...

Але Штанге рашуча адхіліў руку Шульца і рэзка адказаў;

— Сваю жонку, герр Шульц, я пахаваю сам!

Той паціснуў плячыма, скамячыў грошы і ўсунуў іх у кішэню. Губы сцягнуліся ў зняважлівай грымасе: цяпер Шульц быў падобны да свайго бацькі, патрона і кавалера.

Так ён стаяў цэлую хвіліну.

Штанге скурчаны вісеў на кастылі.

Потым твар Шульца зноў стаў прыветлівым.

— Я разумею становішча вашае душы, герр Штанге. Але вы дарэмна адмаўляецеся ад дапамогі рукі вашага баявога таварыша. (Ён памаўчаў). Усё-такі спадзяюся, я знайду магчымасць быць карысным вам. Значыць, як умовіліся?..

Усе трое прыўзнялі капелюшы.

У пакоі Штанге сказаў:

— Яны зноў аблытваюць мяне, Эльза... Мабыць, у мяне яшчэ засталося крыху сокаў...

Ціхія вячэрнія цені туліліся па кутках каморкі. Штанге дакульгаў да вакна, сеў на табурэтку і больш не варушыўся.

Шчоўкаў маятнік гадзінніка. Ён адлічваў час.

* * *

Генрых Гутман хадзіў па маленькім сваім пакоіку і курыў кароткую люльку. Ён быў падобны да бывалага матроса ў гэтым паласатым цельніку, высокі, сухаваты, шырокаплечы, па-юнацкаму спрытны. Наогул ён мала змяніўся з тых часоў. Толькі сівыя пасмы ў валасах, і твар стаў яшчэ больш суровым, скура сцягнулася рубцамі на падбародку ад даўнейшай шрапнельнай раны.

— Ну дык што-ж у цябе за навіны, Франц?

— Штанге маўчаў. Сядзеў ссутулены, апіраўся на кастыль і глядзеў некуды за вакно. Там, уначы вялізным сузор'ем раскінуліся агні горада.

Гутман падыйшоў да Штанге і паклаў руку на яго плячо.

— Здарылася што-небудзь дрэннае?

Штанге ўздрыгнуў і з намаганнем праглынуў сухі камок, што захрас у горле.

— Эльза... Эльза пакончыла самагубствам...

Гутман завярнуўся і пачаў зноў хадзіць па пакоі. Ён забыўся на тое, што люлька загасла, і час-ад-часу пацягваў яе, і не прыкмячаў, што дыму няма.

Штанге не адрываў вачэй ад агнёў, што дрыжэлі далёка ўначы. Цераз некаторы час ён сказаў:

— Сёння я завёз яе на могілкі.

Гутман хадзіў.

— Я прышоў да цябе, Генрых, каб атрымаць параду. Больш я не маю нікога. Ты адзін...

Зноў маўчалі доўга. Потым Штанге выпрастаўся і пачаў гаварыць спакойна, аднатонна, з поўнай абыякавасцю, што зноў прышла да яго, як у той вечар, калі ўбачыў мёртвую Эльзу.

— Мне хочацца прыпомніць, Генрых, нашу першую сустрэчу дваццаць гадоў таму назад. Я памятаю твае словы так, як-бы яны сказаны сёння:—цяпер вы радасна крычыце, потым будзеце раўці ад страху і, нарэшце, будзеце стагнаць, як апошняя істота на свеце. Гэта не проста словы, гэта прароцтва...

— Гм!!!

— Я радасна крычаў, ап'янёны патрыятызмам, а потым я роў ад вар'яцкага страху перад усім гэтым жахам вайны пасля таго, як знік усялякі повад для радасці... і нарэшце, Генрых, пасля таго, як пачуццё страху знікла (бо не было чаго шкадаваць у жыцці), я стагнаў, як апошняя на свеце істота, і нават не адчуваў усяе мізэрнасці свэёй...

Гутман запаліў люльку і абапёрся, плячом аб сцяну. Ён таксама глядзеў на вакно, дзе ў чорнай начы дрыжэлі сузор'і агнеў. Штанге гаварыў далей:

— Ты яшчэ сказаў: ні ў тым, ні ў другім, ні ў трэцім выпадку не здольны вы будзеце стрымаць альбо разгарнуць ход падзей. Я выступаў з патрыятычнымі прамовамі, а ў гэты час маё імя запісвалася ў вайсковых рэестрах пад адпаведным нумарам. Я палаў найлепшымі пачуццямі і думаў, што на мяне глядзіць з любоўю і ўдзячнасцю ўся краіна, а мяне, аказваецца, расцэньвалі ў тых самых рэестрах, як нікчэмную адзінку, як грам гарматнага мяса... От як, Генрых. Я думаў, што раблю высокі геройскі ўчынак, а аказалася, што я вынес п'яную

свінню з зоны боя проста на пляж нейкага курорта, а на біржу ён дабраўся ўжо без маёй дапамогі... Я плакаў над сваімі ордэнамі радаснымі ўсхвалёванымі слязмі, бо гэта была мая кроў, якую я праліў за нацыю. А ў гэты час іх, мае ордэны, кроў маю куплялі і прадавалі на біржы і, калі яны страцілі каштоўнасць, мяне выкінулі ў акопы і адтуль я прыпоўз калекай...

Штанге закашляўся. Ён кашляў доўга, згорблены, і яго вострыя лапаткі ўздрыгвалі ў сударгах.

— У мяне быў талент... У мяне былі здольнасці... Ад мяне адабралі ўсё гэта. Мяне зрабілі пустым і непатрэбным калекай. Я доўга і многа думаў. І я надумаў адпомсціць. Усе пасляваенныя гады я збіраў дакуманты... аб тым, як зарабіў свае ордэны герой нацыі Штанге і як гэтыя ордэны і сам Штанге былі скарыстаны на тое, каб яшчэ больш даць мяса французскім гарматам. Я сабраў шмат дакумантаў і ўстанавіў прыблізна колькасць добраахвотнікаў, што пайшлі за мэімі ордэнамі. Я паказаў гэтую подлую механіку правакацыі і забойстваў дзеля нажывы. Я напісаў добрую кнігу: у мяне нечакана выявілася здольнасць літаратара... і кнігу гэтую я хацеў прынесці вам, комуністам. Толькі вы не прадалі-б яе за золата! Вы заўсёды былі правымі і праўдзівымі, як ты, Генрых... Толькі вам я мог даверыць яе, бо гэта быў вынік усяго майго няшчаснага, абрабаванага жыцця. Гэта было ўсё, што я мог зрабіць...

Гутман адышоў ад сцяны.

— Дзе кніга? Ты прынёс яе?

Штанге маўчаў, нахілены над сталом.

— Я пытаюся, ты прынёс гэтую кнігу, Франц?

— Я... прадаў кнігу сам... Генрых...

— І прышоў плакаць мне ў жылетку?

Штанге маўчаў.

— Называецца адпомсціў...—насмешліва сказаў Гутман.—Што карысці з тваіх енкаў?

— Эльза карміла мяне ўсе гэтыя гады, усё нашае сумеснае жыццё я быў яе ўтрыманцам, бо мая субсідыя—гэта капейкі. Нарэшце, яна захварэла. Голад... убоства... Яна мне аддала ўсё сілы, яна заплаціла жыццём за каханне да калекі. Я вырашыў, што павінен яе ўратаваць. Я пайшоў да старога Шульца і сказаў яму: я вынес вашага раненага сына, я некалі зрабіў вам паслугу, цяпер дапамажыце мне вы... Я прадаў сваю кнігу сам дзеля ратунку Эльзы. Я сказаў: в ы н е с в а ш а г а р а н е н а г а с ы н а. Раз я сам прызнаў гэта, то хто-ж паверыць маёй кнізе? І калі я прывалокся дадому, то там былі пажарныя, мёртвая Эльза і яе ліст да мяне. От ён...

Штанге разгладзіў паперу.

— Яна піша: „...мне не хапае паветра. Я стамілася і больш не магу. Я не хачу працягваць сваю агонію і адбіраць ад цябе апошні кавалак хлеба... Я бяру на сябе смяротны грэх самазабойства, як і той грэх, што маім першым мужам быў Гастон Шульц. Яго дзіця нарадзілася мёртвым. Даруй мне, Франц...“

Штанге паклаў паперку на стол.

— Ты бачыш, Генрых, як мяне абрабавалі?

Гутман маўчаў.

— І што мне рабіць, я больш не ведаю.

— Ты адзін на адзін гаварыў з Шульцам?

— Так. Але потым яны прыехалі да мяне: Гастон Шульц і нейкія рэдактары. Яны хочуць, каб я выступіў на радыёстанцыі ў дзень свята.

— Ты, безумоўна, адмовіўся?

Штанге апусціў галаву.

— Мне было не да таго. Магчыма, я адмовіўся, можа і згадзіўся. Не ведаю... Не памятаю... Усё загінула.

Штанге ўздрыгнуў і прыкрыў вочы рукою.

— Я паказаў мёртвую Эльзу гэтаму лейтэнанту... Ён і брывом не павёў.

— А ты думаў, ён будзе плакаць разам з табой?

— Я прышоў за парадай, Генрых... Што мне рабіць?

Гутман маўчаў. Ён глядзеў на Штанге, на згорбленага калеку, ад якога адабралі ўсё, што ён меў. Сівы Штанге, стары ў сорак гадоў,— змучаная і нікчэмная істота—яшчэ спрабаваў знайсці нейкую апору і застацца жыць.

— Памятаеш, Франц,—нарэшце сказаў Гутман,—памятаеш, мы з табою гаварылі ў шпіталі?.. Я цябе клікаў за сабою, на сваю дарогу. Ты сказаў: навошта я буду клапаціцца аб другіх, коштам свае галавы і пакуты, ствараць для іх шчасця, калі для мяне прыдзе канец свету разам з маёй пагібеллю. Я лепш буду клапаціцца аб сабе... Ты хлусіў! Ты змагаўся за буржуазію і ведаў гэта, бо яе інтарэсы былі табе блізкімі. І цябе абабралі, знявечылі, цябе выкінулі вон, ты прайшоў праз гады цярпення, аддаўшы кроў для нажывы сытых, і от цяпер ты прышоў да нас пытаць парады! Што я табе магу параіць? Ну, скажы мне, якой парады ты ад мяне чакаеш?!

Штанге маўчаў.

— Ты гаворыш—прынёс для Эльзы ўсё. Ты на гэта не меў права. Для карысці аднаго чалавека ты прынёс тое, што належала мільёнам людзей. Ты знішчыў рэволюцыйную думку, створаную табою самім. Ты не мог знесці пакуты блізкага чалавека і паставіў на карту тое, што магло аблягчыць пакуты тысячам людзей.

Гутман зрабіў некалькі крокаў да Штанге і падняў руку, паказваючы на вакно.

— Сябе лягчэй прынесці ў ахвяру, чым ахвяраваць другога. Але ці ведае хто такі выпадак, каб маці-пролетарка стала на калені перад катамі і сказала: аддайце майго сына, я ўсё жыццё буду служыць вам за гэта?! Ці была хоць адна рэзалюцыя рабочага схода аб тым, што пролетары адмаўляюцца ад барацьбы пры ўмовах выдачы іх правадыроў?! А людзі, што ў турмах, людзі, якіх вешаюць і расстрэльваюць—кроў і косць рабочага класа! Што я табе магу параіць!

Гутман павярнуўся і прайшоў па пакоі. І адтуль, ад парога, крыкнуў:

— Выбірай сам сваю дарогу, Франц Штанге!

Штанге сядзеў усё гэтак-жа згорблены. Што ён можа цяпер зрабіць? Па якой дарозе можа ён пайсці цяпер, калі пазбавіўся сіл!? О, каб ён тады ўсё разумеў так, як разумее цяпер! Тады, калі ў яго былі сілы, калі ў яго быў цвёрды крок і здаровыя лёгкія! Тады, у тыя гады, якія зніклі пад попелам вайны, якія апаганены агіднай справай забойства ў імя нажывы другіх!

Маўчалі і думалі двое людзей, што разам прайшлі цяжкімі дарогамі вайны і пакут і засталіся рознымі ў той-жа меры, як і ў дзень першае іх сустрэчы.

Дальнім прыбоем шумеў горад...

* * *

У ціхі дзень верасня срэбнае павуцінне аблытала жоўтагрывыя клёны, лапчатае лісце каштанаў, сіняя далеч гарызонта была яснай, сонца лагодна грэла зямлю. Нават вялізны горад дымным сваім дыханнем не ў сілах быў затуманіць лагодную яснасць вераснёвага дня.

У гэты дзень Штанге адчуў спакой. У чым жа справа? Адзін Шульц няздольны будзе абвергнуць усяе сумы абвінавачванняў, што узняў супроць іх усіх Штанге! А тое, што потым можа здарыцца з ім, гэта ўжо не важна. Ва ўсякім выпадку менш важна.

І Штанге ішоў маленькімі завулкамі ўскраіны, зусім спакойны і нават крыху радасны. Ён упросіць Гутмана ўзяць рукапіс, ён нікуды не паедзе з Гастонам Шульц, ніякіх патрыятычных прамоў больш не ўчуе нацыя ад свайго гаротнага героя. Досыць! Трэба, каб людзі дазналіся аб праўдзе. Ім раскажа аб ёй от гэты скрутак папер. А пасля—няхай сабе і скончацца дарогі Франца Штанге. Усё роўна, больш ён ні на што нядатны.

Замурзаны дворнік чысціў сточную канаву. Ён убачыў, што калека з медалямі, пастукваючы кастылём, затрымаўся ў варотах, нешта паправіў за пазухай і намерваецца ўвайсці ў двор. Дворнік вырашыў, што трэба ўмяшацца.

— Т-с-с-с!

Штанге азірнуўся.

Дворнік падышоў да яго.

— Вы, здаецца, бываеце ў 75-й? У Гутмана?

— Так.

— Учора яго павезлі,—сказаў дворнік, аглядаючыся на вуліцу.— Штурмавікі яго павезлі...

— А-а а?!..—сказаў інвалід. Яго твар стаў шэрым. Ён абапёрся рукой аб сцяну.—Па-везлі...

— Раю не хадзіць туды...—сказаў дворнік,—бо, відаць, вам і так ужо дасталося... Ну, хутчэй адгэтуль!

І Штанге пайшоў. Ён не разумеў, куды і навошта ідзе. Ён глядзеў проста перад сабою і час-ад-часу паўтараў:

— Генрых... А-а-а!.. Генрых!!!

Ён не ведаў, колькі прайшло часу, пакуль ён дабраўся да ўзбярэжнай. Ён убачыў чыгунныя пераплёты ў нейкім няясным асвятленні, як у тумане. І толькі пасля зразумеў, што ўжо надышоў вечар.

Хвалі набягалі на цёсаны камень сцяны ўзбярэжнай. Разбіваліся аб яе, ускідваючы пырскі і адступалі назад. Пасярэдзіне ракі ішоў параход. Так было ў дзяцінстве. Разбіваліся хвалі аб цёсаны камень. Яны падхапілі бутэльку і ўдарылі яе аб сцяну. Бутэлька трэснула. Так некалі трэснуў параход, якім кіраваў Карл Штанге, і капітан загінуў разам са сваімі матросамі, не давёў параход да гавані, і гаспадар не атрымаў ад гэтага прыбыткаў. То было ў дзяцінстве...

Недалёка ад Штанге, на прыколе стаяў транспартнік. Тут мусіць глыбока, бо гэткі вялікі параход стаіць каля самае сцяны...

...А заўтра нацыянальнае свята...

І тады Штанге паглядзеў на раку, як на лужыну, і ўсміхнуўся. І гэтак усміхаючыся, пашоў прэч.

* * *

Каля пад'езда, прыбранага сцягамі, спынілася чорная бліскучая машына. Падбег швейцар і адчыніў дзверцы. Адтуль высунуўся кастыль. Швейцар дапамог Штанге выйсці з машыны. Штанге быў у форме, у шэрай тужурцы, на зялёных наплечніках—трафарэткі „15". Штанге паправіў круглую шапку-бесказырку і пачаў узбірацца па ўсходах. Яго падтрымліваў швейцар.

Потым яго вялі па войлачных дарожках даўгіх карыдораў. І нарэшце Штанге ўвайшоў у вялікі пакой. Сцены тут былі задрапіра-

ваны. Пакой быў падобны да глухой скрынкі. Вялікі светлы круг нябачаных памераў лямпы праменіў роўнае, мяккае святло. На блiскучай падстаўцы за сталом узвышаўся маленькі чатырохкутнік мікрафона. Адгэтуль герой нацыі будзе гаварыць да яе. Адгэтуль тонкія ніці правадоў працягнуліся да рупараў на вуліцах і пляцах горада. Шкода, што гэта толькі трансляцыйная падстанцыя, што голас Штанге не дасягне зарубежных краін...

Штанге доўга чакаў. Потым прышоў чалавек і прынёс некалькі лістоў паперы.

— От, тэкст вашага выступлення. Азнаёмцеся. Праз дзесяць хвілін уключаць мікрафон.

Штанге прачытаў першыя роўныя радкі, надрукаваныя на машынцы.

„У гэты вялікі дзень—шчыры прывет ветэрана. Я бачу адгэтуль асветленыя радасцю вашы твары. Вы глядзіце на слаўных сыноў Германіі, вы глядзіце на шэрагі штурмавых атрадаў, што маршыруюць міма вас, вы бачыце новую зару, што ўсходзіць над Германіяй...“

— Добра,—сказаў Штанге.—Толькі прашу вас пакінуць мяне аднаго ў пакоі, калі я буду чытаць. Я баюся зблытацца.

— Калі ласка...

І калі прайшло дзесяць хвілін, калі ўспыхнуў сігнал над мікрафонам, чалавек выйшаў. Штанге праверыў, ці замкнены дзверы і падышоў да мікрафона.

* * *

На пляцы нечакана ўзнялася паніка. Зблытаўся чоткі рытм маршыруючых калон. Фанфары гралі нешта і іх медныя горлы не маглі перакрычаць басавых галасоў шматлікіх магутных рэпрадуктараў, што былі расстаўлены па ўсіх кутках пляца.

...Вам няма чаго радавацца!..—грымелі рэпрадуктары.—З вас цягнуць жылы, вас абкрадваюць на кожным кроку, а потым вас пагоняць пад кулі для нажывы другіх, вас зробяць калекамі, з вас па кроплі выціснуць душу. Гэта гавару я, Франц Штанге, які на ўласным вопыце ведае, чым канчаюцца нацыянальныя святы з фанфарамі! Вам няма чаго радавацца, кажу я! У вас сёння адбіраюць апошні кавалак хлеба, а потым адбяруць саміх вас ад вашых дзяцей...

Гул галасоў заглушыў ускрыкі фанфар, велізарныя натоўпы скучыліся каля слупоў з рэпрадуктарамі, паліцэйскія і штурмавікі энергічна працавалі дубінкамі і кулакамі, недзе разлёгся стрэл. Не было роўных калон... На пляцы ўсё кіпела, бяспомачнымі шматкамі матляліся над натоўпамі сцягі.

— Чаму не выключаюць станцыю!

— А навошта яе выключаць?..

— Што-о-о? Паліцэйскі!

— Глядзіце, глядзіце! Палез на слуп!..

— Э, з'ехаў далоў!

— Слухайце, слухайце!

— ...ёсць праўдзівыя, сумленныя людзі! Яны ведаюць, што робяць, іх ніхто не купіць за золата. Сілу іх не зломіць ніякая сіла. Яны ведаюць, куды павесці вас, тых, хто рукамі сваімі зарабляе хлеб свой. Гэта—комуністы! Так гавару я, Франц Штанге, што праліваў кроў за Германію і крывёй якога гандлявалі...

Рэпрадуктары сціхлі. З іх даносіўся шум і глухія ўдары...

— Слухайце, слухайце!

— Там ломяць дзверы!

— ...Я не хачу вас абманваць... Я хачу... адкрыць вам вочы!!!

І ўсё сціхла.

Адразу з трох вуліц на пляц вылецелі аўтамашыны. Атрады паліцэйскіх беглі, размахваючы дубінкамі. Натоўп шарахнуўся прэч ад рэпрадуктараў. Зноў усё змяшалася і закіпела, заварушылася...

* * *

— Як ты думаеш, яны ўжо задушылі яго?

— Па-мойму яго задушылі раней, чым выключылі станцыю...

— А па-мойму наадварот.

— Та-а-ак!

— Памаршыравалі!

На пустым амаль пляцы абвіслі сцягі. Апошнія групы людзей расцякаліся па вуліцах. Свята было скончана.

...У гэты ясны верасnёвы дзень сатканае недзе ў сонечных прасторах асядала на зямлю срэбнае павуцінне.

Ц. ДОЎГАПОЛЬСКІ

# АГІТЦЯГНІК

### АПОВЕСЦЬ

*30-га студзеня*

Учора я знайшоў у сваёй паштовай скрынцы „Правду". Ці не думае Рэлін, што скрынка яго? Так, я сам не карыстаюся ёю, але-ж гэта нікога не тычыцца. Ніхто не можа прымушаць мяне чытаць газеты. Я сёння-ж намалюю новую этыкетку на сваёй паштовай скрынцы і даволі панібрацтва... Новы звычай—адны дзверы для чатырнаццаці суседзяў!

Цікава—газета належыць мабыць Рэліну... Не, не Рэліну... Газета прыслана на маё імя—Мезіку Якаву Саламонавічу. Што гэта за выдумка? Няўжо саюз выкінуў гэткі жарт? А магчыма толькі мясцком? Яны бяруць мяне на буксір—нагласць! Яны абражаюць мяне!

*2-га лютага*

Сёння я зноў атрымаў „Правду". Я зайшоў на пошту даведацца, хто-ж гэта займаецца маім палітычным выхаваннем. Там я круціўся круглую гадзіну, пакуль злавіў начальніка. Выгляд! Каб хоць кропелька саліднасці адчувалася—і гэта поштмайстар!

— Я атрымліваю „Правду",—пачынаю.

— Мы прымаем належныя меры,—перабівае мяне поштмайстар.

— Раней чым адказваюць чалавеку, патрэбна, здаецца, выслухаць яго.

— Слухаю вас вельмі ўважліва—адказвае мне поштмайстар паяўрэйску. Яўрэй-паштавік у Расіі. Гэта чаго-небудзь ды варта!

— Я атрымліваю „Правду",—паўтараю другі раз.

— Дык вы атрымліваеце „Правду"? Акуратна? Дык-жа добра—чаго-ж вы хочаце?

— Чаму вы не патурбуецеся запытацца, ці выпісваў я яе? Ніякай газеты я не выпісваў.

Поштмайстар збянтэжана пазірае на мяне і ўцякае. Я павінен сказаць, што ён якраз далікатны чалавек. Не раўня майму суседу—Рэліну. Рэлін аблаяў-бы мяне.

І, прышоўшы да хаты, знаходжу ў паштовай скрынцы трэці нумар „Правды".

Калі так, трэба паднатужыцца... Чытаю.

— Бацюхна! Чорная дошка, чырвоная дошка... Чыгун, сталь. У нас ужо ёсць свае ўласныя апельсіны... Белыя мядзведзі, бамбук, самалёты і... папера для мух. Пішуць...

Кокс і вугаль. Ты чытаеш і адчуваеш пыл вугалля, бачыш яго чорны бляск.

І літаратура, музыка і мастацтва. Нават пра старых мастакоў.

І ўсе даўжнікі, і якраз у працантах. Вось партрэт якогасці дырэктара. Ён ужо трэці дзень на чорнай дошцы,—а прыгледзься да яго—прыемны, добры твар. У чым тут справа? Дырэктар зрабіў растрату, збанкрутаваўся, каб нажыць сабе ўласныя хаты і перапісаць дабро на імя сваёй жонкі?.. Я не разумею, чаго смактаць кроў у сваёй-жа хэўры... Дырэктар—ды ў яго бессумненна шляхетны твар.

*3-га лютага*

Зноў выпаў густы снег. Да вечара развіднелася, ірве рэзкі паўночны вецер—трэба добра прапаліць.

Чаму я гэта занатоўваю ў свой блок-нот? Таму што ў газеце вясна ўжо ў поўным разгары. Суматоха з веснавой сяўбой. Ды якая яшчэ суматоха! З'езды калгаснікаў, нарады, сустрэчы.

Рыхтуюцца да веснавой сяўбы ў цёплых кажухах, рыхтуюцца да веснавой сяўбы ля распаленых печак.

Гэты малюнак мне якраз падабаецца. Школьнікі кантралююць усходжасць зернят. Гэта мэтазгодна: і карысна, і па-людску. А далей вось ідзе канюх і конская галава—самы лепшы канюх і самы лепшы конь. Проста любата!

Рыхтуйце плугі.

Рыхтуйце ўгнаенне—мінеральнае і немінеральнае.

Рыхтуйце цягавую сілу.

Аграномы, будзьце гатовы!

Вышэйшыя школы, сярэднія школы, будзьце гатовы!

Комуністы, будзьце гатовы!

Комсамольцы, будзьце гатовы!

Зараз і старым даваенным мастакам накажуць, каб яны рыхтаваліся да веснавой сяўбы. Блізка да гэтага.

А як будзе, калі прыдуць да цябе і скажуць:—таварыш Мезік, едзем у вёску.

— Падумаю,—адказаў-бы я... Ха-ха-ха.

А мароз смаліць. Вецер, паўночны вецер скаваў снягі, зганяе з іх сонца. Д'ябальскае змаганне між сонцам і ветрам.

*20 лютага*

Зноў абразілі мяне—зноў дурнем зрабілі і ўсё з-за газеты. Хто мне ўсё-ткі выпісаў газету, мяне зараз мала турбуе. Але што? сёння ёсць у газеце прамова Сталіна на з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў, і ўявеце сабе—прамова Сталіна падкрэслена чырвоным алоўкам і, мала таго, яшчэ прыпісана: „чытай і запамінай“... Выбрык Рэліна. Выкідвае тут свае журналісцкія штукі. Не дапушчу, каб нада мною фельетоннічалі!

Падумаеш—без яго не чыталі-б прамовы Сталіна. А можа я сам вінаваты, што з мяне гэтак здзекваюцца?

Я мушу выявіць, хто ўрэшце кіруе маім палітычным выхаваннем!

*23-га лютага*

Учора ўначы я сустрэўся на сходцах з Рэліным. Ён быў у кароценькім авечым кажушку, у мяккіх валёнках, у рукавіцах. Замёрзлы, ён спяшаўся да сябе ў пакой, абышоў мяне, прывітаўся моўчкі, нібы

павіннасць адбыў. Я затрымаў яго і адразу адчуў, што не павінен быў рабіць гэтага, але, як бывае ў гэткіх выпадках, позна было ўжо раздумліваць.

— Таварыш Рэлін,—пачаў я без лішніх хітрыкаў:—гэта ваша работа!

— Што мая работа?—быццам-бы накінуўся ён на мяне.

Я ніколі не сустракаў яго такім развінчаным. Наадварот, апошнім часам мне пачало здавацца, што ён палагаднеў, паспакайнеў.

— Вы дапамаглі мне некалькімі рублямі. Атрымлівайце іх назад!

— Абсалютна не ведаю, чаго хочаце ад мяне. Я вярнуўся з вёскі, павінен быць зараз-жа ў рэдакцыі.

— Не вы мне „Праўду“ выпісалі?

— Я? Я маю часу нянчыцца са сваімі суседзямі? Ведаем вас!

— Што вы ў мяне бачылі такога?—збянтэжыўся я.

— Навошта вы, таварыш, жывеце на свеце? Якія мэты вы маеце ў жыцці? Вы—мастак, ці ёсць у вас якія-небудзь заданні? Ці праводзіце іх у жыццё? Як мядзведзь у бярлозе, вы смокчаце сваю лапу. Але мядзведзь таксама адчувае вясну, а вы што?

— Чаго вы раскрычаліся на мяне?

Зазіраю яму ў вочы і мне здаецца, што фельетаніст глуміцца нада мною, але не. Рэлін сур'ёзны. Ён пытаецца.

— Што дае нам ваша атэлье? Калі-б я паставіў трыер для ачысткі зернят, дык вашы тры пакоі бадай больш карысці прынеслі-б.

— Нахабнасць!—крыкнуў я.

Усё кіпіць ва мне—але ўсё-ткі я адчуў да гэтага чалавека пэўную сімпатыю. З аднаго боку, цярпець не магу яго, а з другога—трэба прыслухоўвацца да яго слоў.

*25-га лютага*

Узяць сябе ў рукі. Зноў бяруся за Сталіна...

Трыер у маім атэлье! Ха-ха-ха... А „Піонер“? а цэлы рад савецкіх партрэтаў? Эцюдаў? А мой першы перыяд? А тое, што я стварыў школу, што па маіх малюнках вучацца маладыя мастакі? Не мая віна, што іх галовы тупыя... У маім атэлье гадаваць трусоў—фельетоніст! фельетоніст!! Мы яшчэ падужаемся... Толькі супакоімся.

*27-га лютага*

Я прыкуты да ложка—схапіў грып. Замест работы—кампрэсы вакол шыі і потагонныя. Дакторка, маладая жанчына (знаёмая Рэліна, ён прывёў яе), варочала мяне, як бервяно. Быццам-бы я ўжо не мужчына? У адносінах да мяне яна не праявіла ніякіх пачуццяў.

— Нельга забывацца,—сказала яна,—працэсы праходзяць нармальна для вашага ўзросту... Колькі вам год?

Я ўкраў цэлых пяць год.

Тады яна ў другі раз выслухала мяне...

— Нельга падавацца!—Не дакторка гэта кажа—гэта я сам сабе гавару.

*28 га лютага*

З чаго-ж я схапіў грып? Наглытаўся пылу, прыбіраючы сваё атэлье. Зільберкройт, гандлярка золатам, каб яна пропадам прапала! Я выкінуў яе са свайго атэлье, але пераацаніў свае сілы—у гэткую халадэчу расчыніў і праветрываў пакой. Чорт мяне ведае, начытаўся

газет і ні з таго, ні з сяго распачаў у сваім атэлье веснавую кампанію. Не здох-бы я, калі-б перанёс гэтую пекную работу на сакавік, на красавік, на май.

Рэлін!

Не магу сабе падараваць! Я адказаў Рэліну—як кісля. Ён пакінуў мяне аднаго ў калідоры, ён пачынае рабіцца панком.

Калі перанясу грып, дык пакажу яшчэ сваім ворагам, на што я здольны.

А пакуль—заснуць, заснуць!

Дакторка раіла мне:

— Як менш поркацца і займацца самааналізам.

— Шпарка не хадзіць.

— Застарэлыя карціны са спальні выкінуць—перанесці іх у другі пакой.—Тэмпературы так часта не мераць, не глядзець пульса.

— А працаваць?

— Працаваць кожны дзень, абавязкова кожны дзень.

— Вы партыйка, таварыш доктар?

— Партыйка.

— Паказаць вам свае пачатыя работы?

— Калі вам не цяжка—з прыемнасцю.

Я паказаў ёй „Сталіна". Для яе гэта было неспадзеўкай.

Яна адчулася ў мяне зусім, як дома, і доўга разглядала маю работу.

— Ці доўга вы малявалі „Сталіна"?—запыталася яна.

— Чаму вы цікавіцеся гэтым?

— Я цікаўлюся гэтым, як доктар-псіхіятар.

— Якое дачыненне гэта мае да псіхіятрыі?

— Палітычная ўстойлівасць уплывае на псіхіку... Вы яго малявалі без перапынкаў?

— З перапынкамі.

Якая разумніца, гэтая маладая совецкая дакторка. Яна прысела, закурыла. Мы абодва маўчалі.

Справа вось у чым: я маляваў „Сталіна" чатыры месяцы, але з перапынкамі. Перапынкі я рабіў тады, калі па тых ці іншых прычынах заставаўся нездаволеным нашымі парадкамі... Вось хоць-бы дровы... Я перш-на-перш шчыры... Не магу маляваць правадыра, калі не маю дроў. Таму я спыняў сваю работу і зноў варочаўся да яе, калі мой курс падымаўся. У нашай сапраўднасці ёсць даволі матэрыялу для хістанняў і, наадварот, для палітычнай устойлівасці, як дакторка гаворыць.

— Вы зноў задумаліся. Зноў поркаецеся,—папікнула мяне дакторка, скурыўшы папяросу.

— Так, таварышка,—удзячна прызнаюся,—я маляваў „Сталіна" з перапынкамі... Але маляваў яго і буду малаваць... Вы маеце цяпер лішні час?.. Сядзіце, сядзіце так.

Дакторка пачырванела, як дзяўчынка. Устала.

— Але сёння я забараняю вам працаваць.

Яна абяцала неўзабаве прыйсці да мяне ў атэлье.

*1-га сакавіка*

Я малюю дакторку ў такім плане. Яна сядзіць у маім атэлье, каля мяне—хворага. У левай руцэ трымае папяросу. У правай—маю руку, і яе позірк накіраваны на маю няскончаную работу. Такім чынам, там фігуруюць тры асобы. Апрача Сталіна—я, у такім выглядзе, як цяпер, і дакторка. Калі вывучу лепш сваю дакторку, дык мажліва падам яе

так: яна прыкладае да свайго вуха трубку, або непасрэдна да маіх грудзей і ўсё роўна прыглядаецца ўвесь час да „Сталіна“. Твар дакторкі павінен, такім чынам, выяўляць неспакой і сур'ёзнасць: „Стары хворы мастак робіць карысную і важную работу—неабходна адрамантаваць яго здароўе“.

Як ты лічыш, таварыш Рэлін, устаноўка правільная? А можа перад тым, як маляваць Сталіна, я павінен дабіцца аўдыенцыі ў Крэмлі?

Добра, не супярэчу. Наладзь мне гэткую аўдыенцыю.

Рэлін, Рэлін!

*7-га сакавіка*

Учора заходзіць Рэлін у маё атэлье. Ён знаходзіць мяне за работай. Я ўрэшце атрымаў дровы. Кажу „ўрэшце“—бо ордэр на дровы саюз мастакоў прыслаў мне яшчэ ў верасні месяцы, а дровы я атрымаў у пачатку лютага... Соцыялізм... Праўда, у мяне ёсць дровы... Але-ж вы не ведаеце, што я маю дровы—дык чаго вы мяне марозіце... Што-ж... Але цяпер цёпла ў атэлье... Крыху памагае печка, крыху лютаўскае сонца. Хай сабе, я працую... Працую над сваім новым партрэтам „Піонер“. Заканчваю. Раптам урываецца Рэлін.

Не цярплю часам гэтага чалавека. Не ведаю, скуль бярэцца ў яго ўпэўненасць. Што за радасць бярэ яго? Яго якраз можна было-б намаляваць... Яго морду, падобную да малпы... Два пярэдніх зубы, што вытыркаюць з-за тоўстых губ. Вочы, якія нібы ўсміхаюцца, тлусты карак... Што-ж... Заходзіць ён да мяне, стаіць і глядзіць, як я працую... А я не магу працаваць, калі мяне пажыраюць вачыма... Але прагнаць чалавека—не выпадае, а кінуць працу—неганарова, дык працую і цярплю, накладаю кармін на гальштук свайго „Піонера“.

— Ну,—кажу я...—Адсуньцеся крышачку і пакажыце кампетэнтнасць... Вучыцеся хоць разглядаць карціну... Бо знаток вялікі... Жартачкі!..

Рэлін маўчыць, разглядае партрэт, падыходзіць бліжэй, зноў адсоўваецца. Гэта ён вучыцца... Глядзіць і маўчыць.

— Ну,—пытаюся.

— Вельмі добры гальштук,—адказвае ён.

Да гэтага часу я ніколі не жадаў падняць на каго-небудзь руку, а цяпер я проста пабіў-бы гэту брыду, выкінуў-бы з атэлье. Але біцца—не падыход. Пытаюся:

— Больш вы нічога не заўважылі?

— Каб да піонерскага гальштука добры піонер—вось гэта быў-бы малюнак.

— Што вы называеце добрым піонерам?—пытаюся, а ў роце перасохла.

— Гэта цяжка растлумачыць. Вы пакажыце мне яго гатовага, дык я адразу пазнаю.

— А скуль вы яго пазнаеце?

— Чаму? Ці-ж я не ведаю піонераў? Ці-ж я не быў тры гады піонерскім працаўніком?

Гэта для мяне навіна. Паддаюся. Пытаюся.

— Дык па-вашаму гэта не піонер?

— Думаю так,—адказаў ён.

— А што будзе, калі піонер, узяты з натуры?

— Бываюць розныя піонеры.

— Розныя, кажаце?

Я, стоячы ля вакна, угледзеў якраз таго самага хлопчыка, з якога пісаў партрэт. Ён ідзе да мяне. Зараз пакажу яму... Вы ведаеце, хто

гэта дзіця? Яго бацька комуніст з дзевятнаццатага года... Кіруе цукратрэстам... Вядомы шахматыст, прамоўца... Хлопчык уваходзіць у калідор. Стукаецца да мяне. Заўважаю:

— Таварыш Рэлін, вы маеце магчымасць пазнаёміцца з арыгіналам майго „Піонера“. Хлопчык ідзе сюды... Вы бачыце, які ён выхаваны. Гэта ён стукаецца да мяне ў дзверы...

Па твару Рэліна разлілося святло чалавечнасці. Ён зацікавіўся. Зайшоў. Прывітаўся. Залатое дзіця.

Рэлін збянтэжаны. Яго ўразіў партрэт, падабенства... Цяперашнія партачы даюць вам твар?.. Рэлін угроблены... Ага!—папаўся, дарагі сусед?..

— Ну,—пытаюся, помсцячыся з прафана.

— Вельмі падобны,—паддаецца ён, маўчыць хвілінку і дадае ў цішыні:

— Але партрэт выйграў-бы, каб не быў так падобны да гэтага дзіцяці.

Прафан!!!

Рэлін разглядае хлопчыка і пытаецца:

— Ты ў якім атрадзе?

Хлопчык маўчыць.

— Ты піонер?—пытаецца Рэлін другі раз.

Дзіцё маўчыць.

— Чаму не адказваеш?

Маўчанка.

Не вытрымліваю, далікатна ўмешваюся. Я павінен вам сказаць, не хвалячыся,—маю падыход да дзяцей.

— Не саромся,—узяў я хлопчыка за шчочку,—адказвай.

— Мяне выключылі з атрада.

— За што?

— З-за маткі.

— Позна спіш?—уваходзіць Рэлін у сваю ролю.

— Калі маці не будзіць.

Хлопчык высунуўся з атэлье. Мне пацямнела ў ваччу. Так, мабыць, адчувалі сябе рымляне, калі папаліся ў палон да здзічэлых гуннаў.

Мушу прызнацца, Рэлін якраз не трыумфаваў. Ён, выходзячы з атэлье, заўважыў:

— Я не мастак, але мне здаецца, што нельга падыходзіць да такой сур'ёзнай працы так, як вы падыходзіце. Вы чуеце словы: „сур'ёзнай працы“. Вы думаеце, што павінны былі ўзяць свайго „Піонера“ абавязкова з натуры? Вы павінны былі знайсці адпаведны дзіцячы твар... Дзе вы сустрэлі гэтага хлопчыка?

Ага, гэта мне падабаецца, ён узбіваецца на шлях. Адказваю:

— На дачы.

— У лагерах?

— Не, проста на дачы.. Я маляваў партрэт з яго бацькі, маляваў для цукратрэста і адначасова хлопчыка.

— Для цукратрэста? Я ведаю якраз яго бацьку... А ў піонерскіх лагерах вы калі-небудзь былі?

Рэлін не чакае майго адказу. Выходзячы раіць мне:

— Бліжэй пазнаёмцеся з жыццём нашых дзяцей... Выкарыстайце піонерскія лагеры.

Гэты выпадак я перахварэў, перахварэў як належыць: трое сутак вачэй не сплюшчыў, але затое пераіжыў крызіс. Рэлін мяне ўжо так не абураў: ці я прывык да яго, ці з-за іншых глыбейшых псіхалагічных прычын—але гэта факт. Я пачаў лепей спаць.

*10-га сакавіка*

Сёння газеты надрукавалі вельмі важнае паведамленне: Наркамасветы арганізуе мастацкую выстаўку. На ранейшых выстаўках я не мог удзельнічаць. Удзельнічаць, зразумела, я мог-бы, каб мне самому не абрыдла вывешваць свае старыя працы!.. Але не ў гэтым толькі крыецца прычына... Справа ў тым, што арганізатары валаводзяцца: запрашаюць і не запрашаюць. Я мог-бы, напрыклад, дадаць да сваіх старых малюнкаў рад партрэтаў савецкіх працаўнікоў. Я мог-бы вывесіць партрэт таварыша Сталіна. Лічу, што ў гэтым партрэце ёсць маё ўласнае. Лічу, што дапоўніў у „Сталіне" тое, чаго, па маёй думцы, не хапае ў іншых партрэтах з вялікага правадыра. Я мог-бы... калі-б ізноў не ўмяшаўся мой сусед Рэлін. Дык ён уварваўся ў маё атэлье, пастаяў хвілінку і па-звычайнаму,—маўчыць, маўчыць, маўчыць... Перад тым, як гаварыць, ён маўчыць... Зразумела, усе маўчаць, перад тым як распачаць гаворку, але ён маўчыць зусім інакш. Ён маўчыць на свой, рэлінскі, лад. Маўчыць ён—і пытаецца:

— Вы працуеце над „Сталіным"?

Зноў узяў мяне за жывое.

— Вы асляплі,—адказваю і адчуваю, спазмы сціскаюць горла.

— Не, я не аслеп,—кажа ён, выстаўляючы свае два пярэдніх зубы і раззяўляючы свой дзівацкі рот... Я мушу праверыць у Ламбразо. Што ён там гаворыць пра губы. Раззяўлены, шырокі рот Рэліна нагадвае старажытных людзей, калі яны, як звяры, глыталі сырое мяса. Наогул, антраполаг знайшоў-бы ў Рэліне ўдзячны матэрыял—я ў гэтым глыбока пераконаны.

— Чэрціце Сталіна?

— Я не чарцёжнік,—адказваю са знадворным спакоем.

— Вы бачылі калі-небудзь Сталіна?

— А вы бачылі Сталіна?

— Не,—адказвае ён. Ён Сталіна не бачыў.

— Дык я яго таксама не бачыў.

— Калі вы не пакрыўдзіцеся, я ў вас штосьці запытаю.

— Калі ласка.

— Вы чыталі творы Сталіна?

Ён зноў злавіў мяне... злавіў!..

— Як-жа маляваць вялікага чалавека,—дадае ён,—не прачытаўшы яго твораў, не пазнаёміўшыся з яго вучэннем?

— Ці я не маю права маляваць Сталіна? Можа таму, што я беспартыйны?

— Права вы маеце. Але што ў вас выйдзе?

І ўявіце сабе! З таго часу „Сталін" стаіць у маім атэлье незакончаным... Рукі не падымаюцца. А яшчэ што?.. Чытаю Сталіна!

*11-га сакавіка*

Сёння я атрымаў асабовае запрашэнне прымаць удзел у выстаўцы... Гэта справа... Значыць, таварыш Рэлін, твой сусед яшчэ жыве... Мы яшчэ пабачым, хто каго пераажыве... Пачакайце... У запрашэнні прыпамінаецца мой „Піонер". Адкуль даведаўся Наркамасветы пра майго „Піонера"? Апрача Рэліна, ніхто не ведае аб гэтым партрэце... Калі так, магчыма, што і сюды прыдуць... Трэба на-нова ўпарадкаваць атэлье...

Рэлін, я яшчэ, братка, з табою разлічуся. Я табе пакажу, што твой сусед умее!

*15-га сакавіка*

На выстаўку я падаў цэлы рад малюнкаў: „Піонера“, яго бацьку з цукратрэста, пару пейзажаў, эцюды. Чакаю, што скажуць газетчыкі.

*21-га сакавіка*

Сёння хадзіў на выстаўку. Мае малюнкі запхнулі ў самы цёмны куток. Дагэтуль я маўчаў і цярпеў, але цяпер падыму скандал. Пайду ў Наркамасветы. Не дапушчу здзекаў над сабою! Калі вы мяне не чапалі, я да вас не хадзіў, але зараз—не крыўдуйце.

Я сам бачыў, як шмат людзей праходзіць міма, не заўважаючы маіх прац. Каго яны выставілі ў цэнтры? З кім яны цацкаюцца? Партачы!

*22-га сакавіка*

Ідучы з выстаўкі, я сустрэў натоўп школьнікаў. З імі быў іх настаўнік. Ён прывітаўся са мною.

— Вы ідзіцё з выстаўкі?—запытаўся ён.

— Якая розніца,—адказаў я.

— Вярніцеся—дзеці ахвотна паслухаюць вашы тлумачэнні.

Люблю дзяцей, а дзеці адчуваюць свайго прыяцеля... Я вярнуўся разам з тлумнай чарадой. Яны глядзяць на мяне з павагай, з удзячнасцю. Зараз яны пабачаць майго „Піонера“, зараз я ўзрадую іх сэрцы. Вось, думаю, папомшчуся з Рэліна і не з Рэліна аднаго. А чаму сапраўды не даць гэткі эцюд: дзеці стаяць ля майго „Піонера“—безліч дзяцей. Давай зарысуем некалькі з іх, запомнім іх твары.

Школьная экскурсія зайшла ўжо ў выставачны будынак. Зайшла ў пакой, дзе былі вывешаны мае карціны. Дзеці не спыняюцца, ідуць далей. Настаўнік апраўдваецца.

— Вашы карціны пакідаем на закуску.

Мне не падабаецца гэткае тлумачэнне. Ніхто не вымагае з цябе, каб ты абавязкова мае творы аглядаў раней. Колькі фальшу, няшчырасці ў чалавечай натуры!

Дзіцячая экскурсія знікла ў далёкіх пакоях, а я тут кручуся, як дурань. Дахаты, дахаты—дурны чалавек!.. Не, цяпер пайсці дахаты немагчыма. Неабходна дачакацца, пакуль дзеці падыйдуць да маіх карцін. Вось экскурсія варочаецца. Дзеці змораныя, няўважлівыя. Ці мае выкладчык хоць самыя элементарныя веды ў падагогіцы? Ці-ж можна так доўга стамляць уважлівасць дзяцей. Да маіх творах яны падыходаяць безумоўна змораныя. Што-ж! Нічога не зробіш. Падышоў. Пасталі, зразумела, што дзесяткі вочак упіліся ў майго „Піонера“,

„Дзеці! Вас яшчэ не малявалі, як належыць. Мы, мастакі, таксама вялікія даўжнікі. Каго мы маем? Яшыботнікаў, хэдэрнікаў, бялікаўскіх гадунцоў... Конфесье, клерыкалізм!“

Гэтую фразу я дзесці вычытаў. Яна не мая. Я—не злодзей. Не карыстаюся плагіятам.

*22-га сакавіка*

Позна ўначы. Гадзіннік стаў. Дык дзе я спыніўся? Да мяне падыходзіць адразу трое піонераў і цягнуць мяне за рукаў, каб я да іх падышоў.

— Чаго хочаце, дзеткі,—гладжу па галоўцы кожнага з іх.

— Мы павінны вам штосьці сказаць,—цягнуць яны мяне да дзіцячай экскурсіі.

— Гаварыце, я вам ахвотна адкажу.

— Не, пойдзем да загадчыка.

Мне не падабаецца, што дзеці шэпчуцца. Група дзяцей стаіць яшчэ ля „Піонера“, аглядае мяне, аглядае майго „Піонера“. Адзін з іх цягне мяне ў кантору.

Там, у канторы, мяне чакаюць дзеці ў піонерскіх гальштуках разам з нейкім хлапцом комсамольскага ўзросту. Ці ён важаты, ці настаўнік—не ведаю. Кіраўніцтва выстаўкі запрашае мяне сесці.

Што тут робіцца? Можа мяне злавілі з пакражай? Ці не прышоў я сюды для допыта? Сэрцам адчуваю, што мяне чакае нейкае новае ліха.

Я моцна занепакоіўся. Усе маўчаць. Не вытрымліваю. Пытаюся.

— Што скажаце, дзеткі?

Да мяне падыходзіць хлопчык з сур'ёзным тварам дарослага чалавека. Валосікі ўзлахмачаны. Вочкі—гаручае вугалле. У мяне мільганула думка: вось каго мне трэба было ўзяць для свайго „Піонера“!

— Ад імя школьнагага камітэта,—пачынае запальчывы хлопчык,— мы, піонеры нашай школы, маем да вас, таварыш мастак, вялікую просьбу.

— Калі ласка!

— Мы просім забраць адгэтуль вашага „Піонера“... Гэта значыць, забраць з выстаўкі!

Зараз самлею. Усе супроць мяне. Дзеці таксама.

— Вы разумееце? Тут атрымалася непрыемнае непаразуменне. Яны пазналі свайго хлопчыка, якога выключылі з піонерскага атрада.

Гэта тлумачыць загадчык выстаўкі, вядомы партач, які сам не ўмее трымаць пэндзаль у руках і хацеў-бы, каб увесь свет лепш за яго не маляваў.

— Для нас гэта проста абраза—вывесіць гультая, нікудышніка, які цягнецца апошнім у школе!

Гэта гаворыць той самы хлопчык, ад імя ўсіх дзяцей.

— Гэта палітычная справа,—заўважае піонерскі працаўнік ці настаўнік, які стаіць побач.

Маўчу, збянтэжаны, як чалавек, якога толькі-што стукнулі па галаве гумовым молатам. Чэрап трымаецца, але ў галаве ўсё пераблыталася.

— Дык чаго-ж вы хочаце?—пытаюся.

— Усе вашы малюнкі могуць застацца на выстаўцы,—супакойвае мяне нейкае дзіця, але „Піонера“ зніміце, зніміце ў нашай прысутнасці.

Маўчу. Збіраюся з думкамі. Пытаюся няўпэўнена, прыбіта:

— Вы кажаце: палітычная справа.

— Безумоўна, безумоўна... Мы патрабуем ад вас—дайце нам ударніка, нашага ўдарніка.

— Патрэбна было-б і бацьку яго зняць. Ён выключаны з партыі.

— Загадчык цукратрэста?—утрапёна пытаюся.

— Таварышок, неабходна чытаць газеты... Яшчэ як выключылі!

*23-га сакавіка*

Мяне прабралі ў комсамольскай газеце. У пух і прах разбілі.

А Рэлін не паказваецца.

Рэліна не чуваць.

Гэта яго работа—я ў гэтым пераконаны.

Калі ён так будзе вырабляць, дык яму ў хуткім часе застанецца мая кватэра.

*26-га сакавіка*

Я зноў налічыў трое бяссонных начэй. Толькі апошнюю ноч я добра спаў і прачнуўся свежы, бадзёры, як пасля цяжкай хваробы.

Цяпер, калі галава свежая, ніяк не магу зразумець, што тут адбываецца ў нас, у совецкай краіне!

Я вас пытаюся, якое дачыненне маю я да партыйных спраў, да партыйнай чысткі—я, беспартыйны даваенны мастак? Што мяне абыходзяць партыйныя справы таго ці іншага грамадзяніна? Дык відаць, што партыйныя здарэнні чужых людзей маюць да мяне дачыненне і вялікае дачыненне.

Слухайце са свежай галавой.

Я быў на дачы. Пятнаццаць хвілін язды з гораду.

Наймаю пакой у адной хаце са старшынёй цукратрэсту. Малюю яго партрэт, пішу „Піонера". Працую над жывымі совецкімі людзьмі. Дык урываецца нейкая гісторыя з праполкай буракоў і я павінен быць казлом адпушчэння. Падымаюць гармідар у друку, што я працую для класавага ворага, што папулярызую сабатажнікаў і гультаёў. Якая мне да ўсяго гэтага справа? Я працую сабе над сваімі малюнкамі, а мяне з балотам змяшалі. Паўтары дзесяткі совецкіх гадоў мяне не чапалі, а тут выкапваюць мае працы з самых першых гадоў. Друкуюць партрэты рабочых, якія першыя выказаліся аб маім „Аўтапартрэце"... Я бягу ў саюз, шпурляю ў твар сваю членскую кніжку. Дык старшыня саюза садзіць мяне, дае вады:

— Вы самакрытыкі спалохаліся, дарагі таварыш,—супакойваюць мяне.

— Смактаць кроў шклянкамі—у вас самакрытыка?

— Паказваць недахопы—гэта кроў смактаць?

— Паказваць недахопы!.. Падымаюць гармідар, што я іду з класавым ворагам... Што я іду з класавым ворагам? Я іду з класавым ворагам?

Старшыня смяецца. Яму радасць—ён смяецца. Ён і Рэлін—парачка!

— Што тут смешнага?—пытаюся.

— Вы—дзівак. Газета пісала, што вы класавы вораг?

— А як-жа зрабіцца не дзіваком?

— Пішуць добрую карціну. Робяцца грамадскім чалавекам. Робяцца і робяцца...

І ў часе нашай гутаркі ў саюзе прыносяць газету, і што вы думаеце надрукавана ў ёй? Гарком разглядае справу старшыні цукратрэста. Гарком пераглядзеў пастанову ячэйкі цукратрэста.

Старшыню аднавілі. Яго сына, піонера, таксама аднавілі...

Але што гэта дае мне цяпер. На выстаўцы мае работы правалілся. Выстаўка зачынена. А хто пацярпеў ад гэтага партыйнага здарэння—я, беспартыйны, даваенны мастак. Хто мяне ўзнагародзіць за ўсё перанесенае? З-за гэтай партыйнай справы?

*27-га сакавіка*

Рэлін пачаў наведваць мяне часцей. Адным словам, мы здружыліся.

— Таварыш Рэлін, што вы цяпер скажаце пра майго „Піонера"?

— Скажу тое, што раней.

— Не памятаю. Што вы раней казалі?

— А я памятаю вельмі добра: я гаварыў, што вы няўдала падабралі матэрыял.

— Але іх-жа аднавілі!

— Аднавілі, а ўсё-ткі ваш „Піонер" няўдалы.

— А што я маю з усёй гэтай справы, апрача непрыемнасцей?

— Вы з гэтай справы вельмі шмат выйгралі. Здаецца, вы ўжо зразумелі, што нельга замыкацца ў атэлье.

— Скажыце праўду, вы не выжываеце мяне, таварыш Рэлін?

— Не, я не хачу вас выжыць... Калі хочаце ведаць, я пачынаю заўважаць у вас сімптомы, добрыя сімптомы.

Дзякую. Я шчаслівы.

Скуль паходзіць слова сімптом: з латыні ці з грэцкае мовы?

Не ведаю моў. Не наведваў ні сярэдняй школы, ні рэальнай, ні гімназіі. Мой бацька маляр, не даў і не мог даць мне сістэматычнай адукацыі.

Навошта я прыгадаў тут бацьку? Я яшчэ далёка ад таго, каб выязджаць на сваім паходжанні. Я сам—паходжанне. Не хочу карыстацца фамільным гонарам—вялікая рэч—бацька маляр! Я сам не праглынуў яшчэ ніводнага кавалка дарэмнага хлеба!

Я працую.

Я працую, таварышы!

Ай, працую я!

Толькі што—на каго я працую? Я напісаў сорак сем партрэтаў з памешчыкаў, іх жонок і каханак, з купцоў, ліхвяроў, адвакатаў, аптэкараў, дантыстаў...

Так, гэта факт, сумны факт!

Рэлін! Ці вядома табе, што мой бацька быў маляром? Ці ведаеш, што ён падпярэзваўся вяроўкай і з вядзёркам фарбы пры боку лазіў на высокія кляштарныя вежы. Выпроствае свае худыя рукі і фарбаваў і паліраваў званіцы і пры гэтым вытылінківаў набожныя песні-малітвы. А можа, Рэлін, ідэалагічна не вытрымана?

*28-га сакавіка*

Сёння зноў раблю генеральную чыстку свайго атэльЕ. Расчыняю вокны, праветрываю пакой, сціраю пыл, наймаю чалавека памыць падлогу, перастаўляю карціны. І старыя, і новыя карціны, што былі на выстаўцы, будзяць ва мне цяжкі, непрыемны настрой. Абрыдлі мне піонер і яго бацька, старшыня цукратрэсту. Не хвор ён быў своечасова забяспечыць праполку буракоў. Гадуеш сына—выпраўляй яго ў школу ўпару. Жонку сваю ў работу вазьмі, свінню разбухлую, жанчыну адсталую—няма ў ёй ні каліва савецкага, рэвалюцыйнага! Гэткіх баб я маляваў у пачатку Нэпа. Браў пяць дзесятух за штуку.

*29-га сакавіка*

Сонечны дзень. Першы дзень, які прыносіць з сабою вясну. Я ўжо даўно не быў у горадзе, даўно не аглядаў горада. Вельмі даўно. Каля трох гадоў. Што тут робіцца? Не пазнаю горада. Снег ужо звезены з вуліц. Суха. Трамваі імчаць падвоенымі вагонамі... Дзевяць нумароў. У горадзе ходзіць ужо дзевяць нумароў, дзевяць маршрутаў!.. Што гэта робіцца! Відаць, зімой пракладалі апошнюю трамвайную лінію. Горад разросся. Вуліцы выбрукаваны клінкерам... Не пазнаю вуліц... А тут зусім сквер?.. Чакай—што тут раней было?

Ага, тут-жа была цэркаўка, ля яе дзве крамы, за крамкамі—разбураная хатка...

Уваходжу ў трамвай №7. Еду да канца горада і бянтэжуся: дзе-ж я—у сваім горадзе, ці не?

Вуліцы, вуліцы, новыя вуліцы. Новы прыгарад... Новы горад з новымі людзьмі.

*31-га сакавіка*

Дзень мой пачынаецца так. Устаю раніцой, чакаю малочніцы. Яна ўдава. Яна ахвотна разносіць малако, скардзіцца на дарагавізну. А каб даказаць, што ёй гэта непрыемна, не ў яе натуры абдзіраць людзей, яна заўсёды адмервае літр з коптурам, ставіць бітон на падлогу і рапартуе самымі свежымі навінамі, што прыносіць з вуліцы.

Затым па хлеб іду. Прыказчыца не глядзіць на людзей. Яна злуецца на ўвесь свет. Яна кроіць хлеб і не трапляе, так, мабыць і ў жыцці сваім на добрае не трапіла—абшчыпаная, як курыца, схуднелая. Сваю порцыю хлеба атрымліваю заўсёды кавалкамі. Доўгі востры нож у яе сухой злоснай руцэ выкладвае адно на адно рознастайныя геаметрычныя целы—атрымліваецца малюнак прызматычных абломкаў у маёй руцэ.

Яна ні з кім не размаўляе. Ні на каго не глядзіць. А мяне пазнае па рукаве майго халата, выкапвае са многіх прытоеных крыніц жаноцкасці ўсмешачку, скомчаную, чорствую, як засохлы сыр:

— Па-жал-ст-а... Сёння хлеб камаваты... выбачайце.

Гаворыць, нібы рот палошча.

Несучы хлеб, спатыкаю яўрэя ў святочнай футры. У яго тут на падворку жонка і чацвёра малых дзяцей. Ён працуе ў рэлігійным кагале, і яго барада доўгая і шырокая, як у старажытных біблейных патрыярхаў.

Мне здаецца, што ён займаецца таксама і кантарствам. Часцяком вырываецца з яго кватэры, захаванай дзесці ў глыбіні падворка, смутныя гукі яўрэйскіх малітваў. У яго хрыпаваты, надтрэснуты голас, нібы апошвія гукі дрэннага патэфона.

— Здрасце, вы нясёце хлеб?

Ён гаворыць да мяне абавязкова па-руску. Пацвярджаю, што нясу хлеб.

— Даўней гэткі талент не хадзіў-бы сам па хлеб.

— Што робіце тут?—пытаюся.

— Працую.

— Якая ў вас праца?

— Не жывых гроблю—мёртвых.

— Бо ў нас і жывых гробяць?

— Лепшы доказ—гэткі талент, як вы... Ці-ж вас не закапалі?.. Столькі крыві высмакталі... За што, за якое... Я якраз чытаў пра вас.

— Шкадуеце?

— Безумоўна! Крыўдна, калі яўрэю столькі бяды чыняць... Няма ў яўрэяў адзінства.

Страшэнна абураюся. У мяне ўзнікае думка напісаць з яго партрэт, утрыраваць яго так, каб апраўдалася назва:—„Апошні“ Памятаю думку Рэліна пра „Піонера“... Пытаюся:

— Права голаса маеце?

— Мы працуем у цесным кантакце з бюро пахавання...

— Заходзьце да мяне,—кажу.

— І сам збіраюся зайсці да вас.

— Вы да мяне—чаго?

— Па важнай справе... У вас яшчэ захаваўся партрэт Зільберкройт. Прыдуць купляць яго... Тут ёсць наследнік з Амерыкі... Сёння Зільберкройт памерла... Можа прыдзеце на пахаванне... Гэткі здольны чалавек, як вы, павінен быў-бы ўступіць у наш кагал... Я ведаю, вы саюзны, але ў нас профсаюзныя таксама ёсць...

Ад абурэння ў мяне задрыжэлі рукі. Заходжу да сябе ў пакой...

Хлеб дражніў такім свежым пахам, а цяпер—апетыта няма. Здаецца, хлеб пахне здыхляцінай, нябожчыкам...

Зільберкройт, Зільберкройт... Хто-ж гэта Зільберкройт?.. Знаходжу яе на сметніку... Яна ўладала магазінам залатых рэчаў. Я маляваў яе ў шаснаццатым годзе... Атрымаў за партрэт... добра памятаю, дванаццаць залатых пяцёрак, але яна дала мне гэтыя грошы толькі з тэй умовай, каб я яе намаляваў у двух экземплярах... Яна настойвала, каб адзін экземпляр вісеў у маім атэлье.

Вось яна пазірае—Зільберкройт. Твар заслонены густым вэлюмам. На галаве шляпа—цэлы купал, наверсе якога тырчыць стравусавае пяро. На шыі ліса. Галава—а-ля Кацярына другая. Як гэта я мог маляваць гэткую паскуду?

Да мяне звоняць. Забраць Зільберкройт! Схаваць.

*2-га красавіка*

Не ведаю, як працуюць маладыя мастакі, сягоншнія, якія сустракаюць мяне з бацькоўскім пахлопваннем па плячы... Не ведаю, што яны паказваюць за тры сеансы. Я за тры сеансы кладу фундамент работы. У мяне тры сеансы—самае важнае ў працы. І дзеля гэтага, калі Рэлін пастукаўся да мяне ў дзверы, я пайшоў яму насустрач. Новы знаток знайшоўся! Суседу карцін больш не паказваю. Пражыву ўжо як-небудзь без яго. Але Рэлін ведае, хто кошка і чыё гэта мяса. На гэты раз ён вельмі далікатны.

— Дзень добры!—пачынае ён.

— Добры дзен!

— Мне даручылі перадаць вам...

— Калі ласка,—перабіваю яго крыху здзіўлены.

— ...Што сёння паседжанне ў ЦК.

Мне робіцца горача. Чалавек зноў здзекуецца нада мной.

— Паседжанне аб веснавой сяўбе.

Не выказваю злосці. Адказваю спакойна, нібы нічога не разумею.

— На дварэ яшчэ пячэ мароз, дык навошта гэтакая спешка?—быццам бы „Праўды“ не чытаў.

— Заўтра а шостай гадзіне... Вы нейкі дзіўны чалавек. Я гавару сур'ёзна.

— А я таксама сур'ёзна кажу. Не насміхайцеся з мяне. Што-ж, дык я беспартыйны. „І партыйныя калісьці бывалі беспартыйнымі“,—сказануў я.

Рэлін адчуў, што ён перасаліў сваімі кпінамі. Па-сяброўску бярэ маю руку, паўтарае:

— Вы запрошаны на паседжанне ЦК.

І, выходзячы з майго пакою, абарочваецца і з-за дзвярэй кідае:

— Заўтра а васемнаццатай гадзіне, ля ўваходу вам пакажуць куды ісці.

Знік.

*3-га красавіка*

Скідаю з шыі ватовы кампрэс, абліваюся сцюдзёнай вадою, сцюдзёнай, як лёд, мяняю бялізну, а што далей?

Што мне абуць на ногі? У мяккіх валёнках проста не выпадае паказвацца, хоць у цяні зноў крэпне мароз.

Абуць камашы—застуджу ногі. Да рэчы—камашы засохлі і муляюць пальцы.

Кончана—абуваю камашы! Гвалтам узбіваю іх на ногі. Вочы на лоб вылазяць! А далей? У крылатай палярыне не магу пайсці ў ЦК. Проста немагчыма. Апрача гэтага—што я на галаву надзену? Шляпу? Не, я не вар'ят!

Застаецца купіць кепку. Забягаю да старога саматужніка-шапачніка. Што-ж, у яго ёсць шапкі. Але якую шапку я не прымераў-бы, выглядаю, як чорт.

Выходжу з майстэрні ў новай шапцы. Яна сціскае мне галаву, як абручом. Прыгадваю разумную параду дакторкі—сёння яна павінна прыйсці на чацвэрты сеанс. Плюю на ўсё і заходжу да цырульніка.

— Пагаліць і пастрыгчы.

— Вясна ўжо наступіла?—запытаўся цырульнік,—новую шапку купілі?

У цырульніка я арымаў вялікую перамогу над сваёй разлезласцю.

Пасля працэдуры абмывання, стрыжкі і галення цырульнік падносіць мне свае прыкрыя парфумы, неўнікальная даніна для людзей, якія стрыгуцца і голяцца ў цырульнях. Ён далікатна нагінаецца:

— Зразумела, асвяжыць.

— Ні ў якім разе!—Ускакваю. Ратуюся.

Для цырульніка гэта было нечакана. Калі-б я ўляпіў яму аплявуху, ён-бы так не пакрыўдзіўся.

— Вы праслухалі—я кажу асвяжыцца.

— На гэты раз не,—адказваю ўпарта.

І выходзячы я адчуў, што зрабіў разумна. Зайсці ў ЦК напарфумленым! Не хапала яшчэ з'явіцца туды ў крылатцы, шляпе і напарфумленым.

На светлых пpасторных сходцах ЦК сустракаю загадчыка мастацкай выстаўкі. Валакуся за ім з калідора ў калідор, пакуль не ўбачыў на дзвярах нумар 123—тут адбываецца паседжанне.

У людскім жыцці ёсць даты і лічбы, якія вызначаюцца, нібы дарожныя слупы. Асабіста я таксама памятаю цэлы рад лічбаў і дат з розных перыядаў свайго жыцця. Памятаю той час, калі я развітаўся са сваім гарадком. Памятаю нумар паліцэйскага ўчастка, які выселіў мяне з Пецярбурга. Памятаю нумар гарадавога, які даставіў мяне да цягніка. Памятаю нумар газеты, якая ўпершыню адгукнулася на маю творчасць. Памятаю першую трошніцу, якую я атрымаў за нейкую вучнёўскую работу. Цяпер да ўсіх ранейшых лікаў прыбавіўся яшчэ адзін, ганаровы—123. Дзверы расчыняюцца са звонам. Загадчык амаль штурхае мяне ў пакой. Дзесяткі пар вачэй сустракаюць мяне моўчкі, здзіўлена. Пакой, відаць, не прыстасаваны да нармальных паседжанняў. Крэслаў не хапае. Іх прыносяць з суседніх пакояў. Сядзяць на вокнах, на краёх стала. Я затрымаў увагу паседжання толькі на адно імгненне—калі расчыніліся дзверы.

Каля століка стаіць разгарачаны чалавек у чырвонаармейскай суконнай гімнасцёрцы. Правую нагу ён паставіў на ўскрай крэсла. Локаць абапёрты аб калена правай нагі. Нельга сказаць, што ён тут гаворыць прамову. Ён гутарыць, але лагоднай гутаркай ён пранізвае ўсю тваю істоту. Пасля майго прыходу гэты чалавек гаварыў мо' хвіліны са дзве. За гэты час я паспеў яшчэ атрымаць ад Рэліна запіску: „Вас, суседзе, не пазнаць. Вы памаладзелі", а сваё крэсла ён перэслаў мне. Сам-жа прысеў з краю на крэсла дакторкі. Вось гэта гасціннасць! Рэлін, Рэлін каб ты заўсёды так трымаў сябе, я да цябе ніякіх прэтэнзій не меў-бы.

Пармоўца канчае свае слова так:

— Рэзюмірую: строгая вайсковая дысцыпліна. Магчыма, што ўпору

часам не пад'ясі, не даспіш, павінен будзеш адмовіцца ад некаторых хатніх прывычак.—Гэта агітцягнік ЦК. Таго, хто адчувае сябе не досыць падрыхтаваным, мы вымушаны будзем вярнуць дахаты. Падрабязныя інструкцыі атрымаеце ў брыгадзіраў. Яны адносяцца як да партыйных, так і да беспартыйных. Кожны адказвае за сваю працу.

— Ї яшчэ: кожны з нас павінен быць падрыхтаваным палітычна, павінен пазнаёміцца хоць з апошнімі партыйнымі дырэктывамі. Ї яшчэ...

Будзьце ўпэўнены, што „і яшчэ, і яшчэ“ былі сапраўды вельмі важнымі справымі. Не ўсё хачу запісваць у блакнот.

Цяпер мне неабходны свой чалавек, з якім-бы я мог-бы параіцца, а гэтага чалавека няма, з Рэлінмм—ён мой брыгадзір. З дакторкай—не ведаю, а можа не варта...

*9-га красавіка*

Дакторка прышла дахаты на чацверты сеанс. Яе таксама ўключылі ў агітцягнік. Яна сёння непакоіцца... Спяшыць. Гаворыць:

— Цяпер работа спыніцца, пакуль не вярнуся з камандыроўкі.

— Бяру работу з сабою—адказваю.

— У агітцягніку не будзе часу... А вы рашылі-ткі паехаць з намі?

— Як-бы вы, як доктар, параілі мне?

— Толькі як доктар не магу вам нічога параіць,—сказала яна,—я не толькі доктар.

Я пакрыўдзіўся. Яна, відаць, заўважыла, што паступіла нетактычна. Дзеля гэтага дадала:

— Трэба быць добра падрыхтаваным, каб даваць ясныя адказы на многія з'явы вясковага жыцця.

Яна задушэўна гутарыла са мною—во гэта палітграмата! Гэта я разумею!

Перад тым, як яна вышла з майго атэлье, я спытаў:

— Можа там схамянуліся, што я не падыходжу для агітцягніка?

Яна засмяялася.

Не разумею, што тут смешнага. Тады яна падыйшла да мяне і па-таварыску кранулася майго пляча:

— Мы не цырамонімся. Калі-б вы не падыходзілі, вас-бы не ўключылі ў агітцягнік.

Праваджаючы яе, пытаюся:

— Таварышка, хто мяне рэкамендаваў?

— Ваш сусед.

— Таварыш Рэлін?

— Таварыш Рэлін вас вельмі паважае.

— Ведаеце, хацеў-бы я вас запытаць—хто мне выпісаў „Праўду“?

— Рэлін.

Я быў упэўнен у гэтым.

*14-га красавіка*

Сёння спаўняецца дваццаць пяць год з таго часу, як я закончыў сваю карціну „Эшафот“ ці „Аўтапартрэт“. Гэта была мая першая работа... Вось так я выглядаў! Зірніце толькі на твар дзевятнаццацігадовага юнака. Прыгледзьцеся да павекаў—непасрэднасць і адважнасць, наіўнасць і бездапаможнасць. Лоб густазарослы, валасы не кладуцца ў паслухмяную шэвелюру. Прыглядаюся да работы ката, аглядаю з яго жорсткім спакоем вышыню шыбеніцы, на якой зараз павісну. Аглядаю чалавека, які павінен пакараць мяне смерцю. Не шыбеніца мяне цікавіць—а кат, які чакае маёй смерці.

Рэцэнзент „Губернских ведомостей“, чалавек, які два разы хадзіў да Талстога ў Ясную Паляну, пісаў тады пра маю карціну вось што:

„У чым моц гэтай карціны? Моц, на мой погляд, у тым, што малады мастак падаў тут чалавека. Ён аглядае ката са здзіўленнем.

„Ты, кат, чалавек ці мо‘ ты зусім не чалавек? Мяне, маладога, неспрактыкаванага мастака, ты хочаш павесіць? Не можа быць?

А кат супакойны, заняты сваёй працай.

— Гэта адзін з андрэеўскіх „Семи погешенных“, канчае рэцэнзент. Гэта бліскучая ілюстрацыя да таленавітых твораў Андрэева, якая паказвае нам глыбіню чалавечай душы—усёроўна да якога класа гэты чалавек не належыў-бы“.

Вось гэта карціна, якая пакрыта зараз густым пылам,—пачатак усіх маіх ведахопаў і ўхілаў—гэта карціна ўзбудзіла тады вялікую зацікаўленасць. Зусім чужыя людзі, якія нічога супольнага з мастацтвам не мелі, наведвалі маё атэлье. Яны прасілі выбачэння, прасілі дазволу паглядзець карціру:

— „Дзе вы самі ля шыбеніцы?..“

— Адважна! Адважна! Вы паказалі жахлівасць смяротніка, у вашай карціне ёсць глыбокая чалавечнасць. Нават кат паказваецца па-людску,—пацiскаў маю руку старшыня асветнага таварыства, які меў дыплом юрыста, але юрыспрудэнцыяй мала займаўся: яму хапала гешэфтаў цесця, вялікага мануфактурыста, які даверыў яму сваю маёмасць. Да рэчы, вось вісіць у мяне партрэт гэтага самага мануфактурыста.

Памятаю, як да мяне прышлі рабочыя, яны не пастукаліся ў маё атэлье. Крыху недалікатна, але настойліва патрабавалі карціну, абмацвалі, удумваліся. Адзін рабочы закашляўся і праз кашаль праказаў:

— На мой погляд—забярыце карціну... Схавайце.

Я здзіўлена зірнуў на яго.

— Вам трэба разжаваць і ў рот палажыць?.. За гэткую карціну арыштуюць.

— Уяві сабе, за гэткія карціны не арыштоўваюць,—гарэзна ўсміхнуўся другі... За што тут арыштоўваць?.. Няма ў гэтай карцые пратэста. Няма змагання. Я тут бачу толькі спалох і пакорлівасць... А за гэта не арыштоўваюць

Кароткі дыялаг гэтых двух рабочых мне добра ўрэзаўся ў памяць, бо праз пару дзён я атрымаў паперку, у якой мне прапанавалі зайсці да шэфа жандармеры. Я не ведаў, што рабіць? Можа зусім уцячы з горада. Але калі вырашана заарыштаваць мяне, дык шпікі ўжо добра пільнуюць маю асобу. За што, уласна кажучы, мяне будуць арыштоўваць? У рэволюцыйным руху я ніколі не ўдзельнічаў. Застаецца—карціна. Дык сапраўды выходзіць, што першы рабочы меў рацыю. А калі так, дык навошта гэткія гуманныя адносіны? Прыдзіце дахаты з жандарамі, зрабіце вобыск, затрымайце, арыштуйце...

Урэшце я пайшоў у жандармерыю. Шэф у форме палкоўніка, з чыста-выгаленым тварам саракалетняга мужчыны, прыняў мяне па-людску, можна сказаць, далікатна, падсунуў крэсла і прапанаваў папяросу.

— Бессумненна,—пачаў ён,—вы валодаеце буйным талентам... Кажу вам па-сакрэту: паліцэйскі дэпартамент даручыў мне дагаварыцца з вамі наконт карціны. Як вы цэніце свой мастацкі твор?

Я збянтэжыўся. У першы момант не ведаў, што адказаць... Хвіліну падумаў і праказаў:

— Кпіць з мяне нікому не дазволю!

— Бог з вамі, малады чалавек,—узяў маю руку палкоўнік, і мне цяжка было ў гэты час схаваць пачуццё агіды да яго:—вы памыляецеся, калі думаеце, што я тут маю злыя намеры, падвох. Можа на вас кепска ўплывае гэтае месца, мая форма—дык я пераапрануся і запрашу вас да сябе на кватэру. Да рэчы, мая жонка хоча з вамі пазнаёміцца.

— Канчайце, прашу вас, і хай мяне ўжо адвядуць у каземат.

Палкоўнік затросся ад рогату.

— Каземат? Ха-ха-ха... Каземат... Мясцовая турма прыстасавана толькі для птушак... Ці бачылі вы калі-небудзь каземат? Мастак павінен усё бачыць.

Палкоўнік вытарашчыў на мяне пару нявінных вачэй, моўчкі паторгаў левы вус, разыграў перада мною ролю чалавека, якога за нішто пакрыўдзілі, пастаяў хвілінку ў цяжкім становішчы, неўзабаве падышоў да бакавых нізкіх дзвярэй і, не расчыняючы іх, роблена-сурова звярнуўся да мяне:

— Вы хочаце ў цытадэль, выбачайце, каземат, вас адвядуць у каземат, і, расчыняючы дзверы, крыкнуў:

— Антаніна!

Ніхто не адгукнуўся, дзверы заставаліся расчыненымі і палкоўнік паўтарыў:

— Ніна!

З унутраных пакояў ніхто не паказваўся. Тады палкоўнік падышоў да стала, націснуў кнопку. Адразу вырас жандар, стаў ва фронт, зазвінеў шпорамі, брава страсянуў аксельбантамі і застыў, чакаючы загада начальніка.

Палкоўнік па-вайсковаму ўзняўся з месца, ступіў некалькі крокаў. Зноў расчыніў дзверцы, што вялі, мабыць, ва ўнутраныя пакоі, прыслухаўся і ўзрадаваны вярнуўся да стала, усеўся ў глыбокі фотэль і, нібы успомніўшы, што ля яго стаіць чалавек, сказаў:

— Так... нічога... Можаш ісці.

Жандар брава павярнуўся на левым абсацы, паказаў з усіх бакоў сваё вышпачанае, досыць рухавае цела і пакінуў пакой. У гэты самы момант з бакавых дзвярэй паказалася маладая прыемная жанчына... Адросшыя стрыжаныя валасы абаранначкамі віліся на пульхнай белай шыі. Яна падышла да мяне і скромна працягнула кволую ручку.

Мне не хацелася верыць, што перада мною стаіць жонка жандарскага палкоўніка. Я неяк не хацеў паверыць гэтаму.

— Так? Вы дазволіце мне наведваць ваша атэлье? Так?

Яна ўладарна зірнула на мяне, чакала адказу, аглядала мяне, маладога, збянтэжанага.

Я ўстаў, зняў шляпу з вешалкі і, не развітваючыся, спрабаваў расчыніць дзверы да выхаду. Ніхто не затрымліваў мяне. Жандары далікатна мяне прапусцілі.

Гэта гісторыя з выклікам да палкоўніка яшчэ больш папулярызавала мой „Аўтапартрэт“. Знаёмыя прыходзілі даведацца, ці сапраўды заарыштавалі мяне, і як гэта ўсё адбылося. Некаторыя бачылі ў гэтым палкоўніцкім выбрыку звычайную правакацыю. Абгаварвалі пытанне, ці мае права мастак прадаваць свае творы служкам і вартаўнікам самаўладства. Некаторыя разважалі: кожны мае права прадаваць сваю сумленную працу, калі і каму яму захочацца. Не адмаўляецца швец ці кравец, ці каваль, калі ён атрымлівае заказ ад жандармерыі. Вось будуюць тут у горадзе турму, і на будоўлі працуюць нават рабочыя-рэвалюцыянеры. На будоўлі знайшлі пракламацыі і затрымалі распаўсюджвальнікаў. Але іншыя казалі, што я паступіў вельмі сумленна—жандарам не прадаюць твораў.

*15-га красавіка*

Нібы сёння гэта здарылася. Так свежы ўражанні таго часу. У жандармерыю мяне больш не выклікалі, затое прышла да мяне праз некалькі дзён жонка палкоўніка. Яна застала мяне ля мальберта. Спачатку яна трымалася вельмі свойска. Яна зрабіла на мяне моцнае ўражанне, якое ўмее рабіць падобная жанчына на гэткага маладога наіўнага юнака, якім я тады быў.

— Вы здзіўлены, так?—зняла яна шляпку і паказала сваю стрыжаную, каштанавую галаву. Вы ведаеце, чаго я да вас прышла?.. Вам няцяжка будзе здагадацца... Палкоўнік, мой муж, паехаў на доўгі час... Я хацела-б да яго звароту атрымаць ад вас свой партрэт.

— Ваш муж падаслаў вас,—груба перабіў я жанчыну.

— Мяне можа кожны абражаць беспакарана,—праказала яна.

Пабляднела. Замоўкла. У гэты момант я зарысаваў першыя характэрныя рысы гэтае жанчыны: ці сумысля, ці несвядома, а можа яна сапраўды пакрыўдзілася, але яна не мяняла свае позы і толькі праз хвіліну адказала мне:

— Да прафесіі свайго мужа я ніякага дачынення не маю.

— Але вы салідарны з ім?

Яна з цікавасцю і замілаваннем зірнула на мяне, азірнулася і скрозь сцятыя зубы працадзіла:

— Не!

Хвіліну памаўчала і паўтарыла:

— Не салідарна.

Я зноў дадаў пару рысак да гэтай рэдкаснай жанчыны. Атрымалася добра. Яна падыйшла да мальберта. Але я адразу прыкрыў партрэт. Не цярплю, калі заглядаюць у нясконачаную работу.

Яна расшпіліла паліто і стаяла задумная, насцярожаная.

— Можна прысесці?—спыталася.

Я збянтэжыўся.

— Вы кажаце, што вы не салідарны са сваім мужам. Чаму?

Яна засмяялася.

— Проста не салідарна.

— Калі так, скажыце мне, навошта спатрэбіўся вашаму мужу мой „Аўтапартрэт"?

— Наіўнае пытанне.

— Адказвайце,—настойваў я.

Яна азірнулася, смела ступіла да дзвярэй, расчыніла іх, высунула галаву, падышла да мальберта, уладна спытала: „дазваляеце" і ўбачыла першыя, і як здараецца, самыя важныя рысы, падскочыла з радасці і, крыху счакаўшы, ціха заўважыла:

— Чаму-ж дэпартаменту не купіць вашу карціну—яна санкцыянуе, апраўдвае, папулярызуе інстытуцыю тэрора.

— Вы наглыя!—крыкнуў я.

— Вы лаецеся, як фурман,—паднялася яна.

— Я папулярызую тэрор?!

— Я таксама крыху малюю... Разумеюся ў маляванні... Не вы самі—галоўнае ў „Аўтапартрэце",—ёсць другая фігура—кат.

Думка верная. Яна прыкмеціла, што я згаджаюся з гэткім поглядам, хоць я і не паказаў гэтага.

Яна асцярожна і няўпэўнена спрабавала пераканаць мяне ў сваёй шчырасці.

Я зацікавіўся гэтай жанчынай, якая, магчыма, была са мною адных гадоў, хоць яе муж палкоўнік, на многа старэйшы, больш практычны

за яе. Я не мог зразумець, адкуль у яе бярэцца гэткі ход мысляў. Яна больш свядомая, развітая за мяне.

— Вы ведаеце, на які матыў напісан ваш твор?—запыталася яна.

У гэты момант я зусім забыўся, з кім маю справу, узяў яе за руку. Яна трымалася насцярожана-гулліва, як з хлопчыкам, ад якога не патрэбна абараняцца... Хай дурэе... Стары жандар! Калі-б я ў той час быў не такі малады, наіўны! Але гэта няважна.

— На які матыў?—хвалюючыся спытаўся я.

Яна адказала:

— Вам знаёма падпольная песня:

И на гибель борцов,
Наших лучших сынов,
Смотрит масса безжизненно, тупо.

І тонам загаду папрасіла замкнуць атэлье. Я мусіў спыніць работу. Трэба сказаць, што ў гэты момант яна зрабілася дзелавітай і замкнёнай. Яна дастала з рэдыкюля белую кніжачку, надрукаваную на папяроснай паперы, падала мне.

У брашуры, нелегальнай, зразумела, пісалася пра мастацтва і рэволюцыю. Там адзначалася, што мастацтва не абслугоўвае як належыць інтарэсаў рэволюцыі. Я наткнуўся на некалькі падкрэсленых радкоў. Да гэтага часу ведаю іх напамяць. „Далей капання і паглыблення асабістых перажыванняў справа не ідзе“. Было пералічана шмат пісьменнікаў і мастакоў, якія ідуць па лініі найменшага супраціўлення. Актыўнымі з'яўляюцца толькі тыя, якія даюць абразкі распусты, дэгенерацы.

— Вы чыталі гэту кніжку?

— Так я чытаю нелегальную літаратуру.

— Што-ж вас прымусіла звязацца...

— Мой муж пачаў працаваць у жандармерыі нядаўна... Ён хоча пайсці адтуль.

Да гэтага часу шкадую, што ў маім атэлье няма першага жаночага партрэта. Мне здаецца, што я тут даў узор, як патрэбна паказаць жаночую постаць.

Палкоўнік і яго жонка ў хуткім часе пакінулі губерню. Для мяне яшчэ і цяпер засталася няяснай роля палкоўніцкай жонкі.

*16-га красавіка*

Працягваю свае ўспаміны.

Праз кароткі час мяне выклікаюць у канцылярыю губерскага праўлення. Гэта запрашэнне мяне менш напалохала, чым выклік у жандармерыю. Усё-ж такі гэта сяброўства ўзбудзіла трывожнае прадчуванне. Я не мог зразумець, навошта мяне туды выклікаюць. Цэлы тыдзень узапар я не выпускаў паштоўкі, надрукаванай на добрай альбомнай паперы, фармату вялікіх пакет-канвертаў з светлай пячаткай і двума размашыстымі подпісамі. Я закінуў працу, паказваў запрашэнне знаёмым, сваякам, раіўся з імі, меркаваў, навошта я спатрэбіўся губарнатару.

Гаспадар маёй кватэры, багаты домаўласнік, якраз падобны да аднаго з багатыроў, паказаным яўрэйскім дзяржаўным тэатрам у „200 000“, свой чалавек у губерскіх дзяржаўных установах, з зай-

здрасцю і цікавасцю аглядаў і мацаў рукамі губернатарскую позву, хітраваў і кожны раз прыбягаў да мяне з новымі здагадкамі:

— Што-ж гэта, безумоўна, не палітыка,—супакойваў ён мяне.

Праз пару гадзін ён зноў тут.

— А можа вы калі-небудзь падавалі на „политическую благонадежность"?

Падвечар зноў прыбягае:

— А можа ваш бацька?

На заўтра чуць свет стукаецца ў дзверы:

— Запомніце мае словы—вы атрымаеце заказ.

— А чаму-ж у праўленне, а не дахаты? Вельмі проста: чаго-ж вы хацелі—каб губарнатар прыняў яўрэйчыка праз парадныя дзверы?

— Вы яшчэ парадным ходам таксама будзеце хадзіць.

— Будзеце хадзіць. Яшчэ ўлезеце ў пер'і.

— Ну, можаце паставіць паўгарца,—заскочыў ён да мяне за некалькі дзён да майго візіта.

Гаспадар не мог супакоіцца. Падымаў тры разы на дзень свае кароткія ногі з ніжняга паверха да маёй кватэры. Аднойчы ён спешна пазваніў, увалюкаўся да мяне, як мядзведзь, і давай пацiскаць мне руку.

— Даведаўся, даведаўся... Вы робіцеся сваім чалавекам у губернатарскім доме... Ведаеце, чым гэта пахне?.. Мне шэф канцылярыі шапятнуў... Братачка, пакажыся губарнатару як належыць... У гэткай вопратцы нельга паказвацца... Што? Не маеш грошай?—Схадзі ў мешчанінаўскі магазін адзення; выбяры сабе гардэроб!.. Ведаеш чым гэта пахне? Каб я меў дачку,—я не выпусціў-бы цябе з хаты...—хочаш дзесяць тысяч—бяры; хочаш пятнаццаць—бяры... Эх, братачка, каб я меў дачку!

У прыёмным пакоі мне доўга не прышлося чакаць. Мяне першага запрасілі ў габінет, выклікаўшы гэтым здзіўленне і зайздрасць усіх чакаўшых прыёму, між імі былі людзі з прэтэнзіямі на ўвагу, з ордэнамі заслугі, медалямі на грудзях. У габінеце губарнатара я пачакаў некалькі хвілін, пакуль не расчыніліся бакавыя дзверы, і я ўгледзеў перад сабою высокага грузнага мужчыну, адзетага ў цывільным. Ён мне падаў чатыры таўстых пальцы, паказаў на крэсла і сам усеўся ў свой глыбокі фатэль:

— На маю сям'ю ваша работа зрабіла добрае ўражанне... Не пустая фантазія... Вы малады чалавек... Не займайцеся гэткім глупствам... Знаёмыя рэкамендавалі вас, як здольнага партрэтыста... Я сам партрэта не бачыў... Мне даволі, калі я пазнаёміўся з арыгіналам... Што?—прыгожая жанчына!.. Мая жонка хоча, каб вы абавязкова паехалі з намі ўлетку ў наш маёнтак... З „правом жительства" таксама ўпарадкую... Я наогул не праследую яўрэяў... Завошта? Бываюць розныя яўрэі... Працы будзеце мець даволі... Вы будзеце вучыць маіх дзяцей і пісаць партрэты з маёй сям'і... Дык дагаворана?.. Для вас гэта нечакана?..

І падняўся, і на гэты раз падаў мне ўсе пяць пальцаў.

А пасля гэтай кандыцыі пачаўся шэраг раз'ездаў па памешчыцкіх маёнтках. Крыху пазней мяне атакавалі мясцовыя гандляры. Яшчэ пазней прыезджыя багатыры, частныя паверaныя... Зірніце ў маё атэлье—увесь горад тут, і калі-б яны захаваліся да гэтага часу, дык многія з іх належылі-б да катэгорыі лішэнцаў.

Але першы штуршок на гэты шлях я атрымаў ад жонкі палкоўніка ці, калі яна была падаслана, ад самога палкоўніка.

*17-га красавіка*

Рэлін сёння чытаў раздзел маіх успамінаў. Відаць, яны зрабілі на яго нядрэннае ўражанне.

— Вось як,—сказаў ён,—дык у вас ёсць пэўнае палітычнае мінулае. Гэта не адбывалася ў часы зубатаўшчыны?

— Ніякіх адносін да зубатаўшчыны! Калі Андрэеў пісаў сваіх „Семь повешенных"—адказаў я.

— Я не чытаў Андрэева,—прызнаўся Рэлін...

*20 га красавіка*

Відаць, што начальнікам агітцягніка будзе Каданаў. У горадзе ён вядомы. Сымон Каданаў, а я не ведаў, што гэта ён, хоць некалькі разоў сустракаўся з ім на вуліцы і на сходах.

Каданаў спаткаў мяне каля кнігарні. Я трымаў у руцэ аграбіблятэчку, якую толькі што закупіў. Ён пазнаў мяне, спыніўся і працягнуў мне руку.

— Рыхтуецеся, вельмі добра,—заўважыў ён.

І бярэ ў мяне кніжачку пра лён, расчыняе свой цяжкі, напакаваны партфель і запіхае яе туды.

— Мы-ж заўтра сустрэнемся.

— Калі ласка, калі ласка,—адказваю, крыху збянтэжаны гэтай сустрэчай.

Не толькі той выказвае сяброўства, хто памагае табе чым-небудзь, але часта той аказваецца другам, хто зварочваецца да цябе, хто бярэ ў цябе. У даным выпадку гэта безумоўна так.

Вера Койль—дакторка. Дзе яна вырасла? Хто яе выхоўваў? Калі яна заходзіць да мяне ў атэлье, робіцца светла, радасна ва ўсіх кутках і да болю шкада зніклых дзён і гадоў. Яна прыгожая? Проста банальна прыстасоўваць да яе гэта паняцце! Тут нешта большае за прыгожасць.

А Рэлін? Я не разумею яго, не дааценіў.

Паслязаўтра а пятай увечары ўсе ўдзельнікі павінны быць ужо ў цягніку. Асабіста я толькі выгадаю з гэтага, бо я ўжо трэцюю ноч не сплюшчыў вачэй. Было-б смешна папракаць Рэліна, што ён мяне ўцягнуў у гэткую працу. Наадварот. Я ўдзячны, і не таму, што фігурую ў газеце разам з усімі ўдзельнікамі агітцягніка. Проста жыць стала цікавей. А тут сустракаеш свайго яўрэя ў янотавым футры. Ён злавіў мяне.

— Віншую вас,—крыкнуў ён.—Яны вас прыганятым зрабілі.—Мяне зацікавіла азначэнне—прыганяты.

— Выязджаеце падганяць, нагнаць, увагнаць, разганяць, прыганяць,—адным словам, гнаць і гнаць.

Я даведаўся, што гэты янотавы чалавек вывучаў у юнацтве „дыкдук"[1]) і гандляваў сіянізмам. Я проста адагнаў яго ад сябе:

— Прашу вас, ніколі больш не затрымлівайце мяне... Чуеце? Ніколі!

Ён зірнуў на мяне і ўраз змыўся, а я—іду на паседжанне—не ў ЦК, у рэдакцыю.

На паседжанні шмат незнаёмых. Каля мяне сядзіць нізенькі чалавечак з добрым тварам, белазорымі вочкамі, побач з ім—маўклівы чалавек, які ўвесь час глядзіць на свае рукі; трэці—мой калега, малады хлапец з вялікім лобам, кучаравай чупрынай. Ён ужо мае ў сваім пакоі два-тры бюсты знаёмых мастакоў, тэатральных працаў-

[1]) „Дыкдук"—граматыка стараяўрэйскай мовы.

нікоў, некалькі наплямленых карцін, ён вельмі самаўпэўнены і сустракае мяне заўсёды дружацкім пахлопваннем па плячы і салодкім слаўцом, што азначае: „Бачыш, я—буйны талент, я—скульптар, а ўсё-такі не здаюся“.

Каб да яго гадоў, да яго славутай чупрыны хоць кропелька таленту—ён-бы свет перавярнуў.

Падаю тут характарыстыкі некаторых удзельнікаў агітцягніка, каб паказаць, што мы (кажу „мы“) выкарыстоўваем кожнага, які хоць да чаго-небудзь здольны. Лепшым прыкладам з'яўляюся сам я!

На паседжанне прышлі пісьменнікі, мастакі, кампазітары і адзін фатограф.

Таварыш Каданаў тлумачыць:

— Агітцягнік будзе моцным дзеля таго, што кожны тут будзе выкарыстаны двойчы: як брыгадзір, які не адмаўляецца ад любой работы і, па-другое, па сваёй спецыяльнасці... Вы, таварыш, рэаліст?—звярнуўся да мяне начальнік.

— Партрэтыст,—адказаў за мяне фатограф, чалавечак з белазорымі вочкамі, і змоўк.

Пісьменнік, які ўвесь час разглядаў свае пальцы, падняў галаву і ўважліва зірнуў на фатографа. Мы яшчэ не ўмеем культурна трымаць сябе на гэткім адказным паседжанні.

— А вы што думаеце рабіць, таварыш фатограф?—звярнуўся да яго начальнік.

— Зразумела... што прыдзецца.

— Так не гадзіцца,—сказаў начальнік,—вось мы сабраліся і ясна не ўяўляем сабе, што кожнаму прыдзецца рабіць. Я разумею пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў. Усе вы павінны скласці хоць-бы арыентыровачныя планы сваёй працы. Мэту працы вы добра ведаеце—дапамагчы правядзенню веснавой сяўбы... агітцягнік павінен пакінуць след не толькі там, дзе ён спыняецца, ён павінен ахапіць усю навакольную мясцовасць.

Скромнасць—вось што я заўважыў у нашага начальніка. Магло паказацца, што ён не ведае, з чаго пачынаць. Але гэта было не так. Я не паверыў-бы сам на сябе—я прасіў слова.

Начальнік ахвотна даў мне гаварыць. Ён нават узрадваўся ў гэты момант. Вы, мабыць, ведаеце, што на прамовы я не вялікі штукар. Не спецыялізаваўся ў гэтай галіне.

— Не шкодзіла-б,—пачаў я,—каб нам паказалі самыя вагоны... Я думаю, што мы павінны пачынаць з вагонаў... Знадворку, знутры, ці, магчыма, з даху.

За апошнія гады гэта мая першая прапанова. Усе прынялі яе цёпла, па-таварыску, за выключэннем хіба маладога скульптара з геніяльным ілбом і фарсістай шэвелюрай.

Усё-ткі я пад канец зрабіў глупства. Цяпер ужо не палохаюся самакрытыкі і прызнаюся—пасля таго, як усе прысутныя жыва абгаварвалі, як і якімі спосабамі дэкараваць нашы вагоны, я прапанаваў:

— І, апрача таго, магу даць для гэтага некаторыя малюнкі са свайго варштата.

Безумоўна! Я зрабіў глупства, якога ніяк не паправіш.

### *22-га красавіка*

Я ўжо ў вагоне. Я сам прапанаваў прыбраць па-мастацку цягнік, але гэтай справай захоплена моладзь. З мяне не патрабуюць развешваць чырвоныя палотнішчы, не патрабуюць пісаць лозунгаў, зак-

лікаў. Увесь агітцягнік заклапочана бегае. Рыхтуюцца да выезда. Коцяць у вагоны—думаеце што—бочкі з вінoм? Не,—поўныя мяшкі лозунгаў, плакатаў, лістовак. Майструюць кіно-ўстаноўку, радыё, друкарню. Людзі спыняюцца, з цікавасцю паглядаюць на наш выезд, а я—назіраю за самім начальнікам. Магу прысягнуць, што ён не так ужо захоплены, што ён, магчыма, адзіны, які ходзіць з вагона ў вагон задумны, асцярожны, маўклівы, як чалавек, які выбірае дарогу паміж небяспечных замінаваных шляхоў. Начальнік любіць паўтараць наступную думку:

— Таварышы, гэта новая праца. Мы самі павінны адшукаць адпаведны, правільны шлях—шлях выкрыць ворага, садзейнічаць, знайсці і падбадзёрыць ударніка, энтузіяста.

Начальнік спыніў мяне запытаўся·

— Чаго вы такі пахмурны, ці здаровы вы—у цягніку ёсць доктар, аптэка, лекі.

— Я здароў,—адказваю,—але я сказаў-бы, таварыш начальнік, што вы самі не так узлётна настроены.

— Сур'ёзна?—зрабіў ён такі гэст рукою, нібы шукаў дзесці люстэрка.

— Я хацеў-бы, таварыш Каданаў, зразумець вельмі важную рэч.

— Ахвотна адкажу вам.

— Цягнік і ўсе іншыя мерапрыемствы каштуюць многа тысячаў, забіраюць тысячы працадзён у адказных таварышоў.

— Вельмі важнае пытанне. Мы сапраўды пасылаем у вёску тысячы... Безумоўна, безумоўна... У ваенную пару цэлыя народы змагаюцца за стратэгічны пункт. Безумоўна, безумоўна...

— Ці-ж у нас ваенны час?—пытаюся.

— У нас класавая барацьба, мы змагаемся за новыя формы жыцця Вы самі пераканаецеся ў гэтым.

Ён гаворыць прыблізна, як мая дакторка. Добрая справа. Адбываецца змаганне за новыя формы жыцця і я таксама ўцягнуты ў гэтае змаганне. Я, чалавек, які дзесяткі гадоў стаяў збоку, праспаў гэткія добрыя гады.

Не, круціцца абібокам па вагонах—не работа. Трэба нешта рабіць.

Цягнік атрымаў нечаканы штуршок!—прычэпліваюць паравоз. Неўзабаве выедзем.

*23-га красавіка*

Уночы праменні месяца закраліся ў наша цеснае купэ. Спачатку яны асвятлілі скамейку, на якой спіць Рэлін, а пад раніцу іх стомленае святло лягло на маю пасцель. Прачынаюся. Развідніваецца. На дварэ холадна, вецер. Цягнік стаіць на закінутай станцыі. З аднаго боку, уздоўж усёй станцыі цягнецца лес—елкі, бязлістыя бярозы. Нізіны лясістага долу затоплены вадою. З другога—дрыўляны вакзал, пабудаваны са свежага сасняку. Пнішчы смалістыя, свежыя. Відаць, што чыгунка тут нядаўна праведзена.

Моўчкі тармашу Рэліна—не хачу будзіць астатніх. Рэлін прачынаецца. Аглядаецца. Дзякуе, што разбудзіў яго. Спешна апранаецца, выкрыквае

— Таварышы, уставаць!

Нашы „выведнікі“, якія едуць наперадзе, ужо далі інфармацыю аб становішчы гэтага раёна. Кожны брыгадзір ведае ўжо сваё месца. Мяне прымацавалі да Рэліна. Хутка прыбудзе да нас дакторка, таварышка Койль, якая наладзіла ў санвагоне прыём хворых. Спачатку

ідзем уздоўж чыгуначнай лініі і хутка зварочваем у бок сухіх, пясчаных насыпаў. Замоўчваем тое, што кампанія пайшла, не выпіўшы гарбаты.

Дарога мясцамі затоплена—ідзем пабочнай сцежкай, абыходзім нізкія, насычаныя вадою мясціны, пераскакваем з адной імшыстай купіны на другую. Рэлін гаворыць, што я—нядрэнны скакун. Не адказваю. Маўчым. Нясем пад пахай лістоўкі, плакаты, адозвы. Я, апрача гэтага,—трубку рысавальнай паперы, пэндзлі туш, фарбу.

— Ведаеце, таварыш Рэлін,—кажу я,—мы з вамі яўрэі.

— А для вас гэта навіна?

— А там, куды мы ідзем, ёсць яўрэі?

— Спытайцеся лепей, таварыш Мезік, ці ёсць там комуністы. Вось што для нас важна... На жаль,—дадае ён, а мне невядома, чаго ён шкадуе.

Сыходзім на тракт. Дыхаецца лёгка. Дарога сухая.

— З чаго пачнем?—пытаюся не так смела.

Рэлін не адказвае. Віднеецца царква. Яна стаіць на гары. Вакола пасталі шырокія галінастыя голыя дрэвы, густа абсаджаныя варонімі гнёздамі. Думаю: магчыма, што мой бацька ў маладыя гады размалёўваў гэту царкву!

Падыходзім. На высокім царкоўным ганку сядзяць людзі з кошыкамі—сявяркамі. Побач стаяць запрэжаныя ў лёгкія драбінкі коні.

— Тут яшчэ не вышлі на работу,—паказвае мне Рэлін.

Узыходзім на ганак. Раней Рэлін, за ім я.

У старых пафарбаваных дзвярах царквы вылучаюцца дзве нядаўна ўстаўленыя габляваныя дошкі. Праз усю шырыню дзвярэй лягла сіняя, нядаўна выкаваная жалезная штаба.

— Добры дзень, таварышы,—вітаецца Рэлін, як стары знаёмы: сёння лён сееце?

— Лён,—адказвае пахмуры чалавек.

— Дык чаго-ж тут з сявяркамі чакаеце?

— Пагоды,—адказвае той самы чалавек.

— Не, насення чакаем,—апраўдваецца другі.

— А дзе насенне?

— Во-дзе насенне,—паказваюць пальцы на царкоўныя дзверы.

— А загадчык гаспадаркай дзе?

— Паехаў на станцыю.

— А ключы ў каго?

— У Цімоха.

— Дзе ён жыве?

— Дзе-ж яму жыць? У вёсцы.

Рэлін не гаворыць, хто ён, а людзі не пытаюцца ў нас, хто мы такія.

— Сцёпка, пакліч бацьку!

Да нас падыходзіць хлопчык гадоў чатырнаццаці ў вялікіх ботах, у шэрай сялянскай світцы.

— Цімох—твой бацька?—звярнуўся Рэлін да хлопчыка:—скажы яму, каб ён прышоў сюды з ключамі... Скажы, што людзі са станцыі прышлі.

Хлопчык жвава рухаецца. У вялікіх ботах.

Толькі цяпер Рэлін гаворыць, чаго мы прыехалі сюды, хто мы і хто я.

— Тут, бачу, ёсць таксама комсамольцы... Вы-ж ведаеце, што спазніліся ўжо на дзве гадзіны на работу, а пакуль выберацеся на поле, зноў пройдзе гадзіна. Колькі чалавек у вашай брыгадзе?.. Пят-

наццаць? Пятнаццаць на тры будзе сорак пяць гадзін... Ні за што, ні пра што змарнавалі.—А мне? А мне прыходзіцца напісаць друкаванымі літарамі:

„Цімох—зрыўшык веснавой сяўбы“.

„Цімох грае ў дудку кулакоў“.

Цімох, высокі, сутулы, сярэдніх гадоў селянін, голены—спяшыць да царквы. Яго чакае сюрпрыз—мой плакат, які сяляне прыклейваюць да сцяны мякішам свежага хлеба.

*24-га красавіка*

Раніца яшчэ халодная, але сонечная. Дзіцячыя босыя ножкі пакідаюць на вільготнай гліне вытаптанай сцежкі адбіткі сваіх пятак. Дзеці прабягаюць праз дарогу і калоцяцца яшчэ ў сваіх зімовых світачках. Іхнія маткі, злосныя і маўклівыя, спяшаюцца да вулічнай студні, чэрпаюць поўныя вёдры вады і подбежкам варочаюцца дахаты, унікаючы чужыя позіркі гарадскіх людзей, якія паказаліся тут у вёсцы.

Вясковыя хаткі запушчаныя, цёмна-шэрыя і закураныя, са згорнутымі пад самым дахам саламянымі вакеніцамі, стаяць, павярнуўшыся спінамі адна да адной. Вецер адганяе клубы дыма, што вырываюцца з комінаў, на поўдзень. Вецер сціхае, а на сонечным баку паказаліся плоймы зумкаючых камароў.

На вуліцу высоўваюцца старыя сяляне і сялянкі. Яны нездаволены гасцямі і раннім сонцам. Яшчэ ўчора прарочылі яны, што першыя засеяныя палоскі ільна вымерзнуць, што аўсы загінуць пры першым усходзе—дык на табе, зусім сонца.

Старыя напружваюць свае заплыўшыя вочы, паднімаюцца з месца, ўздрыгваюць з нечаканасці.

Суседняя вёска выпусціла ўжо скаціну на пашу... Якія чэрці іх падганяюць... калі на полі яшчэ адна голь і пустэча... Не могуць дачакацца... Каб вясну за карак валаклі, падганялі!

Тут не спяшаюцца з сяўбой. Тут у вёсцы яшчэ не пускаюць стада ў поле. Абагуленая жывёла гразне ва ўласным гнаі: у хлявах цесна, цёмна. Па падворку нельга прайсці з-за рэдкай, ліпучай гразі.

Калгасны статак не мае яшчэ і двух гадоў. У сялянскім хлеве сабраны цяляты і гадавалыя падлеткі. Яны пабрыкваюць, пруцца, да выхаду і ўдыхаюць у сябе першы сонечны дзень, казлытанне вясновага сваволька-ветрыка.

— Выпусціце стада,—гаворыць скотніку мой брыгадзір, таварыш Рэлін.

— Яшчэ рана выганяць,—глядзіць стары селянін на сонца.

— Цяляткі не маюць яшчэ чым жаваць, а на выгане яшчэ вільготна і небяспечна,—падтрымлівае першага селяніна старая сялянка і пераглядваецца са скотнікам, нібы гаворыць: „Не перашкаджайце,—я адкажу гарадскім дурням“.

Прывязаныя ланцугамі, у асобных загародках, стаяць абодва калгасныя бугаі. Іх доўгія спіны гладкія, бліскучыя. Яны дзіка водзяць вылупленымі зрэнкамі. Вось яны рвуцца з ланцугоў, зараз хлеў разнясуць.

— Што тут робіцца?—не разумее Рэлін.

Старая сялянка засмяялася.

— Нічога не разумее,—і прышла нам на дапамогу.

Ля хлява стаяла маладая цяжарная сялянка, у падкасанай парто-

вай сукенцы. Ля яе старая худая карова з палінялай спіной. Старая галодная худоба была раўнадушна да ўсёй гэтай справы.

— Цепер разумееце?

— Хто тут будзе з цягніка?—распачала сялянка.—Яны не падпускаюць маёй каровы.

— А ты адкуль?—запытаўся Рэлін.

— Я пузікаўская... Карова—усё маё багацце.

— А чаму ты не ў калгасе?

Сялянка маўчыць. Бугаі, абодва бугаі ірвуцца з ланцугоў. Пена прэ з іх пысаў. Зараз разбураць хлеў.

Дзякуючы агітцягніку, тут наладзілі сёння першы працоўны дзень ў нядзелю. Маўкліва спяшылі. Шпарка выводзілі са стайні коняй, выбіралі патрэбныя хамуты, аглядалі, дзівіліся, нібы ўпершыню хамуты бачаць—тут не хапае гужа, там супоня перацерлася.

Сёння паміж мною і Рэліным адбыўся дыялаг:

Рэлін.—Ёсць тэма?

Я.—Калі ласка! Назавеце яе.

Рэлін.—Тэма наступная: „Я гатоў!"

Я.—Піонерская,—гэта я калупнуў яго за „Піонера".—Досыць. Раз правалі ўся.

Рэлін.—Не палохайцеся былых правалаў. Апрача таго, пакуль не выкажу да канца сваёй думкі, не перабівайце мяне.

— У насценнай газеце патрэбны рад ілюстрацый да тэксту на тэму: „Я гатоў"!

Конік.—Я гатоў, дзе канюх?

Канюх.—Я гатоў, дзе калёсы?

Калёсы.—Мы гатовы, дзе вупраж?

Вупраж.—Я гатова, а дзе дзень?

Дзень.—Я гатоў, ад сораму чырванею, нібы кроў.

Трэба даць у гэтых малюнках жывыя твары.

Заўважаю Рэліну, што гэта нешта падобнае да „Бабкі і рэпкі" і бяруся за работу. Крыху пазней мой настрой узнімаецца. Рэліну падабаецца канюх. Адным словам, раблюся тут у вёсцы больш папулярным з кожнай хвілінай. Мае партрэты ахапілі ўжо багата асоб.

Усё-ткі я зрабіў свае дадаткі да заказа Рэліна. Апрача малюнкаў, даю да кожнага раздзелу гадзіннік, у якім стрэлкі знаходзяцца на пэўным месцы—гэта яшчэ завастрае карыкатуру, якая ілюструе, як дзень марна прападае.

## *25-га красавіка*

Палыхае сонца—не ўседзець на прызбе. На старой высохлай ліпе буслы забаўляюцца ў каханне, шукаюць адзін у аднаго пад крыламі. Жаўранкі гарэзна вылятаюць з зялёнага сочнага жыта, з гвалтам узнімаюцца ўвысь, на момант апускаюцца, пакруцяцца над жытам, зноў узнімуцца і знікаюць у сініх прасторах. А тут, пад самым носам, ластаўка лепіць, рамантуе і мацуе сваёй дзюбкай мінулагодняе гняздо, пахлопвае крыллем пад страхою.

Але не ва ўсіх сёння свята. У іншых, старых, гэты дзень расстроены. І вясна сёння, і журліва. Усё-ткі ў поле выпусцілі стада не ўпору.

Каровы, падганяемыя пастухамі, прагна скубуць зялёныя парасткі травы, бегаюць апантаныя з задранымі хвастамі, наблізяцца да бугаёў і спуджаныя адскокваюць у бок.

Абодва калгасныя бугаі—Рыжы і Падласы—трымаюцца яшчэ ў баку ад стада.

Рыжы ходзіць за Падласым, пакуль той не спыняецца, абарочваецца, нурыць галаву і шукае налітымі крывёю вачыма галаву суседа, з якім усю зіму стаяў ля адных ясляў. Жылы на шыях набракаюць. Трымаючыся моцна на шырока расстаўленых нагах, выцягнуўшыся даўгімі спінамі, яны штурхаюць адзін аднаго ўпартымі галовамі.

Вочы бугаёў лыпаюцца з дзікай цярплівасцю. Пярэднія ногі шукаюць пункт апоры і шырокія схіленыя шыі грузна згінаюцца направа і налева. Раптам Рыжы адступае. Ён ступіў некалькі крокаў назад і ўцякае. Але Падласы не дазваляе дэзертыраваць. Ён перасякае дарогу. То адзін, то другі напружваюць свае сілы, пакуль Рыжы не паддаецца, коўзаецца, валіцца ў прыдарожную канаву і перакульваецца дагары нагамі.

Поўсяла сочыць за бойкай гэтых двух бугаёў.

— Калгасны, сорамна!

— У Падласага яшчэ трымаецца кулацкая юха—Хімкіна юха!

— Вось бугая выгадаваў!

Рыжы ачухаўся. Не паддаецца... Вылазіць з канавы забруджаны, запэцканы. Асцярожліва рашуча наступае на Падласага. Зноў упіраюцца цвёрдыя, бычыныя ілбы. Зноў коўзаюцца ногі і шукаюць пункт апоры на вільготным лужку. І зноў раз'яраны бугаі.

— Ну, калгасны наш, лупі!

— Не, Хімкін стада не выпусціць!

— Рыжанькі, маладзенькі, давай!

— Не, Хімкін яшчэ жывы!

— Узялі, калі трэба было... Выслалі ці не?

— Але гэта ўжо не Хімкін—Падласы наш!

— Наш, але ўсё-ткі Хімкін.

— Дзве сілы змагаюцца за стада,—хітра заўважыў селянін...—Хай ведае карова, хто над ёю гаспадар.

— Дурны, як бот,—атрымаў ён адказ збоку.

— Чаго лаешся!.. Што я сказаў?.. Над стадам павінен быць адзін гаспадар... Так гавару, ці не? Плявузгаеш і нічога не разумееш.

* * *

Мы атрымалі наказ з агітцягніка: калі трэба, можам у гэтай вёсцы заначаваць. Рэлін ухапіўся за гэту прапанову. Ён кажа, што неабходна тут застацца. Гэта зробіць добрае ўражанне на мясцовы актыў. Можна будзе правесці некалькі лішніх гутарак. Але я не надта захоплены інтымнымі гутаркамі. Цікава атрымаецца, калі мне прыпадзе начаваць якраз у каго-небудзь з тых сялян, якія фігуруюць у ілюстрацыях Рэлінскай насценгазеты.

Цяпер я ўжо ўпэўнены, што Рэлінскі заказ выкананы нядрэнна. Пасля работы ў калгасную канцылярыю пачалі збірацца калгаснікі, калгасніцы і, галоўным чынам, моладзь. Ад майго плаката не адыходзяць, мацаюць яго рукамі, аглядаюць мяне, прыглядаюцца да партрэтаў, чытаюць тэкст, хіхікаюць, смяюцца, жартуюць. Адзін з тых, што папаліся ў мае рукі, Цімох, зарагатаў. Але, рагочучы, ён падышоў да мяне, сказаў:

— Ты сталы чалавек,—а займаешся гэткім глупствам. Я нават свайму хлапцу не дазволіў-бы займацца падобнай пэцканінай... Каб гэта зрабіў мой сын, я скуру злупіў-бы з яго... Чаго тут лынды б'еш? Дахаты ідзі, над бацькам пакуль што не дазволю глуміцца. Пакуль што бацька цябе корміць.

А Сцёпка—сын пакрыўджанага—не адыходзіць ад мяне, не выпускае мяне з віду. Цікава, ён не сказаў бацьку пра тое, што яго тут размалявалі. Гэта яшчэ больш абурае Цімоха.

Цяпер Сцёпкаў бацька пайшоў моцна абражаны і злосна-маўклівы, а хлапец застаўся тут, не кратаецца з месца.

— Чаму дахаты не ідзеш?—крануўся я Сцёпкінага пляча.

Абавязкова зарысую гэтага хлопчыка ў свой альбом. Я тут завёў альбом.

— А вы, дзядзенька?—пытаецца Сцёпка.

— Я?

— Так, вы. Я-ж вас чакаю. Вы-ж будзеце начаваць і вячэраць у нас.

Вышла якраз так, як я меркаваў. Іду да Цімоха, а Рэліна няма. Ён пайшоў у суседнюю вёску.

Рэлін, я звар'яцею. Ты не страціў розуму, Рэлін? Ці ведаеш, што ты са мною зрабіў?—Я пайду начаваць да чалавека, якому столькі прыкрасцей учыніў. Ды яшчэ вячэраць. Звар'яцеў мой Рэлін. Не кратаюся з месца. А Сцёпка чакае, пакуль я пайду з ім.

— Ну, хадзем ужо,—тармосіць ён мяне.—Цямнее.

— Вось што, браток,—кажу я да Сцёпкі,—даведайся, дзе тут знаходзіцца другі брыгадзір, і прывядзі яго зараз-жа сюды... Скажы, што мастак яго чакае.

— Ён далёка адгэтуль, дзядзенька,—мармыча хлопчык.—Ну, хадзем ужо, хадзем!

Выходжу з праўлення. Зусім сцямнелася. Павявае вільготны ветрык. Збіраюцца хмары. Іду—куды я іду? Вячэраць і начаваць да чалавека, якога я ўвабраў у свае мядзведжыя лапы, у пух і прах сцёр.

Заходжу ў хату. Кабета, зусім яшчэ маладая, з круглым спакойным тварам, мітусіцца каля агню. Бачу толькі яе твар і срэбныя колцы завушніц, якія калышуцца на яе маленькіх вушках. Яе цень скача на шэрай сцяне. У хаце цёмна. Але стол, відаць, засланы белым абрусам. Агонь трашчыць, а ў скаварадзе нешта шыпіць.

— Вы, напэўна, прагаладаліся,—заўважвае гаспадыня,—і падае мне на скаварадзе пахучую, свежую яечню.

— А дзе гаспадар?—пытаюся.

— Гаспадар, мабыць, яшчэ не вярнуўся.

Жанчына нават не падазрае, што я, інтэлігент, даваенны чалавек, які начытаўся Надсона, Фруга і Сурыкава, зрабіў гэткае свінства.

Сядаю да стала, даўлюся кожным кавалкам. Хай-бы ўжо прышоў гаспадар. Вось узрадуецца госцем. Прагоніць к д'ябалу.

Пытаюся Сцёпкі, дзе бацька. Хлопчык сядзіць з боку задумны, заклапочаны. У яго, Сцёпкі, відаць таксама назолена сэрца. Ён адказвае:

— Бацька пайшоў глядзець коняй.

— Бацька злуецца на мяне, Сцёпка?

— Злуецца... Дужа не любіць, калі яго высмейваюць.

Не дакранаюся больш да вячэры. Гаспадыня моцна ўстрывожана. Яна зграбае вугалле на прыпечку і засмучона гаворыць:

— Вы не прывыклі да нашай яды... Яйкі свежыя... Ну, дык выпіце малака.

Расчыняюцца дзверы сяней. Чакаю гаспадара, чалавека, якога кроўна пакрыўдзіў. Ён панура заходзіць у хату. Падыходзіць да стала і адразу бачыць, што я і не паспытаў вячэры.

— Раней размалёўвалі мяне, а тут—у маёй хаце—зноў абраза, пагарджаеце ядой... Можа есці баіцеся?.. Атруты тут няма... Глядзіце, буду есці сам.

Насуваецца ноч. У хаце добра пацямнела. Гаснуць апошнія іскры, апошні прысак на прыпечку. Гаспадыня маўчыць. Не падыходзіць да стала, ні слова не гаворыць. Яна адчувае, што з мужам цяпер нельга размаўляць. Сын сядзіць і не адважваецца падыйсці да бацькі. Сам гаспадар, плячысты, дужы з пацямнеўшым тварам, выпроствае рукі да скаварады і пхае ў рот велізарныя кавалкі хлеба, макнуўшы іх загадзя ў растоплены тлушч. Мяне ўжо болей не запрашае, есць сам. Глытае апошні кавалак, аблізвае губы, языком падбірае ў дзёсны папаўшыя крошкі... Падсоўвае да сябе паліваны кубак, налівае малака і падносіць да ірта.

— Піце малако!—толькі гэтыя два словы кінуў ён мне. Зноў ціха ў хаце. Гаспадыня ўстае, прыбірае са стала, усё робіць моўчкі. Насунулася ноч. За вакном голыя бярозы калышуцца, крэхчуць. Не адважваюся запытацца, чаму не запальваюць агню. Думаю, што ноч яшчэ доўгая, што я засуджаны на цемру і трывогу. Падлічаю: да раніцы засталося не менш пяці-шасці гадзін, спаць не прыдзецца. Я вырашыў наглядаць, што, цікава, будзе рабіць гаспадар пасля вячэры. Сцерагу гаспадара, вачэй з яго не спушчаю. Ён падыходзіць да печы, скручвае ў цемры папяросу, рукамі раскапвае прысак, закурвае, выгукае:

— Пара спаць!

Жонка ўзрадавалася, пачуўшы гэтае слова. Яна расчыняе куфар, выцягвае кажух, зрэбную посцілку, ставіць побач да сценкі два зэдлікі і рыхтуе мне пасцель.

Гаспадар скідае з ног цяжкія боты, сцягвае самаробны шарсцяны каптан і ўлазіць у ложак.

Цяпер якраз не шкодзіць цемра, думаю сабе, і кладуся на сваю пасцель, у камашах, у вопратцы.

Ляжу сабе з расплюшчанымі вачыма і чую, як Сцёпка шэпчацца са сваёй маткай. Я пачуў (і моцна ўзрадаваўся), што гаспадар захроп. Прыпамінаю, колькі непрыемнасцей і бяссонных начэй прычыніў мне рэлінскі храп. Але зараз моцны сон Цімоха супакойвае мяне. Пакуль гаспадар спіць—я зусім спакойны.

На печы не сціхае гаворка маткі са Сцёпкам. Я ўпэўнены, што яны гавораць пра мяне. Чую, як матка душыцца смехам. Яны абодва смялеюць, бадзёраюць. Мабыць, я тут маю справу з „саюзнікамі". Яны таксама рады, што гаспадар моцна заснуў.

Што за грэх учыніў гэты чалавек, які так смачна спіць у сваёй хаце. Ну, спазніўся на работу, затрымаў брыгаду, але-ж ён цэлы дзень гараваў і дзеля таго, што Рэлін толькі раз паказаўся, гэты жалезны чалавек прыналёг, пастараўся. Ці патрэбна было ўмешвацца ў гэту справу мне, аджыўшаму чалавеку, мне, які месяц таму назад, існаваў пастолькі, паколькі атрымліваў хлебную картку. Гэта я выехаў у вёску на веснавую сяўбу—нешта тут няясна.

Гаспадыня заснула. Сцёпкі таксама не чуваць. Гадзіннік мерна адстуквае свае хрыплаватыя крокі. Ён аднатонны. Не адбівае часу. Цікае над галавою бесперапынна. Устаю—вобмацкам шукаю стрэлкі. Дзве гадзіны. Да ўсходу сонца—дзве гадзіны.

Хутаюся з галавой у сваё паліто. Адчуваю зморaную цяплыню. Змора ахоплівае ўсю маю істоту. Зараз засну. Дык прыходзіць сюды стары яўрэй у янотавай футры і наступае на мяне з вымаганнямі. Тармосіць. Не дае заснуць. Ён помсціцца. Лезе ў твар сваёй біблейскай барадой, брыдка лаецца:

— Свет смяецца з вас,—крычыць ён да мяне, як да глухога. У мяне бракуе мужнасці паслаць яго да д'ябала. Ляжу, як звязаны, а ён здзекуецца, мучыць мяне, не дае ўлежаць.

— Уставай, найвялікшы з ізраіляў, уставай!

Збіраю апошнія сілы, адштурхваю яго ад сябе, прачынаюся.

Каля мяне стаіць Рэлін.

— Вам спаць хочацца... Спачуваю... Зрабіце так, як я,—абліцеся сцюдзёнай вадою—і сон як рукой зніме!

Гаспадара ўжо няма. Гаспадыні таксама не відаць. Толькі адзін Сцёпка спіць, расцягнуўшыся на печы. Аглядаюся. На сценах—дзіцячыя малюнкі. Дзеці круцяцца ў карагодзе з мядзведзем. Мне падабаецца гэта работа. Медзвяжатнік...

— Бачыце, бачыце, у якую хату вы папалі—да мастакоў,—радуецца Рэлін і падганяе мяне, каб хутчэй апрануўся. Мы абодва павінны прысутнічаць пры выхадзе на работу.

— Гаспадар шалее з за карыкатуры,—кажу.

— Гэта добра,—весялее Рэлін...—Ведаеце, што будзеце рабіць сёння? Вам прыдзецца намаляваць двух ударнікаў... Сёння ўводзім чырвоную дошку.

— Я не сплюшчыў вачэй,—апавядаю Рэліну.

— Вы-ж вельмі добра спалі,—радуецца Рэлін і падае мне пінжак.

— Але калі я заснуў?

Рэлін не чуе, што да яго гавораць, а складае план чырвонай дошкі, якую я павінен зрабіць. Раіцца са мною—можа вывесіць яе разам з насценгазетай. Ён бачыць, што я збянтэжаны. Пацяшае:

— А калі Цімох заслужыць, дык ён яшчэ пападзе на чырвоную дошку... Зразумелі?

З Рэліным дагаварыўся. Застаюся тут працаваць да снедання—тут спакойна і ціха. У хаце толькі Сцёпка. Ён смачна спіць, звіснуўшы галавой за край печы. Мне хочацца падняцца і паправіць яму падушку. Але не раблю гэтага. Не хачу будзіць Сцёпкі.

Гаспадар зайшоў у хату. Маўчыць, становіцца ля мяне, аглядае мае прылады—я тут маю паперу, пэндзлі, туш, акварэль, нават масляную фарбу.

Стаю перад гаспадаром, як школьнік. Адчуваю сябе няёмка ў яго прысутнасці. Чакаю, пакуль ён пойдзе, але Цімох не кратаецца з месца, а Рэлін заходзіць, паглядае на гадзіннік, нервуецца.

— Тут табе добра будзе працаваць,—заўважае гаспадар і, зірнуўшы на сына:

— Сцёпка, уставай!

Хлопец пераварочваецца, спалохана расчыняе вочы, прыглядаецца да мяне, нібы ўпершыню ўгледзеў, і ссоўваецца з печы на пяколак, а з пяколка на падлогу—выспаны, ружовы, са скудлачанай галавой.

— Пакажы таварышу свае сшыткі,—камандуе бацька, і хлопец знімае з паліцы шырокія сшыткі для малявання, падае бацьку.

Рэлін крычыць ужо з вуліцы:

— Спознімся!

Гаспадар моўчкі падае мне сшыткі і выходзіць з хаты. Застаюся са Сцёпкам адзін у хаце—лепей не трэба.

І што гэта сталася з гаспадаром—не магу зразумець.

— А хто цябе вучыць? — пытаюся, перагортваючы Сцёпкіны сшыткі.

— Настаўніца.

— Яна малюе?

— Яна добра ўмее маляваць. Цяпер яна хварэе. Учора не прышла на заняткі... Вот стары партрэт... Мой дзед.

Партрэт вісіць разам з абразамі. Я не заўважыў яго. Падыходжу і слупянею з нечаканасці. Дзе гэта я знаходжуся? Што гэта робіцца

са мною? Сваім вачам не веру. Мой партрэт. Мая работа... якую я рабіў дванцаць з нечым гадоў таму назад.

— Даўно ў вас вісіць гэты партрэт?—пытаюся ў Сцёпкі.

— Вельмі даўно,—адказвае хлопчык.—Настаўніца апавядала нам, што партрэт маляваў адзін мастак-яўрэй, які працаваў у пана... Калі пан уцёк, ён пакінуў сваю маемасць, і бацька забраў дзеда да хаты.

— А дзед жыве?

— Жыве.

*26-га красавіка*

Аказваецца, знаходжуся чатыры вярсты ад Падброддзя, дзе я працаваў дванцаць з нечым гадоў таму назад.

Я прыехаў сюды ў пачатку вясны. Яна была тады цёплай, ранняй, не такой, як цяпер. Мяне сустрэў пан, а пані выйшла на балкон і навяла на мяне свой ларнет. Пан скоса агледзеў мой паношаны касцюм, бедны багаж і з пачуццём шкадавання загадаў адвесці мяне ў флігель. Я зайшоў у пакой, у якім магла-б схавацца ўся хатка разам з дахам, дзе я выгадаваўся.

Я амаль нічога не рабіў у гэтым маёнтку. Да позняга лета я маляваў пана і паню. Пані пакутвала ад мігрэні—у гэткія дні яна не пазіравала. Пан быў таксама заняты. У мяне тут часам з'яўлялася адчуванне нявольніка. Да мяне заходзіў упраўляючы маёнткам. Ён кожны раз намякаў, што хацеў-бы, каб я напісаў з яго партрэт.—Гэта трэба прарабіць тайком,— казаў ён,—пакручваючы свае даўгія вусы, бліскучыя і тлустыя ад фіксатуара.

Тады я намаляваў гэтага дзеда. Пазнаёміўся я з ім у той час, калі ён вызваліў са шкоды карову. Мне хацелася тады даць закончаны малюнак пад назвай: „У шкодзе". У гэтым малюнку павінен быў фігураваць гэты дзед у той самы момант, калі ён выплачваў адкупныя за сваю карову, але ў мяне не хапіла смеласці выканаць гэта. Мой пакой часта наведвалі, і я ўсёроўна не змог-бы закончыць работы.

Вось дзе знаходжуся я з агітцягнікам.

(Канец будзе ў наступным нумары)

З яўрэйскай мовы пераклаў
*Ізраіль Плаўнік*

---

Б. КАВАЛЕНКА

# НА ШЛЯХАХ ТВОРЧАЙ ПЕРАБУДОВЫ

Пастанова ЦК ВКП(б) ад 23 красавіка 1932 г. аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый поўнасцю датычыцца і да ўкраінскай совецкай літаратуры.

Асноўныя недахопы РАПП і ВоАПП знайшлі сваё адлюстраванне і ў рабоце пролетарскіх арганізацый УССР—Усеукраінскага саюза пролетарскіх пісьменнікаў „ВУСПП" і „Маладняка".

Групаўшчына, неразуменне задач паварота да актуальных праблем сучаснасці, недаацэнка творчасці совецкіх пісьменнікаў і праяўленне ў адносінах да яе лявацкага вульгарызатарства, тэарэтычныя памылкі,—усё гэта было характэрна для ВУСПП і „Маладняка" апошняга перыяда іх існавання.

Цалкам абураючы артыкул аб совецкім паэце М. Цярэшчэнка напісаў П. Колеснік, які праявіў недапушчальны лібералізм у адносінах да „Невялічкай драмы" В Підмогільнага, але які з імклівай „артадоксіяй" накінуўся на М. Цярэшчэнка, параўноўваючы яго вершы з выказваннямі буржуазнай прэсы.

За апошнія гады існавання „ВУСПП" (1931—32 г.) нямала „заезжательских" артыкулаў і нататак з'явілася ў украінскай „Літаратурвай газеце". Усе яны будаваліся па старому ўзору—адшукваліся „ідэалагічна-нявытрыманыя" выказванні адмоўных герояў таго або іншага твора і выказванні прыпісваліся самім аўтарам. У лепшым выпадку давалася крытыка па прынцыпу: што аўтар не паказаў.

Тэрарызаваны вульгарызатарскай крытыкай пісьменнік, паспешна ўстаўляў у свае творы спецыяльныя „тлумачэнні" для крытыкі, якія ў папулярнай форме паказвалі сутнасць апісваемых ім падзей, пералічвалі ўсе грамадскія арганізацыі і гэтым самым знарок спрашчалі псіхалогію персанажаў. Практыкавалася ВУСППаўскай крытыкай таксама захвальванне пісьменнікаў сваёй групы, што, зразумела, мала садзейнічала творчаму росту літаратуры.

Творчая перабудова украінскай совецкай літаратуры адбывалася ва ўмовах абвостранай класавай барацьбы.

Палітычныя двурушнікі, буржуазныя перараджэнцы, агенты класавага ворага расставілі сваю агентуру і на ўчастку літаратуры. Пад кіраўніцтвам партыі буржуазныя нацыяналісты былі канчаткова выкрыты, як контррэволюцыянеры, якія рыхтавалі інтэрвенцыю супроць СССР. Досыць яскрава выявілася і сутнасць нацыяналістычнага ўхіла Скрыпніка, які змыкаўся з нацыяналістычнай контррэволюцыяй і інтэрвенцыяністкай буржуазіяй.

Совецкія пісьменнікі, якія падпалі пад уплыў нацыяналізма, павінны былі ўлічыць вопыт класавай барацьбы на новым этапе і зразумець, куды вядзе нацыяналістычны шлях развіцця літаратуры, які старанна рэкламаваўся Хвылёвым і іншымі агентамі буржуазнага нацыяналізма.

У гэтых умовах стаць на платформу совецкай улады—гэта азначае рашуча парваць з нацыяналістычным лагерам і яго ідэалогіяй. Палітычныя разыходжанні з нацыяналізмам былі неабходнай прадпасылкай творчай перабудовы той часткі пісьменнікаў, якая ў мінулым уваходзіла ў нацыяналістычныя літаратурныя арганізацыі ці змыкалася з імі.

У сваіх палітычных выступленнях і ў мастацкіх творах рад пісьменнікаў дэкларавалі разрыў са сваімі ранейшымі літаратурна-палітычнымі ўстаноўкамі, падмацоўваючы дэкларацыі сваёй творчай практыкай.

На актуальным матэрыяле класавай барацьбы і соцыялістычнага будаўніцтва асноўныя кадры совецкай літаратуры, якія актыўна змагаліся супроць нацыяналізма, стварылі рад новых твораў. На аснове актыўнага ўдзела ў практыцы класавай барацьбы і соцыялістычнага будаўніцтва совецкія пісьменнікі паказалі не толькі ідэйны, але і творчы рост, як мастакі, якія павышаюць соцыялістычную якасць совецкай літаратуры.

Паварот да актуальнай тэматыкі соцыялістычнага будаўніцтва ўзняў на больш высокі ідэйна-мастацкі ўзровень творчасць рада украінскіх паэтаў, як старога пакалення, так і больш маладых.

Соцыялістычнаму будаўніцтву прысвячае цыкл вершаў „Чэрнігаў“ П. Тычына.

„Мой сябра рабочы водзіць мяне па гораду і расказвае“—так называецца першы верш зборніка. П. Тычына паказвае, як рэволюцыя змяняе не толькі выгляд буйных індустрыяльных цэнтраў, але і глыбокай перыферыі, ломіць застарэлыя патрыярхальныя ўстоі, стварае новае жыццё, узбагачанае творчай думкай будаўнікоў соцыялістычнай грамады.

Де хілілась вербичка у полі,
Там тепер паротягове депо.
Проходят рейки через по
Летят історыю історять
Учора ще-ж „раби“.
Сэгодні глянь, як твердо творять
Філософію доби.
Через річку ліниву ісяйну
Що мутна-ж та рзслаблена уся
Нова вже мисль явілася
Мережно-птужна стекла й стисла
Мисль напоріста
Перекинулась повісла
В формі дужого моста“.

Рэволюцыйную пераробку правінцыяльнага ў мінулым Чэрнігава П. Тычына падае ў цеснай сувязі з агульным фронтам класавай барацьбы, як частку соцыялістычнага цэлага.

У цыкле „Чэрнігаў“ вы знойдзеце вершы аб 1905 годзе і памфлеты супроць „родненькіх паноў“, „сукіных сабак“, якія скачуць заграніцай танец тэрора, сатыру на саюзніка замежнай буржуазіі—шкоднікаў і гімн большэвізму, які зганяе са свайго шляху апошніх прадстаўнікоў старога ладу.

Справа не толькі ў соцыялістычнай пераробцы Чэрнігава—„Старая Украіна“ павінна пераіначыцца і П. Тычына абвяшчае „патрыётам“ і „мяшчанам“, што „не супакоімся мы да таго часу, пакуль з поля ўвесь бур'ян не будзе вырван“, ён клянецца „клятваю жалезнай, што ні адзін вораг не выратуецца“ ад рукі рэволюцыі.

Ліберальны і гуманны ў мінулым, паэт знаходзіць яркія фарбы для перадачы пафаса класавай нянавісці.

Калі ў ранейшых сваіх вершах П. Тычына часта карыстаўся абстрактна сімвалічнымі абагульненнямі (алегарычныя вобразы плуга, ветра з Украіны), дык у цыклі „Чэрнігаў“ ён вельмі часта будуе абагульненні на канкрэтным матэрыяле.

Паварот да класавай практыкі соцыялістычнага будаўніцтва (у Тычыны з'яўляюцца і вершы, напісаныя ў калгасах з прычыны канкрэтных і разам з тым тыповых падзей калгаснага жыцця) дапамагае паэту па-новаму і больш поўна, чым на папярэдніх этапах свайго творчага развіцця, асмысліць вядучыя тэндэнцыі рэволюцыйнай рэчаіснасці. Невыпадкова ў яго новых вершах паўтараецца тэма партыі, а апошні зборнік выходзіць над назвай „Партыя вядзе“:

Проти мурів, проти молу,
В нас бадьорість комсамолу...
Ще й підмога йде:
З більшовиченкої ери
Піонеры, піонеры,
Партия веде.
Партия веде.

Складанасць творчага паварота П. Тычыны заключаецца ў тым, што Тычына—паэт вялікай своеасаблівай мастацкай культуры, якая складалася гадамі. Яму трэба праверыць элементы гэтай культуры на новым матэрыяле, у святле новых задач паказа соцыялістычнай рэчаіснасці з тым, каб не толькі захаваць, але і развіць лепшыя творчыя асаблівасці сваёй паэзіі.

Не разумеючы ўсёй складанасці задач творчай перабудовы такога своеасаблівага паэта, як П. Тычына, некаторыя крытыкі, і як гэта не дзіўна, самі паэты проста абмінаюць гэтую праблему і абвінавачваюць усю новую паэзію П. Тычына ў схематызме і паўтарэнні старых установак і прыёмаў.

Сапраўды асваенне новага матэрыяла, выпрацоўка новага падыхода да яго не даецца Тычыне без цяжкасцей: у яго можна знайсці элементы схематызма ў паказе рэволюцыйнай рэчаіснасці і элементы падкрэсленага публіцыстычнага словатворства:

„Нехай Европа кумкае,
А в нас одна лиш думка е:
Одна, одна турбація
Традыцій підрізацыя
Колектывізацыя.—

Але ў той-жа час Тычына бярэ правільную ўстаноўку на захаванне ў сваёй паэзіі навейшага перыяда характэрнай для яго музычнасці, спалучэння мастацкай прастаты з высокай фармальнай арганізаванасцю верша.

Пародыйныя матывы плясавой песні ўрываюцца ў сатырычныя памфлеты П. Тычыны, прысвечаныя „укр-варшаўскаму смеццю“ („обернися порося на карася“); у такім-жа песенным стылі, які нагадвае вядомыя кампазіцыі Тычыны на тэксты „Слова аб палку Ігаравым“, паказаны перажыванні дзяўчыны-трактарысткі:

Дим димок ад машин
Мов дівочі літа...
Не той тепер Миргород
Хорол-річка не та.
Літом я робіла в полі,
А як вснижило тіль-тіль,
Я товарышок питала“
Поступала ув артиль.

Песенна-лірычная форма верша атрымлівае драматычнае гучанне, калі паэт паказвае сутычку трактарысткі Алесі Кулік і яе таварышоў з справацыраваным кулакамі натоўпам жанчын, якія спрабавалі сарваць калгаснае ворыва.

П. Тычына своеасабліва перадае пафас і героіку рэволюцыі, але дадатныя рысы яго паэзіі навейшага перыяда не здымаюць неабходнасці барацьбы за перамаганне элементаў схэматызма і дэкларацыйнасці, мясцамі захаванага яшчэ эстэцтва і „адваротнага боку“ эстэцтва—наўмыснага „апрашчэння“ і агрублення вобраза.

Блізкі да Тычыны па метаду асваення совецкай рэчаіснасці М. Церэшчэнка за апошнія гады не выступаў з новымі зборнікамі вершаў, але ён выпусціў ітогавую (за 10 год) кнігу „Паэзіі“, якая паказвае багаты і цікавы шлях паэта да асваення рэволюцыйнага матэрыяла. Церэшчэнка напісаў рад больш позніх вершаў, якія часткова вышлі ў рускім перакладзе (выдавецтва „Советская литература“). Паколькі мы ўжо давалі агульную характарыстыку творчага шляху М. Церэшчэнка, абмяжуемся толькі аналізам апошняга этапа развіцця паэта, які прадстаўлен у кнізе „Паэзіі“ цыкламі „Рэспубліка“ і „Парыў“, а таксама радам новых вершаў. Як і П. Тычына, М. Церэшчэнка, пераходзячы да тэматыкі соцыялістычнага будаўніцтва, захоўвае свае індывідуальныя творчыя асаблівасці, у прыватнасці схільнасць да сімвалічнай абстракцыі, якая павінна перадаць вялікасць і размах рэволюцыі, раскрыць яе асаблівы, глыбокі сэнс.

Ноткі сімвалізма ўносяць элемент непатрэбнага „отстранения“ ў паказ героікі соцыялістычнага будаўніцтва, часамі нават крыху затушоўваюць асноўную рэволюцыйную ідэю твора. Так, напрыклад, мяркуючы па пачатку верша „Рэспубліка“ можна думаць, што паэт сумняваецца ў шляхах рэволюцыі, хоць фактычна (калі ўзяць верш цалкам) гутарка ідзе аб пафасе соцыялістычнай працы.

Тыя вершы М. Церэшчэнка, дзе ён падае мастацкае абагульненне на аснове канкрэтнага паказа рэволюцыі і яе людзей, больш поўна раскрываюць сутнасць совецкай рэчаіснасці, чым усякія „стыхійніцкія“ алегорыі.

У гэтым кірунку развіваецца і сам М. Церэшчэнка, як і П. Тычына, у тых выпадках, калі ён звяртаецца да практыкі соцыялістычнага будаўніцтва (асабліва гэта імкненне вызваліцца ад традыцый сімвалізма праяўляецца ў новых вершах. М. Церэшчэнка, напісаных пасля пастановы ЦК ВКП(б) ад 23 красавіка 1932 г.).

Новыя вершы М. Церэшчэнка сведчаць аб яго далейшым мастацкім росце.

М. Церэшчэнка ўнікае наўмыснай публіцыстычнасці, характэрных для яго ў мінулым празаізмаў.

Лірычныя лозунгі, якія сустракаюцца ў М. Церэшчэнкі і ў яго новых вершах, уваходзяць у вобразную тканіну паэзіі, а не застаюцца публіцыстычнымі прывескамі да яе:

Спинився поїзд серед поля.
– Чого стоїш,
Затримав рух?
Не зупинятися ніколі
Серед найбільших завірюх!
Таке мое постійне гасло
Що непокоїть кожну мить.

Творчая перабудова совецкай літаратуры выклікала да жыцця і раданачальніка украінскага футурызма М. Семенко, які пасля доўгага маўчання рашыў перайсці ад традыцыйнай для яго „дэструкцыі“

мастацтва да „канструкцыйных“ задач выкарыстання паэзіі ў інтарэсах гераічнай барацьбы за соцыялізм.

М. Семенко вяртаецца ў літаратуру праз газету. Ён выдае зборнік „публіцыстычных вершаў“—„Міжнародныя справы“, які стаіць ужо на больш высокім ідэйна-мастацкім узроўні, чым старыя „каблепаэмы“ М. Семенко, напісаныя ў аднаўленчы перыяд.

У новым зборніку М. Семенко працуе над жанрам соцыяльнай лірыкі, спалучаючы агітацыйнасць, палітычную завостранасць вершаў з мастацкай вобразнасцю:

Далеко, далеко
в штормах
океан
простори пінявих
хвиль
хлюпається в рифах
екзотики туман,
бурі
й тропичный штиль.
Філіпіни,
Гавайа,
Коралові
Острови...
А в нас—
Дніпро, мовляв,
Ворскла и Жмеринка
...Стосуются й нас-це
Знаеце ви?
Маневри
Тихоокеанского флоту Америки!

(„Уступны верш“ з цыкла „Амерыканскія апавяданні“).

„Эго-футурыст“ і крайні індывідуаліст, які прысвеціў вялікую частку нават сваёй найбольш яскравай рэволюцыйнай паэмы „Тав. Сонца“ ўласнай асобе, у „Амерыканскіх апавяданнях“ звяртаецца да аб'ектыўнай рэчаіснасці—паказвае амерыканскіх пролетарыяў (Джон, які працуе ў СССР, і яго таварыш Джэкобсон, які застаўся на радзіме), у цікавай і арыгінальнай форме перапіскі сяброў паказвае працэс рэволюцыянізавання іх свядомасці. Джон, які сумняваецца ў творчых магчымасцях Совецкага Саюза, ператвараецца ў актыўнага будаўніка соцыялізма, а яго калега Джэкобсон—у барацьбіта за пролетарскую рэволюцыю ў Амерыцы. У зборнік М. Семенко ўваходзяць і лірычныя памфлеты, накіраваныя супроць капіталістычнага Захада—дасціпная пародыя на прамову Гітлера і інш. Ужо на канкрэтным факце класавай барацьбы М. Семенко раскрывае соцыяльную сутнасць капіталістычнага ладу, паказваючы пры гэтым канкрэтную спецыфіку буржуазнай „дзяржаўнасці“ і яе афіцыяльнай ідэалогіі ў пэўнай краіне. М. Семенко намацвае метад вырашэння асноўнай для яго праблемы—спалучэння ўласцівага яму фармальнага наватарства ў духу „левай“ паэзіі з соцыяльна-завостраным рэволюцыйным зместам.

Праблема формы і зместа з'яўляецца надзвычайна актуальнай для розных плыняй і адценняў сучаснай украінскай совецкай паэзіі, яна робіцца прадметам ажыўленай дыскусіі паэтаў розных кірункаў. Так, напрыклад, у украінскай „Літаратурнай газеце“ з'явіўся артыкул аднаго з прадстаўнікоў старога пакалення украінскай паэзіі М. Рыльскага, у якім ён абараняе дакладны, арганізаваны верш ад нападаў прыхільнікаў „раздерганного и всклокоченного“ верблюда („Нататкі паэта“, Украінская „Литературная газета“, № 12 ад 18/IV—34 г.).

Праблема вершаванай формы становіць сабою не толькі тэарэ-

тычную цікавасць. Мы ўжо гаварылі аб тым, што рад буйных совецкіх паэтаў, якія сталі на шлях перабудовы, адчувае на сабе ўяўленне старых літаратурных напрамкаў, якія перашкаджаюць перадачы якасна новай спецыфікі совецкай рэчаіснасці.

Мы-б не далі поўнага уяўлення аб своеасаблівасці шляхоў перабудовы старога пакалення украінскай совецкай літаратуры, калі-б не сказалі аб новай прадукцыі М. Рыльскага, аднаго з ідэолагаў буржуазна- нацыяналістычнай групы „нэокласікаў“ ў мінулым.

Апошні зборнік М. Рыльскага „Знак терезів“ адкрываецца прадуманай і дакладна сформуляванай, па параграфах „Дэкларацыяй абавязкаў паэта і грамадзяніна“, дзе М. Рыльскі заяўляе аб разрыве з ідэйна-творчымі пазіцыямі рэакцыйнай ізаляцыі ад совецкай рэчаіснасці, характэрнай для буржуазна-нацыяналістычных прыхільнікаў „чыстага мастацтва“.

§ 1. Мусиш ти знати, з ким
Виступаєш у лаві.
Мусиш віддати їм
Образи й тони яскраві,
Мусіш свае імя
Там написати ясна,
Де мільйонне сіяе
Клас.

Паэт заклікае „ачышчаць шлях для новай тэматыкі“, сцвярджае што „нацыя толькі трамплін да яднання ўсіх нацый“, вітае маладую „змену“, проціпастаўляе совецкую рэчаіснасць капіталізму (цыклы „На тым березе“ і „На гэтым березе“), але асноўная праблема, якая стаіць перад Рыльскім, і якую ён у зборніку „Знак терезів“ яшчэ не вырашыў—гэта знайсці новыя мастацкія сродкі для вырашэння дэкларыванага паэтам ідэйнага паварота.

Нове життя, новага прагне слова,
А де знайти, як дати плоть и кров?

Гэту праблему наўрад ці можна вырашыць па рэцэпту самога паэта паломніцтва на завод, па вырабу цвікоў, што на вуліцы Андрэя Заліўнога. І вуліцу трэба выбіраць больш новую, і нельга абмяжоўвацца дэкларацыямі аб перабудове і публіцыстычнай схемай у трактоўцы рэволюцыйных матываў. Іменна гэты першы этап перабудовы і характарызуе многія вершы М. Рыльскага накшталт яго „Гімнаў працы і сонцу“ ці наіўнага проціпастаўлення паднявольнай працы старадаўніх нявольніц „разумным паслухмяным машынам“ соцыялістычнага прадпрыемства. Вельмі прымітыўныя часамі і „рэволюцыйныя“ вобразы М. Рыльскага накшталт „гіганцкай розы-колектыў“. М. Рыльскі ў сваёй перабудове праходзіць этап, які ўжо даўно прайшлі рад іншых совецкіх паэтаў.

Каб дагнаць далёка пайшоўшую наперад совецкую літаратуру, М. Рыльскаму трэба яшчэ шмат папрацаваць над сваім ідэйнатворчым пераўзбраеннем. Да рэчы і ў першай пасля двух дзесяткаў гадоў літаратурнай работы на аснове старых традыцый перабудоўчай кнізе „Знак терезів“ (дарэчы гэты вобраз няўдала сімвалізуе нашу эпоху) можна знайсці не толькі дэкларацыі, але і намётку паэзіі новага соцыяльнага гучання.

Так М. Рыльскі модэрнізуе свае ўлюбёныя матывы лірыкі прыроды, выражаючы ў старой форме новыя для яго настроі:

То хмарка набіжить, і брызне дож кроплистий,
Ясною вільгістю обббризкавиш цвітінь,
То сонце выглене ласково-променисте,

Знов сховаються, і знову дож і тінь.
Живи, разгор¬айся, липкий зелений листе,
Буяй, нове життя серед могил і тлінь,
А ти заблуканий, забудь життя двоисте,
Пісні одспіванні одспіванним покинь".

Цікавыя таксама тыя вершы М. Рыльскага, дзе ён па-новаму падыходзіць да гістарычнай тэматыкі, якая таксама займала ў яго творчасці вялікае месца.

У вершы „Спаборніцтва" М. Рыльскі класічным вобразам вайны (у стылю палоцен Леанардо-да-Вінчы і Мікель Анджэло) проціпастаўляе карціну мірнай радасці працоўных, якія вярнуліся пераможцамі з апошняга боя супроць капіталістычных драпежнікаў.

За апошнія гады з новымі зборнікамі вершаў выступілі комсамольскія і маладзёжныя паэты: П. Усенко, Л. Первомайскі, І. Семіваліс, І. Вірган, А. Кіпштэйн і іншыя.

П. Усенка аднавіў творчую работу пасля доўгага перапынку.

Адразу-ж за ітогавым зборнікам „Паэзіі" (1922—1932 гг.) ён выдаў кнігу „Лірыка боя", у якой сабраны яго новыя вершы. Асноўнае для „Лірыкі боя"—пераход ад простай і часамі прымітыўнай песеннай формы да больш складанай і кваліфікаванай, рознастайнай па сваёй структуры.

У зборніку „Лірыка боя" П. Усенка аперыруе драматызаванымі рытмамі, якія змяняюцца і перадаюць дынаміку мыслі паэта, напружанасць дзеяння.

Любімая тэма П. Усенка—паказ магутных соцыяльных сутычак (імперыялістычная і грамадзянская вайна), якія прыводзяць у рух шырокія масы.

У гэтых вершах шмат яшчэ абстракцыі, схематызма, але Усенка можа і некалькімі штрыхамі даць адчуць спецыфіку ваённай абстаноўкі:

„А сніг на чернь та на Черноддя
Із білим хрускотом лягав—
Полки підпрягують поводдя
Перед бойовищем заграв.
. . . . . . . . . . . . .
І враг—ті-та-тііі...,
По конях! По конях!
(Світанки густі...
На ворога білога, прямо, в рейд
Вперед!
  уперед!
    уперед!
      уперед!
И гнуться загати
Ворожого стану.
Ми ворога в море,
Товарищу Сталін,
І сотні на конях,
І цюкот підков.
— Веде нас товарищ,
Віталь Примоков!

(„Рэйд червоних козаків—Фатеж Понир").

Энергічныя рытмы верша, моцна і экономна пабудаваныя вобразы вельмі добра перадаюць каларыт кавалерыйскай атакі, напружанасць і героіку боя.

Асноўныя цяжкасці для П. Усенка пачынаюцца тады, калі ён бярэцца за тэматыку соцыялістычнага будаўніцтва, адчуваецца, што яму, як і раду другіх маладых паэтаў, не хапае дэтальнага ведання матэ-

рыялу. Не гаворачы ўжо аб рыфмаваных лозунгах, накшталт „гарманізацыі", нават вершы П. Усенка пабудаваны на канкрэтным матэрыяле („Карты пяцігодак", „Сонцастан"), надта агульныя і павярховыя, іх вобразы губляюць свежасць і арыгінальнасць, робяцца штучнымі: „Заірзалі на лугах плугі" „Мудрасць барацьбы напампоўвае" (ад слова „помпа"—насос і г. д.).

Павярхоўнае, схематычнае ўяўленне аб соцыялістычным будаўніцтве ўласціва і Л. Первамайскаму, не гаворачы ўжо аб тым, што матывы будаўніцтва сустракаюцца ў яго вершах даволі рэдка.

Значную частку свайго новага зборніка „Пралог да гары" Л. Первамайскі прысвячае Паміру, „Харкаўскім элегіям", дэкларацыйнай лірыцы, якая вызначае адносіны паэта да сучаснасці і розных філасофскіх праблем.

Кожны з такіх вершаў сам па сабе цікавы з пункту погляду выяўлення псіхалагічнага тыпа прадстаўніка маладога пакалення рэволюцыйнай інтэлігенцыі (Л. Первамайскі гаворыць аб сабе, што ён „новых людзей новая падобнасць", але ўзятыя ўсе разам, яны ствараюць даволі аднастайнае ўражанне, бо далей паказа свайго „я" ў розных, па сутнасці падобных адзін да аднаго варыянтах у сваёй „філасофскай" лірыцы не ідзе.

Влітку року цього дев'ятьсот тридцать другого
Я блукав на памірських стежках,
Я сидіти звик на коні
Я дивитись звик на высоку межу виднокругу
І бачити сонце, що висить у далині,
Блискуче і звичне, як бомба, що абвисала
Поясок мій тугий.
І тоді тільки я зрозумів
Гору та височінь.
З рознахнутих стаень,
Виривалися вітри з ущелин.
Не зразу-б я міг,
Росповісти про те, що можна тількі відчути
В самому собі що з'являеться раз на віку.

На фоне прыгожага Паміра, у эфектнай позе бясстрашнага змагара супроць стыхіі прадстаўляе сябе аўтар чытачу.

У „Харкаўскіх элегіях" гэтае-ж аўтарскае „я" ахутваецца дымкай суму, паэт шкадуе аб „вясёлай маладосці", якая была паэту „на радасць і на бяду".

Філасофскія сентэнцыі Л. Первамайскага сформуляваны зазвычай тонка і эфектна, але даволі павярхоўна і часамі шаблонна.

Прэтэнцыёзнасць—другая рыса, якая зніжае дзейнасць і мастацкую пераканальнасць філасофскіх абагульненняў Л. Первамайскага. Яму больш удаюцца вершы аб канкрэтных падзеях і тыпах рэволюцыі, напрыклад, аб скромным комсамольскім актывісце Чыкаленка, вобраз якога пададзен аўтарам з вялікай цяплынёй і паэтычным чуццём:

Мы носили гвинтівку
в осінніх
голодних походах.
Мы сворбали борщі
з куркульського казана,
мы не знали про полив,
чи злякаио стриманий подих
І далекою, стежкою
жаль
збентежений
нас обминав.
Мы співали пісень

на замислених відпочинках.
Голас твій
був не кращий
за всі голоси
і вчинки твої.—
Це були звичайні вчинки листя
як звичайне буває листя
яворів чи осин.

(„НЕСПОДІВАНА МАТИ“).

Арыгінальна пададзен вобраз „нечаканай маці“ Чыкаленка, якая з'явілася, як снег на галаву, у ячэйку і прад'явіла свае правы на памершага сына.

Гэтага ведання рэволюцыйнай рэчаіснасці Л. Первамайскаму, аднак, часта не хапае і тады ён зварачаецца да дэкларацый і к „беспредметнаму—лірызму“, праз які прарываюцца ноткі „ячаства“ (гэтай рысе паэзіі Л. Первамайскага, дарэчы сказаць, наследуе хто-ні-хто з літаратурнай моладзі, напрыклад Л. Копштэйн).

Адсюль няроўнасць паэзіі Л. Первамайскага, частая змена яркай социяльна-актуальнай і арыгінальнай лірыкі з перапевамі агульнавядомых літаратурных матываў.

Як і куды расце маладое пакаленне паэтаў навейшага перыяда?

Менш за ўсё трэба іхную творчасць падводзіць пад якую-небудзь загадзя ўстаноўленую схему, але было-б няправільным не заўважваць некаторых агульных тэндэнцый развіцця маладой паэзіі і цяжкасцей яе роста.

Літаратурная моладзь шырока ахапляе соцыяльна-актуальны матэрыял.

Соцыялістычная індустрыялізацыя і пераробка вёскі, інтэрнацыянальныя матывы (Чырвоная армія, праблема новага побыта і новага чалавека — любімая тэматыка А. Копштэйна („Жадаем, імкнемся, можам“, 1933 г.), І. Семівалоса („Мой заклік“, 1934 г.), І. Віргана („Узброеная лірыка“, 1934 г.).

Тэматычны размах гэтых паэтаў, аднак, далёка не заўсёды спалучаецца з глыбінёй асваення матэрыяла. Калі чытаеш вершы І. Семівалоса, А. Капштэйна, прысвечаныя соцыялістычнаму будаўніцтву, дык раней за ўсё кідаецца ў вочы, што паэты ўвогуле правільна пералічаюць асноўныя адзнакі будаўніцтва, часамі нават аперыруюць фактычнымі данымі (І. Семівалос напісаў цыкл лірычных вершаў, якія паказваюць розныя этапы Днепроўскага будаўніцтва: „Спаборніцтва берагоў“, „Праток“, „Пляцоўка А“ і г. д.), але пры ўсім гэтым паэты коўзаюцца па паверхні, не ўмеюць расказваць цікава, не выяўляюць характэрных асаблівасцей матэрыяла, аб якім яны пішуць.

Гэтую заўвагу можна аднесці і да цыкла чырвонаармейскіх вершаў І. Віргана. Добрасумленна, часамі нават з залішняй дэталізацыяй паказвае ён які-небудзь падход, эпізоды з жыцця Чырвонай арміі, але не ўмее з ўсяго гэтага матэрыяла выбраць істотнае і перадаць яго ў мастацкай форме.

У рэзультаце атрымліваецца лірычная фактаграфія.

Хваробы роста маладой паэзіі паступова перамагаюцца. З большым ці меншым поспехам маладыя паэты пачынаюць авалодваць майстэрствам мастацкага абагульнення.

У зборніку А. Копштэйна ёсць узорная ў гэтых адносінах паэма „Англійская мова“, дзе на канкрэтным факце (англійскія маракі дапамагаюць рускім рабочым датэрмінова пагрузіць параход і атрымаць устаноўленую прэмію валютай) паказана інтэрнацыянальная салідарнасць рабочага класа.

На канкрэтным матэрыяле сучаснай вёскі ставіць праблему старога і новага І. Вірган.

Соцыялістычная пераробка вёскі не толькі пераіначвае яе традыцыйныя пейзажы (дом комуны на фоне „зацейлівага лабірынта— вулак, якія прыводзяць у нейчы агарод"), але і ператварае людзей з учарашніх дробных уласнікаў ва ўдарнікаў соцыялістычнага земляробства. Новыя, соцыялістычныя адносіны да працы прымушаюць дзяўчыну, якая спазнілася на выхад у поле, пакутліва перажываць свой прагул („Загулялася"). Ператвараецца ў ударніцу старая бабуля, якая разумее розніцу паміж ранейшым прыгонам і цяперашняй соцыялістычнай працай.

Пачуццё агульнай адказнасці за работу ў калгасе прымушае загадчыка гаспадаркі варожа паглядаць на хмарку, бо яна пагражае сарваць малацьбу. Лірыка Віргана сапраўды узброена веданнем людзей, уменнем арыгінальна і па-новаму падыйсці да тэмы, і ў гэтых адносінах І. Вірган ярка вылучаецца сярод іншых маладых паэтаў.

Наогул-жа літаратурная моладзь (да яе неабходна залічыць і рабочых-ударнікаў) значна пасунулася наперад у творчых адносінах і зрабілася актыўным удзельнікам барацьбы за творчую перабудову літаратуры.

(*Канец у 11 нумары*).

---

АЛ. НЕКРАШЭВІЧ

# БЕЛАРУСКІ ДРУГІ ДЗЯРЖАЎНЫ ТЭАТР

## ДРУГІ ПЕРЫЯД ПРАЦЫ БДзТ-2

*СЕЗОН 1927-1928 г.*

Зусім зразумела, што стаўшы з першых крокаў сваёй працы на няправільныя пазіцыі, тэатр зайшоў у тупік. Разрыў, які атрымаўся паміж тэатрам і гледачом, прыводзіў справу да свайго лагічнага канца, а іменна да смерці тэатра, як мастацкага калектыва, бо „пастаянныя прыхільнікі Беларускага тэатра" не маглі быць базай для яго існавання, ды і самыя гэтыя „прыхільнікі" з кожным новым крокам паспяховага соцыялістычнага будаўніцтва ўсё больш і больш трацілі глебу пад нагамі. Адным словам, тэатр або павінен быў перабудавацца, або загінуць як мастацкі калектыў.

Пратэсты пролетарскай грамадскасці і асабліва тое, што тэатрам непасрэдна заняўся ЦК КП(б)Б, прымусіла НКА змяніць кіраўніцтва тэатрам. Гэта быў першы крок да аздараўлення маладога тэатральнага арганізма.

Наступным крокам павінна была быць рэзкая перамена рэпертуарнай палітыкі. Справа ў тым, што тагачаснае кіраўніцтва НКА заняла самую рашучую лінію на недапушчэнне на сцэну беларускага тэатра рускай і асабліва р у с к а й  с о в е ц к а й  д р а м а т у р г і і. Што заўгодна—толькі не руская і не совецкая драматургія. Гэта было адно са звенняў агульнай лініі беларускай контррэволюцыі на адрыў беларускай культуры ад рускай совецкай культуры, з арыентацыяй замест яе на заходнееўрапейскую і ў прыватнасці на польскую буржуазную культуру. І ўжо змененаму кіраўніцтву тэатра давялося вытрымаць надзвычайна вялікае супраціўленне НКА пры адборы рэпертуара для наступных пастановак. Аднак, дзякуючы падтрыманню пролетарскай грамадскасці, і ў прыватнасці тав. Кнорына, тэатру ўдалося ўключыць для працы тэатра вядомую ўжо ў той час на рускай сцэне п'есу Б. Лаўрэнева „Разлом".

Пастаноўкай „Разлома", без перапавялічэння можна сказаць, пачалася новая эра ў тэатры. Нездарма пасля „Разлом" быў не толькі любімым спектаклем працоўнага гледача, але і любімым спектаклем лепшай часткі акторскага калектыва. Гэты спектакль трымаўся на сцэне тэатра да самых апошніх дзён.

Пастаноўка „Разлома" была даручана маладому маскоўскаму рэжысёру С. Г. Разанаву. Афармлен спектакль мастаком-архітэктарам Г. Гольцам, які з гэтага спектакля цесна ўвайшоў у творчую працу БДзТ-2. Музыка была напісана кампазітарам Палавінкіным. Увесь спектакль быў афармлен ва ўмоўна-рэалістычных тонах, аднак, ужо сам матэрыял спектакля вымагаў ад тэатра новага падыхода да яго трактоўкі. Гэты матэрыял быў настолькі рэалістычным, што прымяненне ранейшых метадаў працы было ўжо немагчымым. Гэта яшчэ лішні раз пацвярджала палажэнне, што характар рэпертуара ў вельмі моцнай меры вызначае характар і самога тэатра. Аднак, зусім зразумела, што такі рэзкі пераход не даўся тэатру дарам: актор, прызвычаены да роляў усякага роду „надземных" персанажаў, не зусім

спраўляўся з персанажамі зямнымі, асабліва такімі, як матрос Гадун і ўвогуле матросы з „Зары“. Адсюль яшчэ слабасць распрацоўкі паасобных роляў: цяжка было, глядзеўшы спектакль, сказаць, хто з актораў зрабіў ролю лепш, які з персанажаў больш яскравы ў акторскай інтэрпрэтацыі. Затое ўвесь спектакль быў зроблен роўна, ён вызначаўся роўнасцю акторскага ансамбля і асабліва злажаным быў у масавых сцэнах, якія тэатру і рэжысёру ўдаліся безумоўна.

Такі паварот тэатра да рэволюцыйнай драматургіі быў сустрэты пролетарскай грамадскасцю з надзвычайнай прыхільнасцю і нават, больш таго, з уздымам, за якім часам не заўважаліся „першародныя“ грахі тэатра. Першай адзнакай такой змены адносін да тэатра быў масавы паход гледача ў тэатр. „Разлом“ ішоў фактычна да канца сезона ў Менску пры перапоўненай зале, прычым рэзка змянілася і аблічча гледача,—гэта быў пераважна рабочы менскіх фабрык і заводаў.

Не менш уважліва да новай пастаноўкі аднёсся і пролетарскі друк. „Звязда“ амаль на другі дзень пасля прэм'еры пісала ў рэцэнзіі Льва Літвінава: „Шырокія масы працоўных павінны і будуць бачыць гэты звонкі спектакль, які свежыць бадзёрасцю марскога ветра, а тэатр павінен памятаць, што „Разлом“ ёсць і яго „разлом“—што гэта піонер новага шляху, і трэба зараз узяць цвёрдую ўстаноўку на п'есы соцыяльнай тэматыкі, пільна прыглядзецца да выбара фармальнага ўзора спектакля ў цэлым і ігры актораў. Па-першае, пабольш самакрытыкі, па-другое, пабольш культуры і майстэрства, ігры і пастаноўкі, па-трэцяе, стварэння арыгінальнага рэволюцыйнага рэпертуара, па-чацвертае, сувязь з совецкай грамадскасцю—вось лозунгі для БДзТ-2—аднэй з багацейшых крыніц тэатральнай культуры ў БССР („Разлом“—„Звязда“ 103(2910), 6 мая 1928 г.).

Б. Аршанскі ў цэнтральнай яўрэйскай газеце БССР „Акцябр“ з прычыны новай пастаноўкі БДзТ-2 пісаў: „Увогуле тэатр вышаў з гэтай небяспекі. Як першая п'еса, на якой малады тэатр павінен быў пераламаць сябе і пераскочыць ад „отвлеченной“ і голай формы на канкрэтны змест,—яна цалкам удалася. Тэатр даў нам пафас эпохі. Ён перанёс нас у распаленую атмасферу таго часу. Другі і трэці акты, як па зместу, так і па рэжысёрскай трактоўцы і ігры актораў—лепшыя акты. Яны запальваюць гледача нечуваным рэволюцыйным энтузіязмам, яны ўцягваюць яго ў падзеі, яны кроўна зацікаўліваюць яго лёсам сваіх галоўных герояў, яны ўцягваюць яго ў ігру... Паказ асвяжае, запальвае. Ён прымушае з вялікай сімпатыяй і чуласцю адносіцца да маладога тэатра, які востра і сумленна павярнуўся тварам да мас.

Гэта першы пачатак новай эры ў нашым БДзТ-2. І таму такі, што ў тэатры новая эра, неабходна дапамагчы яму ў яго працы на новым шляху, неабходна ахоўваць яго ад тых небяспек, якія могуць давесці яго да ступені правінцыяльнага тэатра, якія не дадуць яму развівацца і паглыбляць тыя фармальныя дасягненні, якія ён мае“.

Як недахопы тэатра друк адзначаў некаторую неаднастайнасць стылю спектакля. Так, напрыклад, калі ролі ўсіх станоўчых персанажаў былі страктаваны рэалістычна, дык адмоўныя (адмірал, матрос-дэлегат, эсэр, Швач) былі страктаваны некалькі шаржыравана і нават гратэскова (асабліва дэлегацыя з адміралам). Быў яшчэ нанос тэй плыні, якая ў свой час даволі шырока была распаўсюджана і атрымала назву сцэнак „разложения буржуазии“. Так была страктавана ў спектаклі сцэна ў доме камандзіра крэйсера Берсенева.

Пасля „Разлома“ у БДзТ-2, між іншым і ў другіх тэатрах, вельмі востра паўстала праблема рэпертуара. Справа ў тым, што ў гэты час

мы амаль не мелі высокаякаснай беларускай совецкай драматургіі. У рускай драматургіі пасля своеасаблівага ўздыму восенню 1927 г. таксама панавала некаторае зацішша. Выбіраць асабліва не было з чаго. Таму БДзТ-2 спыніўся на досыць прымітыўнай, але на той час актуальнай, п'есе рускага драматурга Юр'іна „Калі спяваюць пеўні".

Змест гэтай п'есы не складаны. У Германію варочаецца з падарожжа ў СССР рабочая дэлегацыя, у сваім складзе пераважна соцыял-дэмакратычная. Рабочыя гэтай дэлегацыі Ландэцкі, Шаф, работніца Марта і канцылярыст Блюменаў, пабыўшы ў СССР, убачылі сваімі вачыма, наколькі іх абманвала соцыял-дэмакратыя, ствараючы навакол краіны соцыялізма кучу самай нахабнай хлусні і правакацыі. Дэлегаты, асабліва Ландэцкі і Марта, узрушаны ўсім бачаным і збіраюцца расказаць пра гэта паслаўшым іх рабочым. Такі настрой дэлегатаў страшна непакоіць кіраўніцтва соцыял-дэмакратычнай арганізацыі, на чале з прафесарам Гальбэ, дзяльцом Райнеке і вышыбайлай Курцам. Не менш непакоіць настрой дэлегатаў і фабрыканта Мегелькраўта. Каб сарваць мітынгі, прымусіць дэлегатаў гаварыць не тое, што яны бачылі, а тое, чаго хочацца соцыял-дэмакратам і іх гаспадару Мегелькраўту, пускаюцца ў ход усе сродкі. Паступова, але досыць лёгка, здаецца Блюменаў, пазней, ад страху перад беспрацоўем і голадам сваёй сям'і здаецца і стары Шаф. І толькі Ландэцкі непрымірымы. Тады навакол яго ствараецца атмасфера таго, што ён нібы падкуплен. Подкупамі і пагрозамі соцыял-дэмакраты прымушаюць засведчыць гэта дэлегатаў Шафа і Блюменава. Згаджаецца на такое пацверджанне і Марта. Соцыял-дэмакратам актыўна дапамагае ў гэтай правакацыі фабрыкант Мегелькраўт. Прафесар Гальбэ, „правадыр" партыі, увесь час жадае „и невинность соблюсти и капитал приобрести". „Абарона" інтарэсаў рабочых не перашкаджае яму прыняць у падарунак ад фабрыканта Мегелькраўта праз яго дачку аўтамабіль. Пра гэта ведае кітаец-комуніст У-Чан-Фан, які перадачу аўтамабіля лідэру соцыял-дэмакратыі Гальбэ зафатаграфаваў. Соцыял-дэмакраты лічаць справу ўладжанай і смела ідуць на рабочы сход, на якім Ландэцкі павінен рабіць свой даклад. На сходзе соцыял-дэмакратам абвяшчаюць аб тым, што Ландэцкі падкуплен. Гэта сцвярджаюць Блюменаў і, пасля доўгага хістання, Шаф. Марта, якая назнарок прыкінулася згоднай з кіраўніцтвам соцыял-дэмакратычнай партыі, у самы крытычны момант выкрывае правакацыю, а У-Чан-Фан сваімі фотаздымкамі даказвае падкупнасць на першы погляд непадкупнага лідэра партыі прафесара Гальбэ. Ландэцкі рэабілітаваны. У-Чан-Фан у захапленні хоча сказаць, што і для нямецкіх рабочых скора настане зара, але не знаходзіць слоў і кажа, што скора і ў нас настане час, калі „спяваюць пеўні". Адсюль назва п'есы.

Як бачым, нават па зместу п'еса была досыць прымітыўнай. Вобразы ў ёй былі намечаны схематычна. Усё гэта не давала матэрыяла для акторскага і рэжысёрскага майстэрства. Аднак, нават пры ўсіх гэтых хібах п'есы трэба прызнаць выбар яе тэатрам правільным, паколькі гэта п'еса працягвала занятую ад „Разлома" тэатрам лінію пераключэння на рэволюцыйную драматургію.

Ставіў п'есу малады рэжысёр тэатра, вылучаны з акторскага калектыва М. Міцкевіч. Афармлен спектакль, дарэчы, вельмі ўдала мастаком архітэктарам Г. Гольцам, музыка дырыжэра тэатра І. Гітгарца. Такім чынам і другой асаблівасцю характэрны гэты спектакль— гэта вылучэннем кіруючых кадраў з самога калектыва тэатра.

К часу пастаноўкі „Калі спяваюць пеўні" сам тэатр быў яшчэ на нейкім пераломе. Па-першае, горшыя традыцыі мхатаўшчыны не былі

яшчэ выжыты, па-другое, ужо амаль увесь акторскі калектыў пераканаўся, і пастаноўка „Разлома“ яскрава пацвердзіла, што толькі ў новым рэволюцыйным рэпертуары трэба шукаць выхада з таго тупіка, да якога дайшоў тэатр к часу пастаноўкі „Апраметнай“, стаўшы з гэтай п‘есай на мяжы антысовецкага тэатра. Прызвычаены і выхаваны на перадачы драбнюткіх нюансаў разнастайных перажыванняў актор ужо ў „Разломе“ павінен быў працаваць па-інакшаму, робячы вобраз шырокімі мазкамі, тым больш, што самы матэрыял „Разлома“ не даваў магчымасці такой нюансіроўкі. „Калі спяваюць пеўні“ была яшчэ больш схематычнай. Трэба было знаходзіць выхад. Гэты выхад быў знойдзены ў... фармалізме, які і пазней, як убачым, складаў і складае галоўную небяспеку на шляху гэтага тэатра. Гэты фармалізм у першую чаргу сказаўся ў трактоўцы адмоўных вобразаў. Гальбэ, Райнеке, Курц былі страктаваны ў плане масак у процілегласць station... станоўчым вобразам Ландэцкага, Марты, У-Чан-Фана і часткова Шафа. Ён, нарэшце, гэты фармалізм сказаўся ў цэлым шэрагу прыёмаў, якія не ўскрывалі сутнасці паводзін і падзей людзей, а адыгрываліся на вонкавых эфектах паасобных палажэнняў. Аднак і гэты спектакль пазней ў сілу проста актуальнасці ў той час сваёй тэматыкі прыхільна прымаўся рабочым гледачом.

Пастаноўкай „Калі спяваюць пеўні“ скончыўся другі сезон працы БДзТ-2.

Вынікі гэтага сезона:

1) Тэатр сур‘ёзна пачаў перабудоўвацца, становячыся з аплота контррэволюцыйнае нацдэмаўшчыны сапраўдным совецкім тэатрам. Гэтая перабудова была вынікам жорсткай крытыкі пазіцый тэатра пролетарскаю грамадскасцю.

2) Творча тэатр пачаў зжываць дрэнныя традыцыі мхатаўскай культуры, крытычна адносіцца да яе і шукаць новага шляху ў сінтэзе сваёй школы і сучаснага рэпертуара, прычым у працэсе гэтых шуканняў выявіў наяўнасць фармалістычных тэндэнцый.

3) Тэатр паступова пачаў набліжацца да рабочага гледача, лічыцца з ім і на яго пераважна працаваць.

4) Тэатр, як і ўсе іншыя тэатры ў тую пару, перажываў рэпертуарны крызіс і сваіх драматургаў яшчэ не знайшоў—не выхаваў.

## ТРЭЦІ СЕЗОН ПРАЦЫ 1928-1929 гг.

(*Гомель-Магілеў*)

Трэці сезон сваёй працы БДзТ-2 распачаў у Гомелі.

У рэпертуар гэтага сезона са старых пастановак былі ўключаны „Цар Максімільян“, „Сон у летнюю ноч“, „У мінулы час“, „Каля тэрасы“ (у новай рэдакцыі і апрацоўцы), „Разлом“, „Калі спяваюць пэўні“ і вечар мініатур. З новых пастановак былі абвешчаны „На прадвесні“ Ільінскага, „Рэйкі гудуць“ Кіршона, „Гайавата“ Огнёва.

Сезон быў годам далейшага пералома ў працы БДзТ-2 і характарызаваўся асабліва жорсткаю барацьбою на ўсіх участках мастацтва і культуры ў БССР.

Ужо ў перыяд незадоўга пасля пастаноўкі ў БДзТ-2 „Апраметнай“ і зараз-жа пасля пастаноўкі „Каля тэрасы“ на тэатральным фронце мела месца наглая вылазка нацыянал-дэмакратаў ва ўжо цытаваным лісце „сямі“, а таксама ў артыкуле Тодара Глыбоцкага „Пра нашу крытыку“.

Восень 1928 г. характарызавалася далейшымі наглымі вылазкамі беларускай нацдэмаўшчыны на тэатральным фронце. Пачалося гэта

нібы з безабіднай рэцэнзіі таго-ж Тодара Глыбоцкага на пастаноўку ў БДзТ-1 п'есы Іванова „Бронецягнік“. У гэтай рэцэнзіі Т. Глыбоцкі ахайвае пастаноўку тэатра, прычым асноўным аргументам яго з'яўляецца тое, што нібы п'еса ўжо ўстарэла і, што беларускаму гледачу няма справы да таго, што рабілі і перажывалі сібірскія партызаны. Не атрымаўшы адпаведнага адпора, Глыбоцкі больш прама і адкрыта выступае са сваёй „праграмай“ у артыкуле „Даволі анекдотаў“. Тут ён, нібы дбаючы пра савецкі беларускі тэатр, піша: „Першым і самым грозным недахопам у нас з'яўляецца рэпертуарны голад. Няма п'ес, якія можна было-б прыняць да пастаноўкі ў нашым акадэмічным тэатры. П'ес няма... А калі мы паглядзім на тыя п'есы, што аказаліся годнымі, што мы ўбачым? Мы ўбачым пераклады, якія адышлі ў Маскве, ці ў Ленінградзе, паспелі там надакучыць ці ўстарэць. „Калі спяваюць пэўні“, „Луна злева“, „Мяцеж“, „Разлом“, „Бронецягнік“, „Савецкі чорт“—цэлая паводка, на якой, нібы ўбогія чаўны, хістаюцца паасобныя, заслугоўваючыя ўвагі (паколькі могуць заслугоўваць увагі ўсякія недаедкі) „Бронецягнік“ і „Разлом“—добрыя п'есы, яны стварылі эпоху ў расійскім тэатры. Але няўжо наш тэатр даў падпіску развіцца менавіта на тых этапах, якія дае нам расійскі тэатр. Чаму гэта беларускаму гледачу важней паднесці барацьбу сібірскіх партызанаў, чымся вывесці на сцэну сваіх барацьбітоў“. Такім чынам, канстатуючы недахоп рэпертуара, Глыбоцкі лічыць недаедкамі ўсё лепшае, што было ў той час у рускай савецкай драматургіі. Што-ж ён раіць нашым тэатрам замест маскоўскіх аб'едкаў? Гэта, па-першае, п'еса Ролана „Ваўкі“ („Гэта п'еса ставіць найглыбейшую праблему“), па-другое п'есу М. Зарэцкага „Віхор на балоце“ („П'есу варта было паставіць; яна і сваім зместам і кампазіцыяй куды больш адпавядала задачам тэатра, чымся ўстарэлая, напісаная „на выпадак“ п'еса „Калі спяваюць пэўні“), па-трэцяе „Пакрыўджаныя“ Родзевіча, па-чацвертае, „некаторыя з Купалавых п'ес“ і, нарэшце, п'есы украінскага рэпертуара („Калі ўжо так крута стала справа з уласным рэпертуарам, чаму не запазычыць некаторыя п'есы украінскага рэпертуара“).

Мы назнарок прывялі досыць доўгія вытрымкі з артыкула Глыбоцкага, бо ён, гэты артыкул, з'яўляецца поўнай праграмай беларускай контррэволюцыйнай нацдэмаўшчыны ў дачыненні да беларускага тэатра.

Глыбоцкі ў гэтым артыкуле катэгарычна адмаўляе беларускаму тэатру ў праве мець якую-б там ні было сувязь з рускім тэатрам. А дзеля таго, што такая сувязь у першую чаргу магла быць ажыццёўленай праз рэпертуар, дык Глыбоцкі стараецца ў першую чаргу ашэльмаваць гэты рэпертуар, як „аб'едкі“ і як нецікавыя для працоўнага гледача Беларусі. Такім чынам, тут простая лінія на адрыў беларускай савецкай культуры ад культуры рускай, прычым культуры таксама савецкай. У „аб'едкі“ рускай драматургіі Глыбоцкі залічвае лепшыя для таго часу развіцця рускай савецкай драматургіі рэчы („Бронецягнік“, „Разлом“, „Мяцеж“), рэчы, якія былі этапнымі для таго часу. Ён ніяк не адносіць да „аб'едкаў“ такія рэчы, як „Зойкина квартира“, „Бег“ Булгакова ды інш. Тут поўная салідарнасць з былым дырэктарам Красінскім, які лічыў, што „Зойкина квартира“ і ёсць тое, па чым трэба раўняцца беларускай драматургіі.

Замест раўнення на пролетарскую Маскву, Глыбоцкі зусім выразна дае арыентыроўку на капіталістычны Захад. Праўда, на гэты раз ён гэта робіць так-жа завуалявана, як і ў сваёй навеле „Вецер з усходу“. Ён, бачыце, аб'ектам арыентыроўкі абірае імя Ролана, але гэта так толькі, для прыліку, асабліва, калі ўважліва прааналізаваць той твор („Ваўкі“), які ён раіць узяць у Ролана.

Глыбоцкі, вядома, за „самабытную“ драматургію. Ён раіць тэатрам „Віхор на балоце“ Зарэцкага, „Пакрыўджаныя“ Родзевіча і „некаторыя з Купалавых п‘ес“. Вядома, што стварэнне арыгінальнай беларускай совецкай драматургіі задача пачэсная, аднак тое, што раіў Глыбоцкі, спадабалася яму іменна таму, што яно было „самабытным“. Што гэта так, стане зразумелым з кароткага пераказа хаця-б той-жа п‘есы „Віхор на балоце“ Зарэцкага. Дзея адбываецца ў совецкім горадзе, праўда, як пабачым пазней, гэтае заключэнне можна зрабіць толькі таму, што ў аўтарскай рэмарцы да першай дзеі сказана, што яна адбываецца ў часе „першамайскага свята за горадам“. Здавалася-б, што ў совецкім горадзе павінны быць і совецкія людзі, аднак, іх у п‘есе няма. Досыць аднаго толькі пералічэння дзейных асоб, каб пабачыць, што гэта так. Вось яны, гэтыя дзейныя асобы совецкага горада па Зарэцкаму: Барбара—гандлярка, Мяркуловіч—былы чыноўнік, Санька—шавец-п‘янчужка, Васька—Дудзін, хлюст, бабка—Пілаціха-пляткарка, Нюся і Люся—мяшчаначкі. Мяшчане ў падзёўцы і ў фрэнчы і нарэшце, як становучыя персанажы, Даніла, які толькі і заняты, што сваімі амурнымі справамі, і Ганна—дзяўчына-работніца таксама не вельмі далёка адышоўшая ад Нюсі і Люсі, і толькі ў „масе“ дзейнічаюць рабочыя, комсамольцы, піонеры і інш. Аднак і іхняе „дзейства“ гэта толькі праход па сцэне і абрамленне для асноўных персанажаў п‘есы. Ужо толькі гэтага даволі, каб паказаць, што совецкі горад малюецца Зарэцкім, як горад былых чыноўнікаў, люмпен-пролетарыяў і мяшчан. Такая характарыстыка горада не далёка ад такой-жа характарыстыкі яго нацдэмаўскімі публіцыстамі. Што да Купалавых п‘ес, дык яны ўсе вядомы і аб іх многа не варта гаварыць: гэта „Раскіданае гняздо“—напоўсімвалічная нацыяналістычная характарыстыка дарэволюцыйнай Беларусі і зусім акрэслена нацдэмаўская „Тутэйшыя“. „Пакрыўджаныя“ Родзевіча, апрача таго, што драматургічна слабая рэч, былі парочнымі і ў тым сэнсе, што давалі народніцка-нацдэмаўскую інтэрпрэтацыю вызваленчай барацьбы.

Вось якім быў той „самабытны“ рэпертуар, які раіў замест „маскоўскіх аб‘едкаў“ беларускаму совецкаму тэатру „самабытны“ Глыбоцкі.

Глыбоцкі ў сваім праграмным па сутнасці выступленні быў далёка не адзінокім. На яго артыкул безадкладна адгукнуўся другі барацьбіт за „самабытнасць“ З. Жылуновіч артыкулам „Заўвагі к часу“, у якім, між іншым, ён цалкам салідарызуецца з устаноўкамі Т. Глыбоцкага ў тэатральнай справе і з М. Зарэцкім па пытаннях кіно. „Нам здаецца, што ў тав. Глыбоцкага думкі блізкія і роўныя думкам М. Зарэцкага. Пастаноўка тая самая“—піша ён.

Такім чынам палітычны сэнс усіх выступленняў у так званай тэатральнай дыскусіі зводзіўся да наступных палажэнняў: першае, беларускі тэатр павінен адмовіцца ад якой-бы там ні было сувязі з тэатрам рускім, па-другое,—у сваёй працы ён павінен арыентавацца на заходне-еўрапейскую культуру (буржуазную, вядома), ён павінен выносіць на сцэну толькі самабытны рэпертуар, і чацвёртае, паколькі ўсё-ж гэтага самабытнага рэпертуара не хапае, можна запазычыць рэпертуар украінскі, вядома, блізкі сэрцу па сваіх устаноўках нацдэмаўскаму сэрцу. Такім чынам тут мы маем і пэўную кансалідацыю нацыяналістычных сіл і Беларусі і Украіны, што пазней было цалкам пацверджана арганізацыйнай сувяззю паміж СВУ і СВБ.

Яшчэ адна дэталь. Ставячы пытанне аб самабытнасці беларускага тэатра, беларуская нацдэмаўшчына ахвяроўвала тэатр на мастацкі занапад, на правінцыяльную абмежаванасць, бо самаізаляцыя ад перадавога ў свеце рускага совецкага тэатра іншакшых вынікаў даць не магла.

Пры такіх умовах пачынаў сваю працу БДзТ-2 у 1928-1929 г.

Рашучы паварот яго на совецкую тэматыку, на выкарыстанне лепшага, што было ў той час у драматургіі братніх рэспублік, не выклікаў, вядома, асаблівага задавальнення ў нацдэмаўскіх крытыкаў і гледачоў. Характэрная дэталь. Калі да пастаноўкі „Разлома" ў рэцэнзіях нацдэмаўскія крытыкі велічалі БДзТ-2, праўда, невядома чаму, акадэмічным, дык пасля пастаноўкі „Разлома" і „Калі спяваюць пэўні" гэты „чын" з тэатра амаль здымаецца.

Выхаваны на досыць моцна прывіваемых у студыйны перыяд і першы перыяд працы нацыяналістычных тэорыйках, калектыў тэатра не мог не рэагаваць на выступленне Глыбоцкага. І калі фармальна ён асуджаў яго, з агаворкай, што „навошта так востра ставіць пытанне", дык у практычнай рабоце праяўленні салідарнасці з Глыбоцкім былі досыць частымі і актыўнымі. Яны, гэтыя праяўленні, знаходзілі свае выражэнне як у простым супраціўленні новаму рэпертуару, так і ў змаганні за трактоўку як паасобных вобразаў, так і цэлых п'ес.

Вось як характарызуе „Палеская праўда" ўнутранае становішча тэатра незадоўга пасля „тэатральнай дыскусіі": „яны хацелі бачыць у „На прадвесні" „самабытную" вёску гадоў на 40 назад; яны не хочуць бачыць новыя фактары сучаснай вёскі: класавую барацьбу, дыферэнцыяцыю і г. д.

На гэтай глебе рабіліся нават спробы папярэдня апрацаваць грамадскую думку супроць гэтай пастаноўкі. Толькі пад аднадушным націскам пролетарскага гледача п'еса аднадушна прызнана ўдачнай, красачна перадаючай жыццё і быт сучаснай беларускай вёскі.

Зараз тэатр рыхтуе добрую п'есу з рускага рэволюцыйнага рэпертуара—„Рэйкі гудуць" Кіршона. Ці ўсё благапалучна ўнутры калектыва ў сувязі з гэтай безумоўна патрэбнай п'есай у нашым тэатры? Здаецца, што не.

Чым вытлумачыць сістэматычную траўлю, якая вядзецца некаторымі з тэатральнага калектыва і сім-тым па-за ім, супроць мастацкага кіраўніка тэатра. Нам скажуць, што гэта тлумачыцца буйным норавам некаторых актораў; магчыма што і гэта мае месца, але не гэта галоўнае. Галоўнае ў тым, адкуль ідзе карэнне гэтых „буйных нораваў" і на якой глебе растуць гэтыя „буйныя норавы". Мы катэгарычна лічым, што гэтыя „норавы" на даны перыяд цвітуць на глебе „глыботчыны"...

Па сутнасці ідзе барацьба за другую ідэалагічную лінію ў тэатры, супроць таго зруху ў бок сучаснасці, які маецца ў тэатры за апошні год, пастаноўкай „Разлома", „На прадвесні" і другіх п'ес. І калі гэтая барацьба раней насіла глыбока скрыты характар, дык цяпер яна прымае легальныя формы, шляхам апрацоўкі грамадскай думкі, скарыстання друку і інш." („Палеская праўда" № 287 (2573).

Як бачым, аналогія з агульным становішчам у часе „тэатральнай дыскусіі" і з устаноўкамі Глыбоцкага поўная.

Першай новай пастаноўкай гэтага сезона ў БДзТ-2 была п'еса М. Ільінскага „На прадвесні". Апрацаваная досыць слаба аўтарам, яна грунтоўна была перапрацавана мастацкім кіраўніком тэатра С. Г. Розанавым, які і ставіў гэтую рэч у тэатры пры мастацкім афармленні мастачкі Н. Айзенберг і музыцы маскоўскага кампазітара Оранскага. Змест гэтае п'есы не складаны. У глухую палескую вёску варочаецца дэмабілізаваны чырвонаармеец Платон. Вёска амаль цалкам у кулацкім засіллі,—кулакі Мацей, які прыкрываецца шыльдай серадняцтва, і былы крамнік Яўхім пакуль верхаводзяць усім. Платон абраны аднак сакратаром сельсовета, якім кіруе няўпэўнены ў

сабе серадняк Піліп. Сродкам эксплаатацыі ў Мацея з'яўляецца ягоны вятрак. Хлопцы-комсамольцы, на чале з Платонам, арганізуюцца, каб на ветраку пабудаваць электрычную станцыю. З запалам маладосці яны бяруцца за гэтую, на першы погляд, не так ужо і вялікую задачу. Яны праз свайго вынаходца Арцёма мараць нават пра той час, калі іх вёска будзе мець нават сваю радыёстанцыю, праз якую яны прымусяць Амерыку слухаць, як у іхняй вёсцы дзяўчаты спяваюць. Мацей у гэтым скромным мерапрыемстве бачыць пагібель для сябе і робіць правільную стаўку на дыскрэдытацыю ў першую чаргу Платона. Сітуацыя яму дапамагае. Платон, закаханы ў дачку старшыні сельсовета Параску, адначасова адчуваючы сябе недастаткова пісьменным, вучыцца ў мясцовай настаўніцы. Да Паракі заляцаецца адначасова з Платонам сын Мацея. Аднак Параска аддае перавагу Платону. Тады ў ход пускаецца вясковая пляткарка, варажбітка Порхаўна, якая паказвае Парасцы, што яе Платон ноччу сустракаецца з настаўніцай. Параска з-за рэўнасці згаджаецца выйсці замуж за сына кулака Антося. Адбываецца вяселле. У часе вяселля Платон сустракаецца з Параскай, і тут высвятляецца непаразуменне з настаўніцай: Платон саромеецца таго, што ён вучыцца, і таму сустракаецца з настаўніцай для заняткаў на млыне. Параска згаджаецца пакінуць свайго мужа і ісці да каханага ёю Платона. Сцэну гэтую падглядае Антось і, калі Платон ідзе ад Параскі па справах сельсовета, забівае яе. Кулацкая зграя прыпісвае забойства Платону з тым, каб яго дыскрэдытаваць, але пасля напружанай абстаноўкі справа высвятляецца і комсамольцы на чале з Платонам перамагаюць.

У п'есе, як бачым, дзве сюжэтныя лініі, але яны ўмела пераплятаюцца і дзейнічаюць адна на другую.

П'еса адлюстроўвала час, калі вёска толькі смутна падыходзіла да вялікага паварота і калі кулацкае засілле ў глухіх кутках было яшчэ досыць моцным. Яна, аднак, на вельмі нескладаных прыкладах (прымітыўная электрафікацыя), паказвала тыя маладыя і бадзёрыя сілы вёскі, якія пазней пад кіраўніцтвам партыі рабілі вялікую справу калектывізацыі вёскі, і таму яна хвалявала гледача, спадабалася яму. Па сваіх жанравых даных гэта была меладрама, аднак, напоўненая новым зместам, досыць далёкая ад заштампаванай слязлівай меладрамы старых часоў.

Пастаноўка „На прадвесні" была сустрэта вельмі прыхільна крытыкай. Вось што пісаў пра пастаноўку рэцэнзент „Палескай праўды": „Зрабіць сцэнічную п'есу жыцця вёскі, увогуле, нялёгка... Дынаміку гэтага жыцця (вясковага) улавіць не так лёгка. Але вось яно падгледжана і адлюстравана. Гэта совецкая па сутнасці вёска: тут калектывізацыя, перадавы чырвонаармеец, млын імя Чарвякова, радыё. Гэта беларуская вёска" (И. Ивин. „На прадвесні" ў БДзТ-2", „Палеская праўда", № 269, 1929 г.).

Таксама станоўча расцаніў гэтую пастаноўку тэатра і рабочы глядач. Ён, па-першае, быў самым актыўным наведвальнікам пастаноўкі, а таксама выказаў свае погляды на старонках той-жа „Палескай праўды". Вось што пісалі гледачы пасля прэм'еры: „Калі глядзіш „На прадвесні", яскрава бачыш новую вёску, у якой скрозь нараджаючаеся светлае жыццё праглядаюць цёмныя плямы старога быту" (Бляхер і Аршанская, фабрыка „Везувий"). „Паглядзеўшы п'есу, магу сказаць, што тыя, хто гаворыць аб беларускім тэатры адмоўна, проста памыляюцца альбо наўмысля займаюцца падрывам тэатра. На спектаклі гэтым не адчуваеш сябе стомленым, а гатовы глядзець да рання. Я нібы сядзеў не ў тэатры, а быў на вёсцы" (Крыштафук,

„Рухавік рэволюцыі“). „У „На прадвесні“ вёска была, як яна ёсць. Цудоўна выканаў сваю ролю чырвонаармеец-адпускнік, які з'явіўся лепшым прыкладам ідэй, пастаўленых і правадзімых нашай партыяй у вёсцы. Раю ўсім рабочым паглядзець гэтую рэч, якая ў поўным сэнсе слова з'яўляецца мастацкай рэччу“ (Казелецкі, „Чырвоны мельнік“—„Палеская праўда“).

Так некалькі павышана ацаніў рабочы гледач Гомеля гэтую новую пастаноўку БДзТ-2. Гэтыя шчырыя, нават некалькі незаслужаныя пахвалы былі таму, што тэатр своечасова і шчыра па меры сваіх магчымасцей праўдзіва паказаў кавалак вясковага жыцця, жыцця, у якім ужо ў той час наспяваў вялікі перадом.

Пазней, калі жыццё далёка апярэдзіла самыя смелыя меркаванні, калі вёска рашуча стала на шлях калектывізацыі, цэлы рад рэчаў, што паказваліся ў гэтай п'есе, вядома гучэў наіўна, але-ж і п'еса была толькі пра „Прадвесне“, калі вялікая вясна толькі сабралася прыходзіць. Гэта ўлічваў і тэатр і імкнууся асучасіць п'есу, але пакольк матэрыял п'есы быў зусім акрэслены, вядома з гэтай справы нічога, апрача „прыспасабленчаства“, выйсці не магло. І калі п'еса з гэтымі папраўкамі, страціўшы сваю свежасць і не набыўшы нічога, што яе асучасіла-б, была паказана ў 1931 г. у Маскве, дык крытыка расцаніла гэты спектакль адмоўна, назваўшы яго „запоздавшей пьесой“. Гэта правільна да спектакля ў 1931 г. так сама, як правільна была і станоўчая ацэнка спектакля для 1928 г., калі ён упершыню быў паказаны рабочаму гледачу Гомеля.

Для другой пастаноўкі гэтага сэзона тэатр абраў вядомую п'есу В. Кіршона „Рэйкі гудуць“. Пастаноўка гэтага спектакля была даручана С. Розанаву і К. Саннікаву, мастацкае афармленне спектакля Ю. Гольца і музыка Масолава. П'еса Кіршона добра знаёма працоўнаму гледачу. У ёй Кіршон вельмі ўдала паказаў тыя працэсы, якія адбываліся ў старой інтэлігенцыі, якая ў адной сваёй частцы ўсё мацней і мацней звязвала свой лёс з соцыялістычным будаўніцтвам і ў другой, страціўшы надзею на інтэрвенцыю і на „перараджэнне“ совецкай улады, перайшла ад метадаў сабатажа да метадаў простага шкодніцтва. У „Рэйках гудуць“ паказана пераважна гэта апошняя група. У вялікія чыгуначныя майстэрні вылучаецца дырэктарам рабочы Васіль Новікаў. Непрыхільна сустракаюць яго на новай пасадзе на прадпрыемстве ўсе, пачынаючы ад машыністкі і канчаючы галоўным інжынерам, які не можа прымірыцца з прыходам да кіраўніцтва „чумазага“. Навакол Новікава пачынае закручвацца вузел самых нізкіх інтрыг. Ворагі скарыстоўваюць усе сродкі,—і мяккацеласць інжынера-партыйца і слабасць старшыні заўкома і незадавальненне адсталых рабочых той дысцыплінай, якую пачынае ўводзіць на прадпрыемстве новы дырэктар. Скарыстоўваецца для гэтага і „галаваногі чалавек“—нэпман-Паршын. Адным словам, нялёгка прыходзіцца новаму дырэктару-вылучэнцу і інтрыгі ворагаў застаюцца не без поспеха. Новікаў арыштаваны, але непаразуменне высвятляецца і вызвалены Ноівкаў вврочаецца на прадпрыемства к моманту выпуска новага паравоза, які нібы ілюструе правільнасць занятай лініі дырэктарам Новікавым.

Упершыню „Рэйкі гудуць“ была паказана ў Маскоўскім тэатры МГСПС форменным чынам за некалькі дзён да вядомага шахцінскага працэса. Яна, гэтая п'еса, нібы прадбачыла той лагічны канец антысовецкай інтэлігенцыі і таму была прынята з надзвычайна вялікім уздымам.

БДзТ—2 узяўся за пастаноўку гэтай п'есы некалькі пазней, а іменна восенню 1928 г., аднак і да гэтага часу п'еса не страціла сваёй вастраты.

Першы паказ п'есы быў прыўрочан да 10-гадовага юбілея абвяшчэння БССР, як своеасаблівы гімн соцыялістычнай індустрыялізацыі адсталай раней акраіны царскай Расіі.

Пастаноўка праводзілася ў цеснай сувязі і непасрэднай кансультацыі рабочых галоўных гомельскіх чыгуначных майстэрняў і акрамя гэтай новай якасці ў рабоце тэатра, да гэтага часу нябачанай у яго працы, выявілася і новая якасць. Звычайна праца тэатра над новымі пастаноўкамі была вельмі маруднай і цягнулася часам месяцамі. Паставіўшы перад сабою задачу даць новы спектакль да гадавіны існавання БССР, калектыў тэатра пачаў працаваць сапраўды па-новаму: пастаноўка была рэалізавана за 2 месяцы, тэрмін нечуваны для БДзТ-2.

Гэты спектакль быў сустрэты рабочым гледачом яшчэ з большым уздымам, чым „Разлом" і „На прадвесні", бо гэта была амаль першая пастаноўка індустрыяльнай, калі так можна сказаць, п'есы на сцэне беларускага совецкага тэатра.

Вось як расцэньваўся гэты спектакль „Палескай праўдай" і рабочым гледачом: „Дзве надзвычайна вялікай важнасці праблемы закрануты Кіршонам ў п'есе „Рэйкі гудуць". Па-першае, шкодніцтва той часткі тэхнічнай інтэлігенцыі, якая пасля вядомага ўсім мінулагодняга працэса атрымала ганебную клічку „шахцінцаў", і, па-другое, цяжкасці, якімі суправаджаецца прыцягненне серадняко ў рабочых да кіраўніцтва народнай гаспадаркай, г. зн. па-просту цяжкасці вылучэння... Варта адзначыць з вялікім задавальненнем, што ўсе ролі былі вельмі ўважліва зроблены, нават тыя, якім аўтар не даў моцнага тэмпераменту (паасобныя інжынеры), гучэлі нотамі вялікай жыццёвасці. Можна сказаць нават, што ніводная роля не прапала для гледача... Калі ўлічыць тэрміновасць пастаноўкі і тое, што „Рэйкі" — першая ў рэпертуары БДзТ - 2 вытворча-бытавая п'еса, трэба прызнаць яе поспех вельмі значным і поўнасцю заслужаным". „У гэтай пастаноўцы характэрна адлюстраваны асноўныя моманты ў рабоце нашых заводаў у перыяд разрухі. Роля фабзаўкомшчыка, які не ўжываецца з новым дырэктарам, хоча заваяваць танны аўтарытэт у рабочых, які не лічыцца ні з чым — абмалявана добра. Ужо зараз, некаторых нашых работнікаў, якія жадаюць „подработать" на гэтым танным аўтарытэце, пасылаюць павучыцца на пастаноўцы „Рэйкі гудуць" (А. Казіміраў, дэпо-сартыровачная). „З тэхнічнага боку сцэна надзвычайна добра абстаўлена. Абстаноўка завода пераконвае гледача, што гэта сапраўдны завод і паравоз". (Косой, фабрыка „Окцябр" — „Палеская праўда" № 7, 10 студзеня 1929 г.).

Аднак рабочы глядач адзначаў тут-жа і недахопы як п'есы, так і пастаноўкі тэатра. Ён быў незадаволены некаторай стылявой эклектычнасцю ў афармленні спектакля і, у прыватнасці, сцэн на кватэры нэпмана Паршына, дзе ўсё было занадта шаржыравана і насіла на сабе сляды аналагічнай трактоўкі тэатрам адмоўных персанажаў у п'есе „Калі спяваюць пеўні". Скардзіўся глядач і на некаторую зацяжку паасобных сцэн. Так ці інакш пастаноўкай „Рэйкі гудуць" тэатр замацоўваў лінію, занятую з часу пастаноўкі „Разлома", і дасягаў новых поспехаў.

Пастаноўкай „Рэйкі гудуць" тэатр закончыў свой сезон у Гомелі. Акрамя новых пастановак тэатра „На прадвесні" і „Рэйкі гудуць" у Гомелі былі паказаны: „Разлом" (8 разоў), „Калі спяваюць пеўні" (6 разоў), „Сон у летнюю ноч" (6 разоў), „У мінулы час" (3 разы),

„Вечар студыйных практыковак“ (1 раз), „Цар Максімільян“ (3 разы). Захавана аднак была і такая п'еса, як „Каля тэрасы“, якая, праўда, пасля раду папravak, была паказана 9 разоў.

Наогул у Гомелі тэатрам было дана 75 паказаў і абслужана 50 тыс. гледачоў, з іх 69 проц. рабочых, 21 проц, студэнцтва і моладзі, 7½ проц. чырвонаармейцаў і толькі рэшта прыпала на долю так званага неарганізаванага гледача.

Канец года тэатр правёў у Магілеве, зрабіўшы там новую пастаноўку „Маёмасць“ па аповесці Караваевай „Двор“, апрацаванай для сцэны С. Розанавым. Аднак пры інсцэнізацыі гэтага твора была дапушчана вялікая памылка, а іменна ў пастаноўцы не былі ўлічаны памылкі аповесці і больш таго, яны былі значна паглыблены. Пастаноўка была зроблена наспех, невыразна і нецікава і таму далей генеральнай пробы не пайшла. Гэта была новая буйная няўдача тэатра ў гэтым сезоне.

Аднак усё-ж сезон 1928—1929 г. быў годам далейшага роста тэатра. Гэты рост ішоў па лініі замацавання пазіцый „Разлома“, г. зн. пазіцый сучаснай совецкай драматургіі, пазіцый адлюстравання ў сваёй рабоце асноўных задач, што стаялі ў той час перад краінай. Гэта, далей, быў рост акторскіх кадраў і, што асабліва важна, рост на новай далёка не „божественной“ драматургіі. Як вынік гэтага, тэатр стаў тэатрам рабочага гледача, які палюбіў тэатр, пачаў лічыць яго сваім, прымаць удзел у яго працы, дапамагаць яму як парадай, так і сваёй крытыкай. Нездарма-ж на ад'езд тэатра з Гомеля праводзіць яго прыйшлі не толькі рабочыя Гомеля, але прыехала і вялікая група рабочых з Добруша. Вось як апісваўся гэты прыезд у „Палескай праўдзе“.

„У нядзелю 24 лютага зала цырка прадстаўляла надзвычайны малюнак. Ды не толькі зала. Добрушскія пролетарыі, што прыехалі праводзіць Белдзяржтэатр, у культпаходным парадку падыйшлі да цырка і ўвальваюцца ў сярэдзіну. Але іх звыш 600 чалавек, і шмат часу праходзіць, пакуль будынак цырка увабраў ўсіх іх... Прывітанне дырэкцыі і кароткі рэферат аб сутнасці прадстаячага паказа. Пасля сам паказ. Таксама надзвычайны: без заслоны і без звычайнай формы выражэння настрояў гледача-апладысментаў, якія поўнасцю былі заслужаны. Зала настаражылася. Рабочы Добруша, які зусім нядаўна перажыў вялікую ўстраску, добра пазнаўшы на справе ўсякія рознавіднасці шкодніцтва, бачыць знаёмыя карціны. Успамінаецца сёе-тое з уласнага свежага мінулага і, такава моц мастацкага ўздзейнічання— заражаюцца яны ўражаннямі разгортваўшайся на сцэне драмы. Драмы вылучэнца, акружанага варожасцю, нездавальненнем і неразуменнем, драмы завода... Работа па далейшаму аздараўленню рэальнай фабрыкі—працэс значна больш доўгі, чым аздараўленне паравоза-рамонтнага завода ў „Рэйках“, але палітычнае значэнне іх адно і тое-ж, і пасля гэтага культпахода яно стала для дабрушан яшчэ ясней і дзякуючы гэтаму самы працэс пройдзе быць можа лягчэй... У апошнім антракце развітанне з тэатрам. Прадстаўнікі АСПС, дабрушан, Чырвонай арміі, завода „Пролетарый“, асацыяцыі пролетарскіх пісьменнікаў дзякуюць тэатр за агромную работу па мастацка-палітычнаму выхаванню рабочых і чырвонаармейскіх мас... Пролетарская грамадскасць Гомеля дала заслужаную ацэнку значэння гастроляў Белдзяржтэатра. У выступленнях на развітальным спектаклі заставалася толькі паўтарыць тое, што не раз ужо чулі творцы паказаў „Рэек“ і „На прадвесні“.

## ЧАЦВЕРТЫ СЕЗОН ПРАЦЫ 1929-1930.

*(Віцебск-Менск)*

Замацаванне тэатра ў папярэднія два сезоны на пазіцыях сучаснага рэпертуара працягвалася і ў сезоне 1929-1930 г.

Як ужо было сказана, БДзТ-2 па свайму выхаванню быў сінтэтычным тэатрам. У акторскім майстэрстве, вынесеным са студыі, удала спалучаліся ўсе элементы сучаснага спектакля. У студыйны перыяд яны знайшлі свае выяўленне найбольш яскрава ў спектаклі „Цар Максімільян“. Далейшы рэпертуар ужо ў часе працы тэатра самастойнай адзінкай не даваў магчымасці самага шырокага выкарыстання акторскага майстэрства. А цяга да спектакля, прасякнутага спевам, танцам, песняй была вельмі вялікай і зусім законнай. Перашкодай у рэалізацыі гэтага жадання, паўтараем, была адсутнасць адпаведнага рэпертаура. Ужо ў сезоне 1928-1929 г. рабіліся сякія-такія захады да набыцця такога рэпертуара. Спачатку для пастаноўкі была абрана „Гайавата“ па Лонгфело, апрацаваная для сцэны Н. Огнёвым. Аднак зусім акрэслены курс тэатра на сучасны рэпертуар, а таксама і некаторыя адмоўныя бакі самога драматургічнага твора прымусілі тэатр адмовіцца ад яго пастаноўкі. Прыкладна ў той-жа час драматургам Заяіцкім была прадстаўлена тэатру п‘еса „Простыя сэрцы“. Першы варыянт п‘есы быў досыць сырым, таму тэатр ад пастаноўкі яго зусім слушна адмовіўся.

Пытанне пра пастаноўку п‘есы тыпа аперэты зноў паўстала ў пачатку сезона 1929-1930 г.: тэатр зноў вярнуўся да п‘есы Заяіцкага, даручыўшы яе даапрацаваць рэжысёру тэатра Міцкевічу і Розанаву. П‘еса была даапрацавана і спачатку сезона было прыступлена да яе пастаноўкі мастацкім кіраўніком тэатра С. Розанавым, у мастацкім афармленні мастачкі Хадасевіч.

Сюжэт п‘есы не складаны. Невялічкі гарадок, перапоўнены абывsituалямі і „былымі“ людзьмі. Усе яны па розных прычынах незадаволены ці лічаць сябе незадаволенымі совецкай уладай. Гэтым незадавальненнем карыстаюцца ўсякія прахадзімцы. Наладжваецца нешта падобнае да змовы для таго, каб зрабіць „пераварот“. Пра гэта даведваюцца комсамольцы і моладзь і на вечары імітыруюць абяцаны авантурыстам абывателям пераварот. Абываталь спалохаўся. Ён, бачыце, не супроць совецкай улады, ён толькі часам бурчыць і яму не патрэбны ніякія „пераввароты“. Бадзёрым выхадам моладзі заканчваецца п‘еса.

Тэатр патраціў на пастаноўку „Простых сэрцаў“ шмат часу і энергіі, і спектакль, што і гаварыць, фармальна вышаў цікавым. Аднак сама п‘еса ў сваёй аснове была заганнай, чаго спачатку не заўважылі ні крытыка, ні гледач. Справа ў тым, што аўтары, высмейваючы абывателя, часам вельмі востра і ўдала, самі стаялі амаль на тых-жа абывацельскіх пазіцыях. Матыў, што „сала мала, масла згасла, парасяціны зусім няма“—быў матывам не толькі некаторых персанажаў п‘есы, але часам і матывам аўтароў. Таму спектакль вышаў бяззубым і значныя мастацкія сродкі, затрачаныя тэатрам, білі не туды і не так, як трэба.

Гэтым тлумачыцца тое, што гэты, паўтараем, фармальна вельмі цікавы спектакль, прыняты гледачом Віцебска спачатку вельмі прыхільна, не змог доўга ўтрымацца на сцэне тэатра. Тым не менш ён быў карысным для тэатра, бо даў магчымасць акторам тэатра выявіць усе здольнасці, знітаваць акторскі ансамбль, а гэта асабліва было неабходна яшчэ і таму, што спачатку гэтага сезона ў калектыў ўліліся група свежых актораў, выхаванцаў Ленінградскага тэхнікума сцэнічных мастацтваў, запрошаных замест аслабанёных ад працы

ў тэатры некалькіх няздольных старых студыйцаў, а таксама і тых, хто актыўна праціўіўся перабудове тэатра і ўсякімі спосабамі перашкаджаў ёй.

Для наступнай пастаноўкі гэтага сезона была абрана п'еса В. Кіршона „Горад вятроў“. Пастаноўка яе была даручана мастацкаму кіраўніку тэатра С. Розанаву.

Тэма гэтай п'есы жудасны, няварты чалавека, учынак белагвардзейцаў і англійскіх інтэрвэнтаў—расстрэл 26 бакінскіх камісараў. Тэма, якая прыцягвала і прыцягвае ўвагу ўсіх галін мастацтва. Драматургам гэтая тэма была вырашана досыць просталінейна, а часам і проста схематычна. Аднак п'еса была варта таго, каб заняць пачэснае месца ў рэпертуары совецкіх тэатраў. І выбар яе БДзТ-2 быў зусім правільным. Бяда не ў гэтым. Бяда ў тым, што пастаноўшчык (Розанаў) не зразумеў усёй трагічнай глыбіні адлюстраваных, няхай слаба, у п'есе падзей, не зразумеў суровага пафаса гераічных дзён барацьбы з белымі і інтэрвентамі. Не зразумеўшы ўсяго гэтага, ён пайшоў па старой пратоптанай сцежцы старой маладрамы. Вядома, што няправільна зразумелы аўтарскі замысел і не менш няправільная рэжысёрская інтэрпрэтацыя на тэатры адразу далі сябе адчуць: спектакль вышаў худасочным, рад палажэнняў не быў апраўданы і яшчэ больш прыніжаны. Адным словам спектакль вышаў няўдалым. Тут у поўнай меры сказаліся старыя першародныя грахі тэатра. Прызвычаены працаваць над камернымі речамі, над рэчамі ў значнай ступені прасякнутымі „псіхаложствам“, тэатр не змог у сваёй працы над Кіршонаўскім „Горадам вятроў“ разгарнуць поўнакроўны паказ пафаса і героікі дзён грамадзянскай вайны. Здарылася гэта і таму, што ў адрозненне ад спектакля „Разлома“, у якім недакладнасці ў апрацоўцы роляў паасобных персанажаў п'есы пакрываліся ўдала зробленымі масавымі сцэнамі другога і чацвертага актаў, у „Горадзе вятроў“, дзе патрэбна была ўжо дасканалая апрацоўка ролі кожнага персанажа п'есы, мастацкае ўскрыццё твару жывых людзей, актор тэатра аказаўся, таксама як і пастаноўшчык, не здольным зразумець сутнасць сучаснага чалавека-змагара.

Усё гэта ў выніку дало нецікавы спектакль, не прыняты гледачом, а таму і нядоўга існаваўшы ў рэпертуары тэатра.

Нарэшце трэцяй пастаноўкай гэтага сезона з'явілася п'еса В. Катаева „Авангард“ у пастаноўцы С. Розанава.

Абескуражаны няўдачай з „Горадам вятроў“, тэатр згубіў правільную арыентыроўку і пачаў збівацца на лінію схематызма фармалізма, лінію, якая, як убачым далей, прывяла тэатр да значных правалаў і вялікіх няўдач. У дадатак тэатр, не маючы фактычна чаго паказваць свайму гледачу з прычыны невялікай колькасці новага рэпертуара і няпрыгоднасці значнай часткі старога, прымушан быў працаваць у некалькі павышаным тэмпе, да чаго тэатр к таму часу не быў прызвычаены і спектакль, у дадатак да ўсіх іншых хібаў чыста творчага парадка быў проста-на-проста некалькі сырым і недапрацаваным, а ў спалучэнні з недахопамі самога драматургічнага твора гэта дало нецікавы спектакль, таксама не прыняты гледачом, як і папярэдняя работа тэатра „Горад вятроў“.

Ва ўнутраным жыцці тэатра адбываліся таксама вельмі складаныя працэсы. Пераключэнне яго на сучасную тэматыку, на некалькі больш новыя метады працы, чым гэта мела месца раней у студыйны перыяд, унутранае супраціўленне рада актораў перабудове тэатра давала свае вынікі. Воляй-няволяй ад рада актораў прышлося адмовіцца, замяніўшы іх маладняком, выхаванцамі, хаця і добрай школы, але

ўсё-ж рознай ад МХАТ-2 (Ленінградскі тэхнікум сцэнічных мастацтваў). Гэта ў першы час парушыла ансамбль і роўнасць ігры ўсяго акторскага калектыва, гэта значыць пры тым становішчы, калі асобныя акторы яшчэ не вылучыліся, некаторае зніжэнне акторскага майстэрства. Праўда ў гэты-ж перыяд больш чым раней пачынаецца вылучэнне асобных актораў, але яно было не настолькі значным, каб кампенсаваць агульнае парушэнне акторскага ансамбля.

У дадатак да ўсіх іншых няўдач трэба адзначыць і аслабленне агульнага кіраўніцтва тэатрам, што паглыбляла памылкі яго мастацкага кіраўніцтва.

Акрамя нанова зробленых пастановак тэатр у гэтым сезоне паказваў і свае ранейшыя работы. Як і раней, з вялікім поспехам ішоў „Разлом“, паказаны былі спектаклі „Калі спяваюць пэўні“, „Рэйкі гудуць“, „На прадвесні“, а са студыйных работ „Сон у летнюю ноч“ і ў „Мінулы час“.

На працягу сезона тэатр, апрача Віцебска, дзе ён працаваў большую частку часу, абслужыў яшчэ і Менск.

---

Падводзячы некаторыя вынікі працы тэатра ў гэтым перыядзе, можна прыйсці да наступных асноўных вывадаў:

Па-першае, тэатр досыць рашуча перайшоў на сучасны рэпертуар і гэта адразу дапамагло яму пазбавіцца ад значнай колькасці яго балячак, так характэрных для яго ў першым перыядзе працы і асабліва ў студыйным. Як своеасаблівая рэакцыя на ранейшую рэпертуарную лінію было поўнае адмаўленне тэатра ад класічнага рэпертуара, што для маладога акторскага калектыва было ў пэўнай ступені шкодным, асабліва прымаючы пад увагу рад недахопаў тагачаснай савецкай драматургіі. Адным словам, не была захавана пэўная мера.

Па-другое, змена рэпертуара наблізіла тэатр да рабочага гледача, які пачаў рабіць на тэатр свой, праўда, не заўсёды актыўны, уплыў.

Па-трэцяе, стаўшы на рэйкі сучаснага рэпертуара і адбіраючы для сваёй работы ўсё, што было лепшага ў савецкай драматургіі, тэатр зусім паслабіў работу па стварэнню арыгінальнага рэпертуара і зусім спыніў работу з драматургам. Гэтым толькі можна вытлумачыць той факт, што лепшы драматургічны твор Р. Кобеца „Гута“ не папаў у БДзТ-2, хаця, наколькі нам вядома, спачатку прызначаўся іменна для гэтага тэатра.

Па-чацвертае, гэты перыяд характэрны ростам у тэатры акторскага майстэрства і зусім нармальна нераўнамернага для ўсіх актораў. У спалучэнні з асвяжэннем акторскага склада за лік новых актораў другой тэатральнай школы гэта давала некаторае парушэнне акторскага ансамбля, так характэрнага для тэатра ў пасьлястудыйны перыяд.

Па-пятае, на гэты этап работы тэатра прыпадае абвастрэнне барацьбы з контррэволюцыйнай нацдэмаўшчынай. І калі ўвесь тэатр у асноўным зразумеў яе контррэволюцыйную сутнасць, дык гэта не азначала, што ён радыкальна ачысціўся ад яе. Моцна ўкараніўшыся, нацдэмаўскія тэорыйкі яшчэ бытавалі ў паасобных актораў і работнікаў тэатра і гэта знаходзіла свае выражэнне ў супраціўленні новаму рэпертуару, неразуменні новых задач тэатра з аднаго боку і з другога—у пакіданні ў яго рэпертуары пастановак проста нацдэмаўскіх („Каля тэрасы“) ці з моцнымі нацдэмаўскімі тэндэнцыямі („Цар Максімільян“).

---

**А. УСС.**

## В. Г. ПЕРОЎ

*(1834—1934 г.)*

У канцы жніўня 1934 г. у будынку рускага музея (Ленінград) адкрылася юбілейная выстаўка да стагоддзя з дню нараджэння мастака Васіля Грыгор'евіча Перова, буйнейшага прадстаўніка ідэйнага рэалізма 60-х гг. мінулага стагоддзя.

На выстаўцы сабрана і прадстаўлена да стапяцідзесяці эскізаў, карцін і малюнкаў, на якіх гледач можа лёгка прасачыць увесь творчы шлях мастака.

В. Г. Пероў—па-зашлюбны сын губернскага пракурора, барона Крыдэнера, які разарыўся. Нарадзіўся 4-га студзеня 1834 г. па новаму стылю ў гор Табольску. У доме бацькі мастака часта гасцявалі дэкабрысты, якія знаходзіліся ў ссылцы ў Табольску. Сям'я Крыдэнера была адмоўна настроена супроць бюракратыі прыгонніцкай дзяржавы. Будучы ў Архангельску, бацька мастака напісаў некалькі вольнадумных вершаў, у якіх паказаў губернскую адміністрацыю ў карыкатурна-выкрываўчым выглядзе. Яго ўзненавідзела начальства, і ён прымушан быў падаць у адстаўку і паступіць кіраўніком у маёнтак памешчыка Языкова ў Ніжагародскай губерні. Бацька Перова—Крыдэнер быў надзвычайна культурным і адукаваным чалавекам. Ён валодаў амаль усімі еўрапейскімі мовамі, граў на скрыпцы, фартапіяне, расказваў дзецям казкі і вельмі часта захапляў іх апавяданнямі пра жыццё вялікіх людзей—мастакоў і музыкантаў. Гэтыя абставіны надзвычайна ўплывалі на разумовае і маральнае развіццё будучага мастака. Ужо вучачыся ў арзамаскай школе, ва ўзросце 10-13 год Пероў звярнуў на сябе ўвагу сваімі вялікімі схільнасцямі да малявання. Па сканчэнні школы Пероў паступае ў арзамаскую мастацкую школу Ступіна і паспяхова пачынае займацца жывапіссю і маляваннем.

Выявіўшы поспехі, талент свайго сына, маці Перова ў 1852 г. вязе яго ў Маскву і васемнаццацігадовы Пероў паступае ў школу жывапісі, ваяння і разбярства і пачынае вучыцца і працаваць пад кіраўніцтвам прафэсароў, буйных майстроў таго часу—Зоранка, Скотці, Макрыцкага. У гэтай школе Пероў сустракаецца з вострымі матэрыяльнымі недахопамі. Збяднелы чыноўнік—бацька мастака не меў магчымасці матэрыяльна забяспечыць сына. І малады мастак змушаны быў жыць, прымаючы падачкі ад сваякоў і знаёмых. З першых год сваёй вучобы Пероў прайшоў жорсткі і суровы жыццёвы шлях мастака.

Хатнія абставіны, у якіх Пероў правёў свае дзяцінства, пасля школа, дзе яму прышлося непасрэдна сутыкнуцца з самім жыццём, беднасцю—усё гэта зрабіла спрыяльны ўплыў на развіццё і фармаванне светапогляду будучага вялікага мастака.

Будучы ў Маскоўскай школе, яшчэ на вучнёўскай лаве—Пероў

пачынае ўжо весці барацьбу са старымі аджываючымі формамі акадэмізма ў мастацтве, з яго традыцыямі ў жывапісі. Ён нібы інстынктыўна намацвае новыя шляхі ў мастацтве, тэндэнцыі, адпавядаючыя новым грамадскім адносінам. У той-жа Маскоўскай школе пад канец 1857 г. Пероў стварае сваю першую карціну выкрываўчага парадку „Прыезд станавога на следства“, дзе ўжо ні ў кампазіцыі, ні ў трактоўцы фігур няма ўмоўнага традыцыйнага акадэмізма. Тут ужо—нешта новае, небывалае ў рускім мастацтве. Ад карціны вее сапраўдным жыццём і парасткамі здаровага моцнага рэалізма.

І так, В. Г. Пероў пачаў сваю грамадскую і мастацкую дзейнасць у канцы 50-х і ў пачатку 60-х гадоў XIX века, ён выступіў на арэну ў той перыяд, калі дваранства сыходзіла са сцэны, а на змену яму выступаў новы клас, выходзіў буржуа на шырокую дарогу прамысловага капіталізма. Гэта быў час, калі змацаванні прыгонніцкай структуры ў Расіі хісталіся і валіліся, а разам з імі хісталіся і валіліся векавыя падпоры дваранскага быту, жыцця, мастацтва; хісталіся самыя прынцыпы, крытэры, маштабы ацэнак і поглядаў. Праблема дваранскага стылю ў мастацтве так званага „класічнага акадэмізма“ была вырашана да канца, да перасычэння. На паверхню жыцця выступаў прадпрыемца-буржуа з новымі патрабаваннямі і з новымі поглядамі на свет, на жыццё, на мастацтва. Варушылася і сялянская маса. Моцна давалі аб сабе чуць і яе прадстаўнікі—рэволюцыйныя народнікі-асветнікі. Пад канец 50-х гадоў у літаратуры з'явіліся таленавітыя „Губернские очерки“ — Салтыкова-Шчэдрына, а ў тэорыі мастацтва—славутая дысертацыя Чэрнышэўскага „Эстетические отношения искусства к действительности“, „Разрушение эстетики“—Антановіча, „мастацтва“—Прудона і інш. Усім гэтым захаплялася і зачытвалася розначынніцкая моладзь. Ад мастацтва патрабавалася ўжо не перайманне класікі, не знадворныя формы і прыёмы „акадэмічнага“ і афіцыйнага стылю, у якім выяўляліся погляды і настроі рэакцыйных, кансерватыўных пластоў дваранства і буржуазіі, а ўнутраная, глыбокая ідэйная насычанасць. Ад мастака патрабуецца, каб ён быў перш за ўсё крытыкам грамадскіх з'яў жыцця. Бо „якую-б карціну мастак ні намаляваў,—гаварыў Крамской,—у ёй ясна адлюструецца яго светапогляд, яго сімпатыі і антыпатыі, і, галоўнае, тая няўлоўная ідэя, якая будзе асвятляць яго карціну. Без гэтага святла—мастак нікчэмны“. Першым і буйнейшым прадстаўніком гэтага ідэйнага кірунку ў рускім выяўленчым мастацтве і з'явіўся Васіль Грыгор'евіч Пероў.

Яшчэ ў першай сваёй карціне, пра якую мы ўспаміналі ужо—„Прыезд станавога на следства“—Пероў жорстка крытыкуе бюракратычныя судовыя парадкі прыгонніцкай Расіі. Тут і самаздаволены п'янюга-станавы, які паспеў ужо атрымаць ад сялян „паднясенне“ (хабары), тут і паслужлівы, падхалімісты стараста—прадстаўнікі правасуддзя прыгонніцкай Расіі.

Але яшчэ з большай сілай і ўласцівай яму нянавісцю абрушваецца Пероў на рэлігію і духавенства ў карціне „Пропаведзь на сяле“ (1861 г.). напісанай на евангельскія словы: „Несць бо ўлады, ашчэ не ад бога“, і затым у карцінах „Сельскі крэсны ход на Вялікдзень.“ (1861 г.), „Піццё гарбаты ў Мыцішчах“ (1862 г.), „Манастырская трапеза“ (1865 г.) У гэтых карцінах мастак смела накіроўвае свой удар супроць рэлігіі і духавенства. Тут ён праўдзіва і глыбока, у навочных рэалістычных вобразах ускрывае сутнасць рэлігіі—прыслужніцы пануючага царска-памешчыцкага ладу. Ён з усёй уласцівай яму сатырычнай уедлівасцю навочна паказвае гледачу ўсю рэальнасць рэлігіі, яе хлуслівасць, прытворства і двудушнасць папоў, ускрывае іх класавую сутнасць,

паказвае дзікасць, абжорства, дармаедства гэтых папоў, якія, што павукі, высмоктваюць у мужыка сокі, жывуць на яго кошт і яго-ж калечаць, разбэшчваюць яго псіхіку, розум, светапогляд і даводзяць яго да п'янства, распусты,самагубства. І мастак усё гэта ўскрывае і паказвае гледачу з такой сілай сатыры, на вышыню якой рускае мастацтва ні да Перова, ні пасля яго не падымалася ў крытыцы і выкрыванні духавенства, у крытыцы буржуазна-прыгонніцкіх парадкаў у Расіі.

Карціна „Сельскі крэсны ход на Вялікдзень“, у якой мастак паказаў распусту, п'янства і дзікасць рускага духавенства і адсутнасць пашаны з боку сялян да рэлігіі—была зньята з выстаўкі і забаранялася царскай цэнзурай да рэпрадуктавання. За гэтую ўедлівую сатыру на рэлігію і духавенства, за трапную і вострую крытыку ўрада навальвалася на Перова і буржуазная крытыка. Яна пагарджала ім, ненавідзела і бесціла яго нібыта за адсталасць, некультурнасць. А. Бенуа ў сваёй „Истории русской живописи“ піша пра карціны Перова, што „ у жывапісных адносінах, у сэнсе прыгожасці фарбаў, пабудовы лініі і пісьма цікавыя чалавечыя дакуманты (г. зн. карціны Перова—*А. У.*) нічога роўна не даюць, і ва ўсіх адзін і той-жа самы тугі, цяжкі рысунак, той-жа цяжкі пакутлівы жывапіс, той-жа цмяны, мёртвы тон. Нарэшце ў іх заданні няма ніякай паэзіі. Тэндэнцыя замяняе думку, сантыментальнасць—пачуццё“. Такім чынам, Пероў, як мастак, скідаецца з актыва рускага мастацтва за сваю тэндэнцыйнасць (рэвалюцыйнасць) і „нежывапіснасць“.

Па слядах гэтай буржуазнай крытыкі ідуць і нашы новаз'яўленыя мастацтвазнаўцы, прадстаўнікі фармалізма, накшалт Фёдарава-Давыдава, які безагаворачна адмаўляе майстэрства, жывапісныя вартасці карцін Перова на той падставе, што ў іх пераважае „сюжэтыка“, на той падставе, што яны поўны глыбокага соцыяльнага зместу. Фёдараў-Давыдаў цягнецца ў хвасце буржуазнай крытыкі ў ацэнцы творчасці Перова, цалкам стаіць на пункце гледжання А. Бенуа. Розніца толькі ў тым, што Бенуа выступае адкрыта супроць Перова, а Фёдараў-Давыдаў робіць гэта сарамліва, погляды Бунуа прыкрывае фразеалогіяй. У сваім артыкуле, змешчаным у часопісі „Искусство“ за 1933 г. (№ 5) ён, таксама, як і Бенуа, адмаўляе жывапісныя вартасці карцін Перова перыяда 60-х гадоў, перыяда найбольш прегрэсіўнага ў творчасці мастака. Адзінай і „лепшай па майстэрству карцінай ён прызнае карціну ( стар. 137) „Паляўнічыя на прывале“ (1871 г.). Гэта—невялічкі млаюнак анекдотычнага жанра, вельмі слабы па жывапіснаму майстэрству, напісаны мастаком у гады яго хістанняў, у перыяд адыхода яго яд народніцкіх, асветніцкіх ідэй і перахода да рэлігійных ідэй, у гады адыхода мастака ад вострай палітычнай тэматыкі. Гэта надзвычайна характэрна і цікава, калі бяскрыўды мяшчанскі малюнак уздымаецца на шчыт, як вялікае мастацтва і выдаецца крытыкам за шэдэўр пероўскае творчасці, а ўвесь першы прагрэсіўны перыяд у творчасці Перова выкрэсліваецца, як перыяд, у які мастак нічога не даў „жывапіснага“. „Кампазіцыя,—піша Фёдараў-Давыдаў,—на ўсё жыццё асталася самым слабым месцам Перова. У гэтай галіне ён быў менш за ўсё арыгінальным і больш залежным ад акадэмічных традыцый“ (стар. 125). „Фігуры звязаны больш як дзейныя асобы аднаго сюжэту, чым як часткі адзінага жывапіснага збудавання. Раз'яднанасць прадметаў падкрэсліваецца раз'яднанасцю колера, у карціне няма адзінай звязваючай танальнасці“ (стар. 126). „Карціна прадстаўляе такім чынам не адзіны цэльны арганізм, а простую механічную суму асобных прадметаў, звязаных і аб'яднаных не жывапіснымі сродкамі, а толькі логі-

кай развіцця сюжэта“ (стар. 127)—вось эстэцка-фармалісцкі падыход у ацэнцы буйнейшага народніцкага мастака Перова, як жывапісца.

У 60-я гады Пероў стварыў усе свае лепшыя карціны не толькі ў тэматычных адносінах, але і ў жывапісных. Карціна „Праводзіны нябошчыка“—шэры халодны дзень. Бедная зімовая прырода. Па дарозе, запрэжаны ў сані, цягнецца худы, загнаны сялянскі конік. У санях—дамавіна. Каля дамавіны—двое застыўшых ад холада дзяцей, прыдушаная горам жанчына, павернутая спіной да гледача.

— „Як зрабіў мастак,—гаварыў у прамове над магілай Перова Грыгаровіч,—мы не ведаем. Гэта тайна высокага талента, але калі глядзіш на гэту спіну (прыдушанай горам жанчыны—*А. У.*)—сэрца сціскаецца і хочацца плакаць“.

„Праводзіны нябошчыка“—гэта шэдэўр рускага рэалістычнага мастацтва эпохі „передвиженчества“ як па кампазіцыі, так і па жывапіснаму майстэрству надзвычай моцна спаяная і цэльная рэч. Выраз твараў фігур, зімовы, халодны пейзаж—супадначалена, прыведзена ў агульную гармонію сумнага тону, выяўляе сабою асноўную ідэю і настрайвае гледача на сумны мінорны тон. Гэтую глыбіню адзінства пачуцця і думкі і цэльнасць выяўлення ідэй і настрою мы бачым і ў іншых яго карцінах: „Ля апошняга шынку“, „Сельскі крэсны ход на Вялікдзень“ (праўда, апошняя ў меншай ступені). Асабліва вялікая эмацыянальнасць і ідэйная псіхалагічная насычанасць дадзена мастаком у радзе яго першакласных партрэтаў „Дастаеўскі“, „Астроўскі“, „Пагодзін“, „Камынін“ і інш.

Пероў першы не на словах, а на справе абвясціў барацьбу Акадэміі. Ён першым выступіў у абарону прынцыпаў сапраўднага здаровага рэалізма ў рускім мастацтве. Пероў першым на простай, зразумелай для мас мове, мастацтва сказаў горкую праўду аб прыгонніцкай Расіі, першым агаліў і паказаў без усякіх акрас усю агіднасць паразіта-памешчыка і яго дапаможніка-папа. Ён не пашкадаваў фарбаў і для вострай соцыяльнай характарыстыкі купца-самадура ў карціне „Прыезд гувернантки“. А Фёдараў-Давыдаў бачыць у гэтым не сапраўдную жывую праўду рускай прыгонніцкай рэчаіснасці, якую мастак выявіў і рэалістычна праўдзіва паказаў з незвычайнай сілай і эмоцыяй, а толькі карыкатуру на купца і папоў.

Фёдараў-Давыдаў у ацэнцы Перова ідзе далей за Бенуа. Ён не толькі адмаўляе мастацкія вартасці карцін Перова, але ён нават спрабуе адкінуць і тое, што мусіў прызнаць у Перова Бенуа—гэта вострую сатыру на рэлігію і папоў, соцыяльную сатыру яго твораў. Папы ў Перова, на думку Фёдарава-Давыдава—гэта не сапраўдныя агідныя істоты з усім сваім ханжаствам, распустай, а толькі карыкатуры. Гэта значыць, што мастак, на думку Фёдарава-Давыдава, не паказвае сапраўднага твару духавенства, а толькі як-бы узводзіць на яго паклёп, абкарыкатурвае яго (стар. 124). Прытрымліваючыся гэтага прынцыпа, г. зн. прынцыпа выхалашчвання соцыяльнай завостранасці пероўскае творчасці, Фёдараў-Давыдаў ідзе далей. Ён гаворыць, што карціна „Манастырская трапеза“, як і астатнія карціны Перова, крытыкуючыя духавенства і рэлігію, па сутнасці не былі антырэлігійнымі (ст. 122). Такім чынам Фёдараў-Давыдаў звёў канцы з канцамі. Ён „даказаў“, што Пероў не толькі слабы мастак у жывапісных адносінах, але ён нават і не крытык грамадскіх з'яў жыцця, як гэта меркавалі раней. Ён не адмаўляе рэлігіі, а таму крытыкуе папоў, духавенства. Пытаем, як можна крытыкаваць і адмаўляць рэлігію, не крытыкуючы носбітаў яе ідэі? Папы-ж і манахі былі апорай самаўладства. Таму барацьба Перова супроць рэлігіі і духавенства была

ў значнай ступені палітычнай барацьбой. Фёдараў-Давыдаў гэтага не разумее, а рэакцыйная буржуазія і самаўладства гэта разумелі і невыпадкова ўсімі мерамі намагаліся вытруціць у творчасці Перова вострасць палітычнага зместу. Так, напрыклад, прад'яўлены мастаком першы эскіз да карціны „Сельскі крэсны ход на Вялікдзень" Акадэмія мастацтваў адхіліла і заявіла, што калі мастак будзе і на далей пісаць гэтую карціну, дык ён не атрымае ні першага залатога медалю ні заграніčнай вучэбнай камандыроўкі. Не зважаючы на гэта карціна ўсё-ж была напісана, але, як мы ўжо ведаем, знята з выстаўкі царскай цэнзурай у першы-ж дзень. Зацвярджаючы эскіз на першы залаты медаль „Прапаведзь на сяле", Акадэмія ўказала, што поп не павінен быць намалёваны ў рызе, а калі карціна, наперакор гэтым указанням Акадэміі вышла з-пад кісці мастака даволі ўедлівай, дык манархічны друк пастараўся замаўчаць яе.

„Манастырская трапеза", напісаная ў 1865 г., была забаронена і толькі з вялікімі цяжкасцямі дапушчана на пасмертную выстаўку мастакоў 80-х г. г.

І яшчэ больш смешна, калі Фёдараў-Давыдаў дакарае мастака за тое, што ён крытыкуе дзікасць, невуцтва духавенства, недахопы прыгонніцкага ладу, але не дае станоўчых ідэалаў (ст. ст. 122, 123, 136). Наіўна патрабаваць ад Перова соцыялістычнага рэалізма, таксама як смешна было-б патрабаваць ад Чарнышэўскага ідэй марксізма-ленінізма.

Пероў не толькі даў глыбокую, поўную сатыры, крытыку рэлігіі і выкрыў яе прадстаўнікоў-духавенства. Ён, як ніхто з рускіх мастаноў, здолеў глыбока ўвайсці ў псіхалогію адсталага загнанага і скалечанага прыгонніцкім ладам селяніна-бедняка. Ён паказаў яго слёзы, пакуты, адчай. У „Праводзінах нябожчыка" (1865 г.) і „Ля апошняга шынка" (апошняя як па майстэрству, так і па настрою—адна з лепшых карцін мастака) Пероў пры дапамозе лісіровак да надзвычайнасці глыбока, прачувана і тонка здолеў перадаць захад сонца, зімовы халодны вячэрні час. Вячэрняя густая і халодная атмасфера агартае рэчы, памякчае, згладжвае контуры прадметаў, іх абрысы. Адвячоркавыя, халодныя змрокі. Усё агорнута цемрай і настройвае гледача на сумны, мінорны тон. Туга, смутак, безнадзейнасць выяўлены мастаком з граніčнай выразнасцю. Ад карціны так і вее холадам. „Апошні шынок ля заставы"—гэта сімвал нерухомай, застыглай, халоднай прыгонніцкай Расіі. Ні прасвету, ні радасці жыцця. Усё застыгла, скамянела, змярцвела.

У гэтых двух невялікіх карцінах мастак надзвычай глыбока і моцна адлюстраваў дух сялянскага жыцця ва ўмовах прыгонніцтва, яго прыдушанасць. Гэтыя глыбокія па свайму драматызму і эмацыянальнай насычанасці творы яшчэ і цяпер выклікаюць у гледача моцныя эмоцыі, перажыванні і надоўга пакідаюць глыбокі след у яго памяці. Мадэлюючы, адцяняючы і асвятляючы асобныя дэталі ў карціне, прадметы, выяўляючы характары тыпаў, характар паказаных прадметаў пейзажа, Пероў надае ўсяму гэтаму тую ілюзорную бачнасць, света-поглядную філасофскую афарбоўку, якая ўласціва была яго поглядам, разуменням, яго ўспрыманню рэальнай рэчаіснасці, як мастака, што стаіць на пазіцыях народніцтва, успрымае і адлюстроўвае ў сваёй творчасці першага перыяда з'явы грамадскага жыцця прыгонніцкай Расіі з пункту гледжання асветніка-народніка 60-х г.г. Але паступова мастак нібы адыходзіць ад злобадзённай выкрываўчай тэматыкі і пераходзіць да паказу мяшчанскага шчасця, мяшчанскага добрабыту. Ён піша рад невялікіх малюнкаў анекдатычнага жанра,

нязначных па свайму зместу і нават слабых па свайму жывапіснаму майстэрству („Паляўнічыя на прывале“ (1871 г.), „Рыбалоў“ (1871 г.), „Галубятнік“ (1877 т.), „Батанік“ (1874 г.) і іншыя.

У другой палове 70-х г.г. сялянства і прагрэсіўнае народніцтва, нездаволеныя рэформай 1861 г. пачынаюць варушыцца. Пачынае наспяваць крызіс сялянскага рэволюцыйнага руху ў Расіі. У гэты-ж час Пероў нібы зноў вяртаецца да рэволюцыйнай тэматыкі. Ён шукае тэм з рэволюцыйнага руху сялян, але шукае не ў сучаснай яму Расіі, а ў яе мінулым, адыходзіць у гістарызм. Ён стварае рад малюнкаў эскізаў да карціны „Пугачоўскі бунт“, у якіх надзвычайна жыва і яскрава мастак намагаецца падаць, паказаць сялянскі рэволюцыйны рух часоў Пугачова. І нарэшце, ён стварае вялізнае палатно, сваю славутую карціну „Суд Пугачова“ (1879 г.), у якой паказвае суд, расправу Пугачова з памешчыкамі. Але ўжо тут мастак вагаецца. Ён не ведае, на чыім баку праўда. Пероў не спачувае прыгоннікам-памешчыкам, але не спачувае і ўчынкам Пугачова, расправе паўстаўшага сялянства з памешчыкамі. У гэтыя-ж гады, мастак, які працаваў над эпапеяй пугачоўшчыны, сялянскага паўстання, але якога ўжо апаноўвалі і турбавалі рознага роду сумненні,—піша „Хрыстос у Гефсіманскім саду“ (1875 г.) і ў тым-жа годзе—„Знятце з крыжа“. У творах выразна адчуваецца гаркота і расчараванасць мастака.

У 70-х г. г. народнікам не ўдалося падняць масавае сялянскае паўстанне супроць памешчыкаў і ўрада. У сувязі з гэтым пад канец 70-х г. г. у народніцтве адбываюцца ваганні, хістанні, разброд. У 1879 г. у Варонежы на з'ездзе партыя „Народнай волі“ распалася. Гэта неўстойлівасць, ваганні і хістанні ў народніцкіх партыях адлюстраваліся ў мастацтве і літаратуры.

Пад канец 70-х г.г. Пероў канчаткова адыходзіць ад злобы дня, адыходзіць ад пякучых перадвіжніцкіх тэм, пераходзіць да ўпадка, да рэлігійнай тэматыкі. У 1879 г. з'яўляецца яго карціна „Блажэнны“, а ў 1880 г.—„Нікіта Пустасвят“ і „Першыя хрысціяне ў Кіеве“, часам мастак не-не ды і ўспомніць пра ранейшае. У гэтыя-ж гады ён робіць спробу зноў вярнуцца да вострай злобадзённай тэматыкі 60-х год. У 1880 г. з'яўляецца яго невялічкая карціна „Зварот сялян з хаўтураў узімку“. Але тут ужо ні ў адной з гэтых карцін няма той глыбіні, мастацкай ідэйнай насычанасці, эмацыянальнай сілы і палітычнай вастрыні, якія мы назіралі ў творчасці мастака першага перыяда, г. зн. перыяда 60-х г. г., калі мастак стаяў на пазіцыях асветнікаў-народнікаў і ў сваіх творах кляйміў, выкрываў царкву, духавенства і чыноўніцтва аджываючага прыгонніцкага ладу.

Пероў належыць да тыпу мастакоў-рэалістаў, якія ў сваім творчым метадзе ідуць не ад вымысла, а ад жывой рэальнай рэчаіснасці. Яскравым прыкладам могуць служыць яго лісты з-заграніцы ў Акадэмію мастацтваў. У лісце ад 27 жніўня 1863 г да канферэнц-сакратара Ф. Львова, ён піша: „Агледзеўшы ўсё выдатнае, а таксама і парыжскую выстаўку, я знайшоў майстэрню з жаданнем пачаць працаваць і, зрабіўшы эскіз „Прадавац песеннікаў“, які складаецца больш як з дваццаці фігур, прыступіў да яго выканання, але знайшоў, што напісаць карціну зусім немагчыма, бо, не ведаючы ні народа, ні яго жыцця, ні характараў, не ведаючы тыпаў народных—што з'яўляецца асновай жанра—я не мог апрацаваць нават адной фігуры ў карціне, і таму пакінуў пачатую работу“. (Падкрэслена мною—*А. У.*).

І невыпадкова, што, прабыўшы за граніцай паўтары гады, Пероў не даў, не напісаў ніводнай каштоўнай і глыбока прадуманай рэчы. Ён

зрабіў некалькі малюнкаў, эксізаў, але нічога закончанага, цэлага, вострага і глыбока ідэйнага не даў.

Майстэрства само па сабе, фарбы дзеля фарбаў Перова не прыцягвалі і не цікавілі. Вышэйшая задача для яго, як для мастака народніка-асветніка, была ў тым, каб пры дапамозе гэтых фарбаў, майстэрства і праз яго проста і наочна паказаць жывую рускую рэчаіснасць без хлусні, без прыкрас, ускрываючы ўсю агіднасць буржуазна-прыгонніцкага ладу, яго бюракратызм і ханжаства. У першых сваіх творах ён імкнецца паказаць праўду жыцця ва ўсёй яе аголенасці. Паказаць яе па-мастацку, зьмененую адпаведна сваім асветніцкім поглядам, разуменням, свайму народніцкаму светапогляду і прымусіць гледача думаць над навакольнай рэчаіснасцю, над недахопамі грамадскага жыцця Расіі 60-х г. г. Таму яго карціны не здзіўляюць вас ні сваімі памерамі, ні выштукаваным жывапісным майстэрствам. Пероў не дзейнічае на гледача паказам у сваіх карцінах чаго-небудзь надзвычайнага, што выходзіла-б з раду вон, як гэта рабілі мастакі-акадэмісты Брулаў („Гібель Пампеі") або Бруні („Медны змій") і інш... Пероў паказвае ў сваіх карцінах простае штодзённае жыццё сялянства і гарадской беднаты („Праводзіны нябожчыка", „Зварот з хаўтураў", „Ля апошняга шынка", „Крэсны ход на Вялікдзёнь", „Піццё гарбаты ў Мыцішчах", „Тройка", „Бабыль з гітарай", „Тапельніца" і інш.). Але ён паказвае ўсё гэта з пачуццём, з глыбокай любоўю і праніклівасцю. Ён паказвае ўвесь трагізм цяжкага жыцця гэтых людзей. Вас у карцінах Перова здзіўляе не бліскучая мудрагельства жывапіснага майстэрства, не штучная выпукленасць кампазіцыйнага замысла, што дало магчымасць Фёдараву-Давыдаву абвінаваціць мастака ў тым, быццам у яго слабым месцам з'яўляецца кампазіцыя,—вас у карцінах Перова перш за ўсё здзіўляе прастата выразнасці, глыбокае пачуццё мастака, яго глыбока-філасофскае раздумванне над рэчаіснасцю, якая абкружае яго, у тых рамках, што былі яму даступнымі.

Гледача захапляе і здзіўляе ў карцінах Перова глыбокае разуменне мастаком жыццёвых з'яў і глыбокае іх абагуленне, але абагуленне не голае, не чыста-разумовага парадку, а абагуленне з'яў жыцця, малюнкаў прыроды ў непарыўным адзінстве пачуцця і думкі мастака, у адзінстве і ўзаемапраніклівенасці ўспрыйманняў, адчуванняў, уяўленняў і разуменняў аб з'явах грамадскага жыцця—у гэтым мастацкая значымасць і мастацкая сіла карцін Перова першага перыяда яго творчасці. У карцінах „Праводзіны нябожчыка" і „Ля апошняга шынка"—у іх аснове надзвычай моцна схоплена, кампазіцыйна і жывапісна выпуклена галоўнае ў жыцці сялян—гэта іх цемната, невуцтва, глыбокае гора і пакутванне ва ўмовах прыгонніцкага ладу. Але схоплена гэта розумам мастака, яго пачуццём, яго глыбокай назіральнасцю над жыццём рускага сялянства ў эпоху прыгонніцтва. Майстэрства Перова, як і наогул майстэрства ўсякага іншага мастака, яго тэхнічныя жывапісныя прыёмы, не ёсць нешта звонку прыўвайшоўшае. Мастак у працэсе работы над карцінай у жывапісным уцелясненні сваіх ідэй і замыслаў выяўляе і дапаўняе гэтыя ідэі, замыслы, без чаго яго ідэі і замыслы не могуць быць і не бываюць поўнымі. Можна нудна, суха і мёртва рэалізаваць глыбокія прыгожыя думкі і пачуцці, але яны тады не будуць глыбокімі, поўнымі і прыгожымі. Глыбіня ідэй не дойдзе да ўсведамлення гледача, калі мастак іх поўна, глыбока і ясна не прадумае для сябе і не рэалізуе сваім майстэрствам у сваім творы. Яны астануцца ў яго ў галаве, але не дойдуць да гледача, не дойдуць да мас. Ідэі Перова, асабліва

ў першы перыяд яго творчасці, даходзілі і даходзяць да гледача і глыбока закранаюць і хвалююць яго, бо яны глыбока перажыты самім аўтарам, адчуты ім, ясна і зразумела выяўлены на карціне. Без вялікага мастацкага майстэрства тэхнікі Пероў не мог-бы гэтага зрабіць. Вось чаму мы ніяк не можам згадзіцца з адмаўленнем майстэрства ў мастака Перова.

Пероў тварыў, заўсёды прытрымліваючыся толькі пэўнай, яму знаёмай рэчаіснасці. І гэтая рэчаіснасць, якая адлюстравана ў яго карцінах, асабліва ў карцінах першага перыяда, ім непасрэдна назіралася і глыбока вывучалася. У гэтым яго асаблівасць, у гэтым адна з характэрных рысаў яго творчага метада, як мастака-рэаліста. Пероў імкнецца не толькі адлюстраваць жыццё, рэчаіснасць, як яна ёсць, але, адлюстроўваючы гэту сапраўднасць, ён імкнецца і пазнаць яе, пазнаць глыбока, усебакова. Тыпы, скажам, духавенства Пероў нам падае ў самых рознастайных аспектах. Мы бачым папа і адносіны да яго сялян, памешчыка і інтэлігенцыі („Пропаведзь на сяле"). Поп заклікае сваю „паству" да пакорнасці, смірнасці і падначалення ўладам, а сяляне, слухаючы яго, чухаючы сваю патыліцу, думаюць зусім пра другое. Бачым вобраз папа ў карціне „Крэсны ход на Вялікдзень", дзе поп, п'яны, сыходзіць па ступеньках ганку сялянскай хаты, а ў гразі валяецца евангелле. Бачым мы духавенства і ў карцінах „Піццё гарбаты ў Мыцішчах" і „Манастырская трапеза", дзе яно распусьнічае, абжыраецца, а народ ходзіць вакол яго, жабруе, просіць падаць і г. д. І ўсю гэту папоўскую рэчаіснасць Пероў стараецца паказаць праўдзіва, у яе гранічнай поўнасці і шматграннасці.

У гэтых яго глыбокіх антырэлігійных карцінах, а таксама і ў карцінах: „Прыезд гувернанткі", „Праводзіны нябожчыка", „Ля апошняга шынка", „Тапельніца", адчуваецца глыбокае вывучэнне мастаком жывой рэчаіснасці. Таму і ў гэтых яго творах адчуваюцца надзвычайна праўдзівыя, шчырыя, і значыць не хутка праходзячыя жывыя вобразы, яскравыя карціны рускай сялянскай прыгонніцкай Расіі 60-х г.г. мінулага стагоддзя. Яны дыхаюць жыццём. Ад іх вее непадробленай праўдай і шчырай простасцю. Фёдараў-Давыдаў дакарае мастака ў тым, што Пероў, крытыкуючы парадкі буржуазна-прыгонніцкага ладу, адмаўляе іх, але не высоўвае дадатных, соцыялістычных ідэалаў. Фёдараў-Давідаў забываецца на адну маленькую дэталь—на тое, што крытыка дзікасці, невуцтва прыгонніцкага ладу для таго часу і было дадатным бокам у творчасці Перова. Крытыка Перовым духавенства, купецтва, памешчыцкага быту і спачуванне пакутуючаму, абяздоленаму сялянству, паказ яго, хоць і з сантыментальным адценнем—усё гэта было патрэбна і неабходна для далейшага разрыва з усім старым, аджываючым памешчыцкім бытам, прыгонніцкім ладам.

Мастацтва Перова было для таго часу самае патрэбнае і прагрэсіўнае.

Яшчэ **Энгельс** калісьці сказаў наконт утапічнага соцыялізма: „Ложнае ў фармальна-эканамічным сэнсе можа быць ісцінай у сусветна-гістарычным сэнсе". Пероў у крытыцы рэлігіі не адмовіўся ад клерыкалізма, у паказе сялян ён не адмовіўся ад сантыменталізма. Яго сяляне толькі церпяць ад існуючых буржуазна-прыгонніцкіх парадкаў. Яны псіхалагічна прыцiснуты і не праяўляюць свайго пратэста ў форме рэволюцыйнага руху. У гэтым сэнсе, Пероў, безумоўна, не меў рацыі. Але Пероў у сваёй творчасці мае рацыю ў гістарычным сэнсе. Яго творчасць была сімптомам, папярэднікам рабочага рэволюцыйнага руху ў Расіі. Сімптомам з'яўлення таго класа, які ў сваіх рэволюцыйных імкненнях, але пазней ужо, не на аснове асветніцкіх ідэй і народніцкіх

